І.С. Дварчанін



# ФРАНЦІШАК СКАРЫНА ЯК КУЛЬТУРНЫ ДЗЕЯЧ І ГУМАНІСТ НА БЕЛАРУСКАЙ НІВЕ



І.С.Дварчанін



# ФРАНЦІШАК СКАРЫНА

## ЯК КУЛЬТУРНЫ ДЗЕЯЧ І ГУМАНІСТ НА БЕЛАРУСКАЙ НІВЕ



**Пераклад з чэшскай мовы**
**Тамары Кароткай**

МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»
1991

ББК 83.3 Бел.1
Д22

Диссертация Игната Дварчанина (1895—1937), защищенная в 1926 г. в стенах Карлова университета в Праге, является первым в белорусском литературоведении исследованием о Ф. Скорине. Деятельность Ф. Скорины рассматривается с гуманистических позиций в общеевропейском контексте.

Рассчитана на филологов, историков, обществоведов, всех интересующихся историей белорусской культуры.

Рэцэнзент
канд. гістар. навук А. К. Каўка

Д $\frac{4603020102-058}{М\ 316(03)-91}$ 134—90


ISBN 5-343-00645-0 

## АД ПЕРАКЛАДЧЫКА

Прырода шчодра надзяліла Ігната Дварчаніна талентамі. Ён быў здольным педагогам, літаратуразнаўцам, паэтам, перакладчыкам, публіцыстам, выдаўцом, грамадскім дзеячам. Зрэшты, такое суквецце талентаў, сканцэнтраваных у адной асобе, было заўсёды ўласціва часу гістарычных зрухаў, калі абуджаны народны дух прагна шукаў свайго выйсця. Але ў гісторыі Беларусі, як і ў лёсе вельмі многіх яе выдатных людзей, надзвычай часта трагічна скрыжоўваліся сілы процістаяння. Так сталася і з Ігнатам Дварчаніным. Чалавек, якому суджана было богам займацца навукай, асветай і прыгожым пісьменствам, воляй лёсу быў кінуты ў вір палітычнай барацьбы. Сёння імя Дварчаніна вядома, бадай што, толькі навукоўцам * і тым «апошнім з магікан», хто яшчэ памятае яго палымяныя рэвалюцыйныя прамовы. Чакае свайго ўкладальніка раскіданая па шматлікіх выданнях мастацка-публіцыстычная спадчына Дварчаніна, патрабуе вывучэння яго «грамадаўская» і пасольская дзейнасць у польскім сойме, арганізацыйна-культурніцкая — у Белнацкоме. Ды і само жыццё самотнага рупліўца на ніве прыгожага пісьменства (І. Дварчанін не меў сваёй сям'і) тоіць яшчэ шмат нязведанага. Невядо-

* У 1990 г. у выдавецтве Варшаўскага ун-та выйшла кніга А. Баршчэўскага, А. Бергман, Е. Тамашэўскага «Ігнат Дварчанін — беларускі палітык і вучоны».

мы нават абставіны яго смерці і месца пахавання (выменяны ў 1932 годзе як палітвязень, ён быў праз год арыштаваны, а ў крывавым трыццаць сёмым знішчаны).

Але, як пісаў сам Ігнат Дварчанін у вершы «Брату-вучыцелю»,—

Не бойся, мой брат,
не загінуць зярняты,
Што ўкінеш ты вернай рукой,
Як дар яны з неба там будуць
прыняты
Даўно ўгатаванай раллёй.

Так, сёння час зноў працуе на абуджэнне чалавечага духу: па закону гістарычнай справядлівасці вяртаецца, нарэшце, чытачу першая манаграфія пра Францішка Скарыну, напісаная беларускім аўтарам. Вяртаецца, на жаль, ужо як помнік літаратуразнаўчай думкі, бо за тыя 60 з лішнім гадоў, якія прайшлі з часу абароны Ігнатам Дварчаніным дысертацыі «Францішак Скарына як культурны дзеяч і гуманіст на беларускай ніве», нацыянальнае скарыназнаўства рушыла далёка наперад.

Раздзеленыя чатырма стагоддзямі лёсы Скарыны і Дварчаніна між тым дзіўна перакрыжаваліся. І той, і другі, неспатрабаваныя Айчынай, мусілі рэалізоўваць духоўны і інтэлектуальны патэнцыял у Празе. І Дварчанін, і Скарына ў сваёй дзейнасці абапіраліся на здабыткі чэшскай культуры. Гэтаксама, як і Скарыну, Дварчаніна можна з поўным правам назваць будзіцелем, адраджэнцам, хай сабе і на другім адрэзку гісторыі. Спазналі абодва ў сваім ужо незямным жыцці занядбанне і сваёй спадчыны, і свайго імя. І як Дварчанін вяртаў народу напаўзабытага Скарыну, так Скарына, чыё пяцісотгоддзе абавязала даследчыкаў уважліва перагледзець напісанае пра яго, адкрывае беларусам

невядомага Дварчаніна. Так, несупаставімыя яны па маштабу здзейсненага, укладу ў скарбонку духоўнага прагрэсу, але роўныя ў любові да Беларусі і самаахвярным служэнні ёй.

Дысертацыю Ігнат Дварчанін абараніў у 1926 годзе пасля сканчэння філасофскага факультэта Пражскага універсітэта. Мяркуючы па тых матэрыялах, якія былі змешчаны ў канцы працы (а гэта вынятк**і** з дакументаў пра Скарыну, паасобныя прадмовы і пасляслоўі да яго выданняў ці іх фрагменты, падрабязнае апісанне кнігі «Ісус Сірахаў» з Нацыянальнага музея ў Празе, імянны паказальнік, бібліяграфія і інш.), можна лічыць цалкам верагодным, што Дварчанін хацеў выдаць дысертацыю асобнай кнігай. Інакш кажучы, распачаць беларускую старонку скарыназнаўства, падмацаваўшы яе неабходным даведачным апаратам.

Нялёгка, відаць, пісалася Дварчаніну. Пра гэта і сам ён не раз гаворыць у сваёй працы, спасылаючыся на «слабыя студэнцкія сілы». Пераадольваць прыходзілася не толькі некаторыя агульнапрынятыя погляды на Скарыну, але і супраціўленне чужой мовы, пісьмовы лад якой не так проста было засвоіць за чатыры гады. Зрэшты, уважлівы чытач сам заўважыць тыя моўныя «касагоры», якіх нават пры вялікім жаданні цяжка было пазбегнуць пры перакладзе.

Зараз, азіраючыся на пройдзеную ўслед за Дварчаніным моўную дыстанцыю і ўжо з іншымі пачуццямі ставячыся да яго выпакутаванага слова, я магу сказаць нашаму патрабавальна-дасведчанаму чытачу так: «Гэта быў Пачатак!». Ну а І. Лучыца-Федарца, Міласлава Зіму (ЧСФСР), Л. Чарнышову, Н. Мазоўку, якія дапамаглі мне сваімі парадамі і кансультацыямі, шчыра падзякаваць.



# I. УСТУП

Кожны, хто нанава бярэцца за вывучэнне Скарыны, першага беларускага кнігадрукара і перакладчыка Свяшчэннага пісання на народную мову, і пры гэтым абмежаваны ў сваёй працы адным горадам — сутыкнецца з вялікімі цяжкасцямі. Гэтыя цяжкасці вынікаюць найперш з недахопу саміх твораў Скарыны, дзе можна было б чэрпаць сабе матэрыял і рабіць нейкія пэўныя вывады. Кнігі Скарыны, хоць не з'яўляюцца зараз такой ужо бібліяграфічнай рэдкасцю, як творы многіх іншых пісьменнікаў яго часу, але іх мы нідзе не знойдзем сабранымі разам. Нават там, дзе існавала магчымасць і непасрэдная зацікаўленасць у іх зборы.

Зараз поўны збор твораў Скарыны знаходзіцца толькі ў Петраградскай публічнай бібліятэцы, як гэта бачна з артыкула праф. Сабалеўскага[1] (54, 321). Але і тут адсутнічае «Псалтыр» 1517 года, які

[1] Першая лічба абазначае парадкавы нумар у спісе выкарыстанай літаратуры (бібліяграфіі), наступныя — том (калі ёсць) і старонкі.

ёсць толькі ў адзінай бібліятэцы Нікольскага аднаверскага манастыра ў Маскве, былога Хлудава (124, 399).

Са звестак Каратаева (42, 28—44 і 56—67) мы ведаем, што па некалькі экземпляраў кніг Старога запавету ёсць у бібліятэках Расійскай Акадэміі навук, Каратаева, Румянцаўскага музея і інш. У бібліятэцы Каратаева ёсць яшчэ «Дзеянні Апосталаў» і кнігі, якія ўвайшлі ў зб. «Малая падарожная кніжка». Ёсць яны таксама ў бібліятэцы Акадэміі навук і калекцыі Чарткова.

«Псалтыр» 1525 года знаходзіцца яшчэ ў бібліятэцы графаў Красінскіх у Варшаве і кніжных зборах Кракаўскага універсітэта (124, 399).

З даследавання Папова (98, 13 і 25) вядома, што ў Кіева-Пячэрскай лаўры захоўваецца «Пяцікніжжа» Майсея, а ў бібліятэцы былой Курскай духоўнай семінарыі ён (аўтар) бачыў кнігі «Ісус Сірахаў», «Юдзіф», «Прамудрасць божая» і «Прытчы Саламона».

Яшчэ Добраўскі (7, 149—152) адзначае, што ў Мукачаве бачыў кнігі «Ісус Навін» і «Суддзі».

Пра іншыя бібліятэкі, дзе знаходзяцца зараз кнігі Скарыны, дакладных звестак мы не маем.

У Празе, у бібліятэцы Нацыянальнага музея, ёсць толькі кніга «Ісус Сірахаў», якую і мелі мы ў сваім карыстанні.

Маюцца таксама цяжкасці з дакладнымі першакрыніцамі для непасрэднай працы пры даследаванні жыцця Скарыны і характару беларускага асяроддзя ў яго час.

Спробы знайсці якія-небудзь прыкметы з жыцця і дзейнасці Скарыны, паколькі ў значнай ступені яны звязаны з Прагай, у архівах Нацыянальнага музея, Міністэрства ўнутраных спраў, гарадскога музея, гэтаксама, як і прагляд друкаваных «Monu-

mentů Universitatis Pragensis» *, «Чэшскай хронікі» (даведачная бібліятэка Нацыянальнага музея, ч. XXVI, т. 3) і час. «Гістарычны архіў Чэшскай Акадэміі» — таксама не далі жаданых вынікаў. А праф. Томэк прама сцвярджаў, што ў старых актах нічога не сказана аб месцазнаходжанні Скарыны ў Празе (78, 13).

Зыходзячы з гэтага, падставай нашай працы будуць паасобныя даследаванні вучоных, якія мелі ў сваім карыстанні першакрыніцы. Часта мы будзем абмяжоўвацца гатовымі вынікамі розных даследчыкаў, калі яны сыходзяцца на адной думцы.

Таму мы павінны агаварыцца, што вывады, зробленыя тут, будуць некампетэнтнымі, паколькі грунтуюцца яны на крыніцах і дапаможніках, якія знаходзяцца ў Празе. У іншым месцы і з другімі матэрыяламі мы спадзяёмся дапоўніць тое, што тут пададзім скарочана і схематычна.

Каб пры такім становішчы пазбегнуць кампіляцыі, мы будзем імкнуцца ў сваіх ацэнках абапірацца галоўным чынам на крыніцы, якія маем, а меркаванні даследчыкаў уводзіць у гістарыяграфічным аглядзе выказванняў на той ці іншы бок дзейнасці Скарыны, робячы пры гэтым свой вывад. Паколькі мэта працы адрозніваецца ад мэт папярэдніх даследаванняў, мы часта будзем карыстацца іншымі крыніцамі, даведнікамі і нават метадам працы, што, спадзяёмся, яшчэ больш засцеражэ нас ад кампіляцыі. Не будзем таксама закрываць вочы на тое, што ўсё гэта дастаткова цяжка і няпроста для слабой студэнцкай сілы.

Прагладаючы паасобныя даследаванні пра Скарыну, скрозь назіраем такую карціну: найперш вы-

* «Гістарычныя дакументы Пражскага універсітэта». Тут і далей пазначанае зорачкамі — заўвагі перакладчыка.

яўляюцца асобныя кнігі Скарыны і пры магчымасці апісваюцца. Так, Бакмейсцер (1, 65—69) апісвае «Пяцікніжжа» Майсея (гэтага апісання ў нас не было і таму спасылаемся на вялікую манаграфію Уладзімірава, гл. 43); Штрытэр (3,177—194) апісвае кн. «Царствы», «Юдзіф», «Эсфір», «Руф», «Іоў» і «Прарок Данііл» (43, 111); Аляксееў — «Дзеянні Апосталаў» (43, IV); Добраўскі (5, 184—186) зноў апісвае «Пяцікніжжа» і ўводзіць новыя дакументы. У працы «Institutiones...» (9, XIV) ён адзначае кнігі «Параліпаменон», «Ездры», «Прарокі» і «Махавеі». Звяртаецца да выданняў Скарыны ў сваіх працах Сопікаў (11, § 108), дзе апісвае цэлыя 22 кнігі Старога запавету. Віктараў (28) падрабязна даследуе Псалтыр 1517 года, Каратаеў — «Малую падарожную кніжку». У Буслаева (24, 197—206) мы бачым першую спробу навуковага выдання тэксту Скарыны (усе названыя кнігі мы мелі ў карыстанні, і ўпамінанні пра іх ёсць у працы Уладзімірава). Равінскі (26) і Стасаў (73, 30 і 40) апісваюць выданні Скарыны з мастацкага боку. Уладзіміраў у сваёй манаграфіі падагульняе працы папярэднікаў, робіць параўнаўчы аналіз тэкстаў Скарыны з перакладамі іншых выданняў. І, нарэшце, даведваемся з газет («Савецкая Беларусь», № 270 ад 23.XI.1924), што ў адным з манастыроў Віцебскай губерні знойдзена новая кніга Скарыны — «Евангелле вучыцельнае», якая чакае свайго апісання.

Паралельна з гэтымі матэрыяламі даюцца і пэўныя звесткі з жыцця Скарыны, якія мы мяркуем выкарыстаць пры напісанні біяграфіі.

Што ж да дзейнасці Скарыны, якой найперш мусім займацца ў сваёй працы, то амаль у кожным даследаванні можна знайсці нейкія ўпамінанні пра яе. Аднак больш сур'ёзнае яе вывучэнне пачынаецца толькі з 50-х гадоў мінулага стагоддзя, пры-

блізна з Вішнеўскага. У «Гісторыі...» (171) ён, абапіраючыся на матэрыялы папярэдніх прац, робіць новыя вывады, а таксама ўводзіць невядомыя звесткі, якія тычацца мовы Скарыны, яго жыцця і значэння ў беларускай літаратуры (паколькі VIII том «Гісторыі...» ў нас адсутнічаў, зноў спасылаемся на Уладзімірава: 43, XIV—XVI). Галавацкі (27) звяртае ўвагу на залежнасць дзейнасці Скарыны ад яго веравызнання, як быццам бы пратэстанцкага. «Беларус» (29) ставіць дзейнасць Скарыны ў залежнасць ад каталіцкага веравызнання, Віктараў — ад праваслаўнага. Апошні даследчык хоча, як ён кажа, пазнаць, «у чым заключаецца дзейнасць Скарыны ўвогуле» (28, 9), і закрануць пры гэтым «усеагульнае пытанне аб самой асобе Скарыны і тых імпульсах, якія далі напрамак яго выдавецкай і літаратурнай дзейнасці» (28, 17). Вахнянін (32) разглядае дзейнасць Скарыны ў кантэксце ўсёй сістэмы навучання ў Кракаўскім універсітэце (43, XXIV). Первольф закранае гэта пытанне ў розных працах і першы звяртае ўвагу на залежнасць перакладу Скарыны ад Чэшскай бібліі. Большую частку манаграфіі адводзіць разгляду дзейнасці Скарыны Уладзіміраў. Ён падагульняе папярэднія даследаванні і на іх падставе, а таксама на аснове новых крыніц спрабуе «зразумець асобу Скарыны з пункту гледжання культурнага жыцця Заходняй Русі ў XV—XVI стст., вызначыць накірунак і ўплывы яго літаратурнай дзейнасці...» і адначасова «даследаваць кнігі Скарыны з боку друкарскага майстэрства і моўных асаблівасцей...», як сказана ў прадмове да працы[1]. Даследчыкі пасля

[1] Падаём гэта скарочана і толькі найважнейшыя моманты, плануючы больш падрабязна спыніцца на іх пры аналізе асобных старонак дзейнасці Скарыны.

Уладзімірава мала што ўнеслі новага. Гэта былі хутчэй рэцэнзенты яго прац альбо гісторыкі літаратуры і друку, якія самі часцей за ўсё абапіраліся на кнігі Уладзімірава. Пазней новым аспектам скарыназнаўства, пра які не гаворыць Уладзіміраў, з'явіцца, хаця і мімаходзь, разгляд дзейнасці Скарыны як гуманіста.

Тэматыка нашай працы некалькі адрозніваецца ад папярэдніх даследаванняў. Акцэнт тут будзе зроблены на ўласна гуманістычны аспект — з'яву заходнееўрапейскую. Вось чаму мы хочам разглядзець дзейнасць Скарыны не толькі ў сувязі з культурным станаўленнем Айчыны, але і ў кантэксце з заходнееўрапейскім. Мы робім гэта і таму, што ўсё жыццё Скарыны ад самага дзяцінства (з 14 гадоў) аж да заканчэння ім працы ў Празе і нават потым было найбольш цесна звязана з заходнееўрапейскай культурай.

Наша праца, як сказана ў яе назве, мае пэўную скіраванасць — «Скарына як культурны дзеяч...» Гэта значыць, яна ставіць мэтай даследаваць светапогляд Скарыны, не засяроджваючыся на знешніх асаблівасцях яго прац, апісанні і параўнанні тэкстаў. Да той ступені, зразумела, пакуль яны не стануць адлюстраваннем ідэйных пошукаў Скарыны. У іншых выпадках мы будзем карыстацца гатовымі вынікамі даследчыкаў ці нейкімі іх схематычнымі накідамі.

У залежнасці ад таго, як змяняўся характар скарыназнаўства, мянялася і сама методыка даследаванняў, бо, як сказаў Бернгайм (187, 60), «выпрацоўка методыкі абумоўлена як у цэлым, так і па сутнасці характарам стымулявання і ўзроўнем зацікаўленасці ў ім, а таксама пытаннем, якое неабходна высветліць».

Так было і ў даследаваннях аб Скарыне. Пакуль

ішло вывучэнне яго прац, часцей за ўсё выкарыстоўвалася адна і тая ж методыка — філалагічная — «вывучэнне фактаў, якія ўзніклі як вынік дзейнасці чалавека ў слове, а таксама ўсебаковае даследаванне літаратурных помнікаў з моўнага боку, спосабу вымаўлення, паходжання, часу і месца пранікнення знешняга асяроддзя ў літаратурную абалонку» (187, 62—64).

З 60-х гадоў мінулага стагоддзя ў скарыназнаўстве пачала выкарыстоўвацца методыка, якую можна было б назваць публіцыстычнай. Згодна з ёй, «з'явы жыцця і літаратуры можна прымаць, пакуль яны адпавядаюць таму ці іншаму грамадскаму ідэалу і пакуль яны дапамагаюць яго ажыццявіць» (187, 34—35). Сюды можна аднесці ў першую чаргу працы Галавацкага, Гатцука, у меншай ступені — Віктарава.

Галавацкі, зрабіўшы вывад, што Скарына быў пратэстантам, называе яго па гэтай прычыне «перабежчыкам, палякам ці рускім лацінскага абраду, адукаваным самазванцам, які выдаваў Свяшчэннае пісанне без благаславення праваслаўнай іерархіі», чым заслужыў папрок Уладзімірава, што «яму не ставала спакойнага тону, аб'ектыўнасці і навуковай абачлівасці» (43, XVII—XVIII). Гатцук (30, 324) гаворыць: «На жаль, папярэднія навуковыя даследаванні глядзелі на гісторыю цывілізацыі Паўднёва-Заходняй Русі гэтаксама, як і на яе гісторыю друку, толькі з двух пунктаў гледжання: польскай і нямецкай. Ніхто не звярнуў увагі, што Скарына... пераносіць першую друкарню на Русь...» Віктараў (28, 20) адзначае: «У нас ёсць надзея, ёсць права думаць, што гэты выдатны дзеяч належаў да праваслаўя... і што ... быў папярэднікам не Буднага, Цяпінскага і езуітаў, а кн. Астрожскіх, Мамонічаў і Пятра Магілы...» У нейкай ступені гэта

апошняе меркаванне, аднак, можна разглядаць як вынік даследавання. Пра слабейшыя працы мы тут не гаворым.

Методыку самага вядомага даследчыка праф. Уладзімірава можна назваць гістарычнай, задача якой «пошук сувязнога звяна паміж з'явамі літаратуры і агульнагістарычнымі з'явамі, а таксама патрэбна высветліць генетычнае паходжанне адной з'явы з другой у залежнасці ад жыцця народа» (187, 37—39). Разам з галоўнай методыкай ён выкарыстоўвае і іншыя.

Пасля Уладзімірава маштабныя даследаванні пра Скарыну не праводзіліся ці, дакладней кажучы, яны абмяжоўваліся філалагічным (Сабалеўскі, Карскі і інш.) ці гістарычным (Пыпін, Карскі і інш.) падыходам.

Мы таксама будзем прытрымлівацца часцей за ўсё гістарычнай методыкі, але паспрабуем пашырыць гарызонты даследавання на заходнееўрапейскую глебу і, галоўнае, разгледзім дзейнасць Скарыны ў кантэксце славянскай культуры. Пры неабходнасці будзем карыстацца і іншымі методыкамі, у прыватнасці — параўнаўчай. Аднак мусім зноў жа агаварыцца. Паколькі мы не маем прац Скарыны і іншых важных крыніц, то гэта не дазволіць нам выкарыстаць параўнаўчы метад ва ўсёй яго паўнаце. Найчасцей будзем карыстацца матэрыяламі і вынікамі тых даследчыкаў, хто меў першакрыніцы на руках.

Зараз акрэслім больш канкрэтна, які матэрыял ёсць у нашым распараджэнні для аналізу дзейнасці Скарыны (пра матэрыялы да біяграфіі будзе сказана асобна).

Па-першае, тая адзіная кніга з выданняў Скарыны («Ісус Сірахаў»), якая знаходзіцца ў Нацыянальным музеі (сігн. № 64Д7).

Па-другое, тыя фрагменты прадмоў і пасляслоўяў Скарыны да паасобных кніг, якія былі змешчаны ў навуковых працах і якімі мы мелі магчымасць карыстацца.

Па-трэцяе, творы сучасных Скарыне пісьменнікаў ці выняткі з іх, а таксама помнікі прыгожага пісьменства ўвогуле, наколькі яны маглі быць карыснымі для высвятлення сутнасці Скарынавай дзейнасці з культурна-гістарычнага пункту гледжання і з мэтай параўнання.

У якасці дапаможнікаў выкарыстаны:

а) меркаванні паасобных даследчыкаў, па магчымасці сталыя, пра тыя месцы ў творах Скарыны, якія ў нас адсутнічаюць [1];

б) агульнапрынятыя вывады даследчыкаў пра тэхнічны бок выданняў Скарыны;

в) усталяваныя вывады дапаможных дысцыплін, якія маюць дачыненне да праблематыкі нашага даследавання.

І яшчэ некалькі заўваг і тлумачэнняў.

Паколькі прадмовы і пасляслоўі дайшлі да нашага часу, мы лічым іх найважнейшымі крыніцамі пры вывучэнні дзейнасці Скарыны. Яны нагадваюць нам сучасную публіцыстыку, у якой аўтар выказвае сваё ідэйна-грамадзянскае крэда ці штосьці такое, з чаго можна было б зразумець яго погляды на тыя ці іншыя рэчы, яго адносіны да тых ці іншых ідэйных памкненняў часу. Па прычыне іх выключнай каштоўнасці і для таго, каб мець уяўленне аб памерах і паўнаце тых рэштак, якімі мы карысталіся, мы прыйшлі да неабходнасці выпісаць іх з паасобных навуковых прац і прыкласці ў канцы

---

[1] Уся літаратура аб Скарыне прыведзена ў канцы працы.

даследавання як своеасаблівы збор *. Туды не ўвайшлі толькі невялікія часткі і выразы, якія мы будзем цытаваць у працэсе працы.

Сам тэкст усяго перакладу мы будзем лічыць ажыццяўленнем адзінай і галоўнай мэты яго творцы — даць свайму народу Свяшчэннае пісанне на зразумелай яму мове «богу ко чти и людем посполитым к доброму научению», як пастаянна адзначаў сам Скарына. Мы гэту думку вылучаем як асаблівы і найважнейшы пункт даследавання, каб высветліць, што, уласна кажучы, прывяло Скарыну да яе, што дало яму натхненне. Але агаворымся, што тычыцца гэта толькі пражскіх твораў, паколькі яны непасрэдна вынікалі з задумы і часткова прадвызначылі характар і напрамак пазнейшай дзейнасці.

Трэба сказаць, што ў творчасці Скарыны мы адрозніваем пражскі і віленскі перыяды як плён розных часоў і розных асяроддзяў. Віленскія творы мы будзем разглядаць асобна, дзе раскажам больш падрабязна, чаму іх вылучаем, і адначасова высветлім узаемасувязь абодвух перыядаў. Гэты падзел зроблены амаль усімі даследчыкамі, але ён быў толькі храналагічным. Мы падзяляем дзейнасць Скарыны на перыяды на падставе яго адносін да першапрычыны, якая выклікала гэту дзейнасць, і адметнасці іх увогуле.

Такім чынам, пераходзім да структуры нашай працы.

Паводле папярэдне зробленых тлумачэнняў, мы паспрабуем высветліць прычыны, якія заахвоцілі Скарыну да працы. Да таго ж разглядаць іх будзем у сувязі з нейкімі прыватнымі момантамі жыцця (раздзел III), што дапаможа нам зразумець яго як чалавека.

---

* Дадаткі да манаграфіі І. Дварчаніна ў кнізе апушчаны.

Потым пяройдзем да разгляду паасобных аспектаў дзейнасці Скарыны як мысліцеля. Будзем рабіць гэта на аснове яго пражскіх твораў, галоўным чынам прадмоў і пасляслоўяў да іх.

Далей асобна спынімся на віленскіх выданнях. Гэтыя два раздзелы і ахарактарызуюць Скарыну як пісьменніка.

Потым, дзеля поўнага ўяўлення аб культурнай дзейнасці Скарыны, высветлім, як праз знешні бок выданняў выявілася яго індывідуальнасць. Гэта значыць, гаворка пойдзе пра Скарыну як кнігадрукара.

Вынікі свайго даследавання мы падагулім і суаднясём з ідэйным рухам усёй Еўропы часоў Скарыны. Паспрабуем таксама растлумачыць дзейнасць Скарыны як гуманіста.

У заключэнне пакажам уплыў Скарыны на сучаснае яму і наступнае развіццё грамадскай думкі на Беларусі, а па магчымасці — і за яе межамі.

Такім чынам, тэма нашай працы — «Францішак Скарына як культурны дзеяч і гуманіст на беларускай ніве» — дазволіць нам расказаць пра Скарыну як пра чалавека, пісьменніка, кнігадрукара, гуманіста ўвогуле і нацыянальнага дзеяча (месца яго ў сучасным грамадстве, уплыў і значэнне).

А зараз звернемся да біяграфіі.





## II. БІЯГРАФІЯ СКАРЫНЫ

Біяграфія любога дзеяча важная не толькі сама па сабе, але і як магчымасць зразумець яго дзейнасць праз асяроддзе, у якім ён жыў і працаваў.

Першынства ў вывучэнні жыццяпісу Скарыны належыць італьянскаму абату Дарыгелу, які выявіў матэрыялы аб экзамене Скарыны на званне доктара медыцыны ў Падуанскім універсітэце. Але яго праца «Laureati nella universita di Padova» * заставалася невядомай шырокаму вучонаму свету больш за сто гадоў, пакуль Шляпкін не ўспомніў пра яе (65, 382—385).

У славянскім вучоным свеце звярталіся да біяграфіі Скарыны часцей за ўсё на падставе відавочных фактаў, змешчаных у яго творах. Так, Бакмейсцер, а за ім і іншыя адзначалі, што Скарына друкаваў свае кнігі ў Празе, але мелі на ўвазе Прагу пад Варшавай (43, уступ). Добраўскі звярнуў увагу на тое, што ў скарынаўскіх прадмовах заўсёды пісалася «у вѣликом, старом, славном месте Празском», што больш сведчыла аб Празе чэшскай (5,

* «Лаурэаты Падуанскага універсітэта».

183), куды Скарына мог тым больш прыехаць, бо кароль Жыгімонт быў тады апекуном маладога караля Людовіка.

Мітрапаліт Яўген (14, 169—172) сцвярджае, што Скарына быў родам з Полацка і жыў у Вільні ў бургамістра Якуба Бабіча (43, XI).

Копітар (18, 33—34), былы доктар Пражскага універсітэта, на аснове легенды, што зберагласяў матэрыялах Вітэнбергскага гарадскога архіва, у якой гаворыцца пра нейкага Францішка Паляка, які ў 1525 годзе меў тут гутарку з Лютэрам і Меланхтонам, выказвае здагадку, што гэтым чалавекам мог быць Скарына.

Вішнеўскі (20) да папярэдніх даследаванняў дадаў той факт, што Скарына вучыўся ў Кракаве і як быццам бы атрымаў тут ступень доктара медыцыны і вольных мастацтваў. Аднак першакрыніцы, з якой гэта бачна, ён не паведаміў.

Значную частку свайго даследавання прысвячае біяграфіі Скарыны Уладзіміраў (43, 43—67). Абапіраючыся на аўтэнтычныя дакументы, ён крытыкуе папярэднія працы і прыводзіць новыя матэрыялы, знойдзеныя ім у «Собрании государственных и частных актов, касающихся Литвы и соединенных с нею владений» Круповіча (Вільня, 1858), у двух граматах князя Жыгімонта і ў двух граматах, змешчаных у «Книге Коронных Метрик». (Дзве апошнія ён прывёў як асобныя дадаткі да працы.) На падставе ўсяго гэтага ён і піша біяграфію Скарыны.

Пасля Уладзімірава, акрамя Шляпкіна, пра якога мы ўпаміналі, толькі ў 1917 годзе Мілавідаў (110) публікуе чатыры граматы прускага герцага Альбрэхта, якія тычыліся Скарыны.

Якія матэрыялы ёсць у нашым распараджэнні для напісання біяграфіі Скарыны?

У першую чаргу — заўвагі ў творах Скарыны,

якімі мы маглі карыстацца з названых раней матэрыялаў. Па-другое, дакументы, прыведзеныя Уладзіміравым у дадатках да сваёй працы. Па-трэцяе, дакументы аб экзамене ў Падуі, якія надрукаваў Шляпкін. Па-чацвёртае, граматы Мілавідава. Далей ужо як дапаможнікі наяўныя даследаванні. Галоўным чынам — кніга Уладзімірава ў тых яе месцах, дзе аўтар цытуе крыніцы, якіх мы не мелі, і, акрамя гэтага, прыводзіць звесткі і робіць іх аналіз пра аналагічныя з'явы на Захадзе і найперш у славян.

Скарына нарадзіўся ў г. Полацку на Беларусі, як гэта можна бачыць амаль з кожнай прадмовы і пасляслоўя да яго твораў: «с Полоцька», «из славнаго града Полоцька» і г. д. Відаць гэта і з Падуанскіх актаў і заўваг да актаў Кракаўскіх (43, 51—52).

Калі нарадзіўся — дакладна невядома. Уладзіміраў выказвае здагадку, што прыблізна ў 1490 годзе, на той падставе, што як быццам бы ў 1504 годзе Скарына быў прыняты ў Кракаўскі універсітэт і мусіў мець на той час 14 гадоў. Сведчанне пра 1504 год Уладзіміраў узяў з выпіскі, зробленай Пташыцкім з універсітэцкай «Метрыкі» (т. I, ліст 500-в): «Anno 1504, Commutatione hiemali sub rectoratu Iohanis de Cracovia etc... Franciscus Luce de Ploczko, solvit 2 gr.» * (43, 52).

Ці можна гэта меркаванне лічыць бясспрэчным? Бадай што не. І вось чаму. Як сведчыць Мучкоўскі (Statuta nec non liber Promotionum Philosophorum ordinis in universitate Jagellonica, Cracoviae,

* «У год 1504 у зімні семестр пры рэктарстве Яна ... з Кракава ... і г. д. Францыск сын Лукі з Полацка заплаціў два гр.» (Пераклады з лацінскай мовы падаюцца паводле Л. Чарнышовай і кнігі «Францыск Скарына: Зб. дакументаў і матэрыялаў». Мн., 1988.)

1849) *, ступень бакалаўра на філасофскім факультэце Кракаўскага універсітэта атрымаў Frantiscus de Poloczko Litphanus (43, 51). Калі мы прызнаем, што гэта быў Скарына, узнікае пытанне: ці мог ён за два гады навучання ва універсітэце атрымаць ступень бакалаўра? Вішнеўскі (171, IV, 269) прама адзначае, што для таго, каб быць дапушчаным да здачы экзамена на ступень бакалаўра, трэба было правучыцца ва універсітэце пяць гадоў. Для Скарыны гэты факт тым больш важны, яго дзяцінства прайшло ў родным Полацку, дзе не было ніякай школы, якая б падрыхтавала яго слухаць лекцыі ва універсітэце на лацінскай мове. Прыходскія лацінскія школы на Беларусі ў яго час былі толькі ў Вільні і Троках (101, I, 131). Аб пачатковым навучанні Скарыны выказвае здагадку і Уладзіміраў (43, 51, 83 і інш.). Мы гэта пазней абгрунтуем больш доказна.

Такім чынам, пры вызначэнні года нараджэння Скарыны неабходна сыходзіць не з 1504 года, а з 1506 як больш верагоднага. А ў заўвагах да актаў «Метрыкі» год 1504 трэба разумець не як дакумент аб прыёме ва універсітэт, паколькі ў 1506 годзе ён ужо атрымаў ступень бакалаўра.

Ад 1506 года аднімаем пяць гадоў навучання ва універсітэце — ці то ў Кракаўскім, ці напачатку ў якім-небудзь іншым. Вылічаны так 1501 год будзем, уласна, лічыць годам першага прыёму ва універсітэт. Аднімем чатырнаццаць гадоў, як гэта зрабіў Уладзіміраў, і атрымаем такім чынам прыблізны год нараджэння Скарыны: 1487.

Але і ў гэтым выпадку павінны сказаць, што вы-

---

* «Загады і спісы (асоб), якім прысвоена філасофская ступень у Ягелонскім універсітэце, Кракаў, 1849».

значаны такім шляхам год можна прызнаць толькі як храналагічную мяжу. Прыём ва універсітэт быў абмежаваны не ніжэй, як чатырнаццаццю гадамі. Старэйшыя слухачы таксама маглі быць прыняты, як гэта бачна з прыкладу Пражскага універсітэта таго часу. «Рыгор Пражскі ... трымаў экзамен на ступень бакалаўра ... у 1460 годзе ..., з чаго можна заключыць, што ён нарадзіўся прыблізна ў 1440 годзе» (169, IX, 229). Значыць, сітуацыя такая ж, як і са Скарынам. Але другі прыклад. «Магістр Вацлаў Коранда нарадзіўся каля 1423 года, а ў 1454 годзе, г. зн. у 31 год, стаў бакалаўрам» (169, IX, 36). Уладзіміраў таксама гаворыць, што «згодна правілаў універсітэта ён павінен быў мець не менш 14 гадоў» (43, 44).

Таму на падставе вышэйсказанага можна сцвярджаць: Скарына нарадзіўся ў 80-х гадах XV стагоддзя, дзесьці каля 1487 года. Тады і больш сталы Скарына на сваім аўтапартрэце, які змешчаны ў кнізе «Ісус Сірахаў» 1517 года, дзе яму гадоў трыццаць ці больш (43, 44), будзе цалкам адпавядаць названым гадам.

Бацьку Францішка звалі Лукаш. Звесткі пра гэта ўведзены Копітарам і Уладзіміравым (43, 52). Пасля публікацыі Падуанскіх актаў гэта можна лічыць бясспрэчным, што і робіць Шляпкін і іншыя.

Імя маці невядома. Сустракаюцца імёны старэйшага брата — Іван і яго сына — Раман; стрыечнага брата — Эська, Еська, а дакладней — Ян, Яська ў цяперашнім народным вымаўленні (43, 43).

Трэба адзначыць, што Францішак меў і другое імя — Юрый (Георгій), якое знайшоў Уладзіміраў у граматах Круповіча (43, 35). Да Уладзімірава надрукаваў гэта імя Петрушэвіч (31), пра якое ён даведаўся з подпісу пад аўтапартрэтам Скарыны ў

«Крестном календаре», выдадзеным у Маскве ў 1873 годзе (37, 155).

Уладзіміраў сцвярджае, што сям'я Скарыны была багатая і ў доказ гэтага прыводзіць наступнае: а) у 1552 годзе ў рэвізіі Полацкага ваяводства з'яўляецца Еська Скарына, за землі якога 21 гараджанін заплаціў дзве капы * 17 гр. («Scriptores rerum Polonicarum» ** V, стар. 184); б) сям'я мела розныя зносіны «з немцамі» (з замяжжой) і з Вільняй. Брат Францішка, Ян, быў у Рызе і там пазычыў віленскаму мешчаніну 22 капы грошай, а сын яго Раман, як паведамляюць граматы, «служыў у немцаў»; в) той жа Іван, маючы нерухомую маёмасць у Полацку, валодаў да таго яшчэ, як і яго сын Раман, правам віленскага мешчаніна (43, 46).

Да Уладзімірава выказаўся аб багацці Скарыны Вахнянін, маючы на ўвазе той факт, што Скарына ажыццяўляў выданні за свой кошт (37, 155).

Аб багацці сведчыў бы, відаць, таксама сам факт навучання ў замежных універсітэтах.

Аднак матэрыялы, якія тычацца непасрэдна самога Францішка, даюць падставу адносіцца да меркавання пра багацці, паўторанага ў шматлікіх рэцэнзіях і папулярных працах аб Скарыне, з пэўнай асцярожнасцю. І вось чаму:

а) Падуанская грамата сведчыць прама: «Juvenis artium doctor pauper... a longuissimus partibus forsan... contulit et velit sibi concedi de dono et de gratia ac amore Dei...» *** трымаць экзамен (грама-

---

* Капа — 60 адзінак грошай.

** «Апісанне польскіх дзеянняў».

*** «Малады чалавек, доктар мастацтваў, бедны... родам з надзвычай далёкіх краёў ... звярнуўся з просьбай дазволіць яму ў якасці дару і асобай міласці з ласкі Божай...».

та I, прамова віцэпрыёра Мусаці). Потым менавіта сам Скарына «peti/v/it humiliter» *;

б) на многіх экземплярах пражскіх выданняў Скарыны зроблены надпісы (почыркам XVI стагоддзя і шрыфтам друкаваных кніг Скарыны): «а то се стало накладом Богдана Онкова сына радци места виленского» (43, 47), што таксама не сведчыць аб багацці і цалкам абвяргае сцвярджэнне Вахняніна;

в) у пасляслоўі да кнігі «Апостал» з віленскіх выданняў сказана, што друкарню сваю Скарына ўладкаваў «въ дому почтивого мужа Якуба Бабича наистаршего бурмистра славнаго и великаго места виленскаго», што падобна на тыповае прысвячэнне ў стылі бедных пісьменнікаў, як гэта даводзіць Кадлэц (136);

г) у другой грамаце прускага герцага гаворыцца: «Non egregium multique eruditionis virum Franciscum Skorinam...» **, што ўказвае на нязнатнасць роду;

д) шлюб з удавой і шматлікія суды за маёмасць жонкі, калі Скарына мусіў прасіць заступніцтва біскупа Яна, князя Жыгімонта і прускага князя, ўказваюць, што ўсё гэта мела надзвычай вялікае значэнне для Скарыны.

Калі так, мы павінны нанава перагледзець прыведзенае меркаванне пра багацце. Высвятляецца, што а) маёмасць Еська сапраўды атрымаў ад свайго цесця Яна Скарыны. Але той факт, што суду ён не мог прадставіць ні адной квітанцыі ні ад Францішка, ні ад самаго швагра Рамана, гаворыць пра тое, што тыя апошнія не мелі ніякага дачынення да

---

* «пакорліва прасіў».

** «Мы прынялі і прыпісалі да ліку падданых і верных нам слуг выдатнага, шырокай эрудыцыі мужа Францыска Скарыну...»

маёмасці і што Еська атрымаў яе не па спадчыне, а набыў нейкім іншым шляхам. Магчыма, разам са сваім цесцем; б) пазыка грошай наўрад ці гаворыць пра багацце, якое мусіла быць тады зарукай. Гарантыяй мог служыць і яго маральны характар, і прадпрымальнасць. Акрамя таго, пра заруку ў грамаце няма ані слова; в) правы віленскіх мяшчан забяспечваліся не толькі багаццем, але і трывалай актыўнасцю Францішкавага брата і пляменніка. Урэшце, як і аналагічныя правы прыдворнага і прускага падданага, здабытыя самім Францішкам. Магла сыграць тут ролю і пэўная пратэкцыя ў Вільні таго ж вучонага брата Пятра Сакалоўскага. Што ж тычыцца навучання Францішка ў замежных універсітэтах, то гэта таксама не выходзіла за межы ўстаноўленага парадку. Вандроўнымі студэнтамі была тады запалонена ўся Еўропа (73, 254—256). А што сярод іх маглі быць і студэнты з Беларусі, сведчыць факт атрымання вучоных ступеней у Пражскім універсітэце яшчэ да Скарыны многімі выхадцамі з Літвы (цяперашняя Літва, Беларусь і Украіна). Сярод іх многія відавочна гарадскога паходжання. У Банонii * студэнты з Літвы складалі цэлае пасяленне, як гэта бачна з апісання т. зв. «нямецкага народа» ў 1497 годзе (168, 257). Такім чынам, студэнт з Літвы-Беларусі быў на Захадзе звычайнай з'явай. Гэта можна аднесці і да Скарыны.

Так, прыведзеныя факты не гавораць пра багацце, але даюць падставу меркаваць пра яго больш абачліва. Ва ўсякім разе гэта ўяўнае багацце мы павінны звесці да простай заможнасці ці нават паўтарыць за Агіенкам (99, 12, 182), што прычынай асабістай беднасці Францішка, якая была відавоч-

* Банонія — лацінская назва г. Балоння.

най у час здачы экзаменаў у Падуанскім універсітэце (мяркуем, што і далей), была смерць бацькі, які памёр незадоўга да гэтага. У актавых запісах Падуанскага універсітэта ўсюды паўтараецца: «Franciscus quodám domini Lucae» *.

Спыніліся мы на гэтым па той прычыне, што лічым важным для далейшага даследавання, найперш для характарыстыкі Скарыны.

Аб нацыянальнасці Скарыны сведчаць яго творы і паходжанне з Полацка. Сам Скарына аб сваёй нацыянальнасці гаворыць: «Азъ ... нароженый в руском языку» (прадмова да кн. «Прарок Даніїл»). Мову некаторых выданняў ён называе сваёй прыроджанай мовай, а ў прадмове да Псалтыра 1517 года раскрывае мэту сваёй працы: «К пожитку посполитого доброго, наболей с тое причины, иже мя милостивый бог с того языка на свет пустил» (43, 44). Скарына называе сябе «Ruthenus». Гэтаксама як і Уладзіміраў, які прааналізаваў мову Скарыны (43, 248—318), будзем лічыць яе, як і нацыянальнасць Скарыны, беларускай.

Дзіцячыя гады Скарыны прайшлі дома, у Полацку. Меркаванне аб гэтым Уладзіміраў абгрунтоўвае тым, што выданне першай кнігі — «Псалтыра» — прысвечана «детем малым». Як вядома, на Беларусі «Псалтыр» выконваў функцыю падручніка. А значыць, Скарына ведаў патрэбу ў яго выданні. З гэтага можна зрабіць вывад, што і сам ён па ім вучыўся. Можам прывесці доказ яшчэ больш пераканаўчы і ўласна пра Полацк. Мова Скарыны ўтрымлівае характэрную асаблівасць полацкага дыялекту, якая выяўляецца ў чаргаванні «ч» і «ц». Пры апісанні кнігі «Ісус Сірахаў» усе асаблівасці мы вылучым. Уладзіміраў таксама адзначае моў-

* «Францыска, сына нябожчыка Лукі...»

ную адметнасць (43, 275), не суадносячы яе, аднак, з дзіцячымі гадамі. На нашу думку, гэту асаблівасць Скарына мог захаваць толькі з дзяцінства, калі закладваецца мова.

Па нашых падліках, у 1501 годзе Скарына меўся быць у Кракаве на філасофскім факультэце універсітэта. Факультэт, паводле апісанняў усіх даследчыкаў, меў сярэдневяковы характар навучання, у ім яшчэ трывала панавала схаластыка. «Найбольш часу ішло на вывучэнне метафізічных кніг Арыстоцеля і на дыспуты» (171, IV, 320). Публічных лекцый у т. зв. старэйшай навучальнай установы было шэсць: Арыстоцель, Сакрат, Марон, Сален, Пталамей, Платон. Па гэтых жа аўтарах чыталіся лекцыі па тэалогіі і выбраных навуках (171, IV, 324). «Хто хацеў атрымаць ступень бакалаўра, павінен быў наведваць тлумачэнні наступных кніг: «Secunda pars Alexandri, liber nove Poetriae aut exircitium Rhetorice compulus chyrometralis, tractatum Petri hispani, vetus ars, bibli priorum et posteriorum, liber de anima, liber opherae materialis» * (171, IV, 301; правапіс аўтара). Паводле Уладзімірава (43, 52—53), былі яшчэ лекцыі пра Салюсція, Вергілія, Сенеку, вывучалася старая граматыка Даната, астралогія. «Школа была хутчэй членам папскай Еўропы» (171, IV, 394). Але можна заўважыць ужо і сляды навейшых уплываў (класічная літаратура). «Дзякуючы непасрэдным сувязям з Італіяй і рымскай курыяй, дзе неаднойчы сыходзіліся гуманістычныя плыні, гуманізм хутка перайшоў Альпы і Карпаты» (140, I, 37). У той час працаваў ва універсітэце Бернард Вапоўскі, кракаўскі канонік, гу-

---

* «Другі раздзел Аляксандра, кніга новай паэтыкі альбо практыкаванні ў рыторыцы, трактат Пятра іспанскага, старажытнае мастацтва (логіка.— Л. Ч.), кнігі мінулых і наступных пакаленняў, кніга пра душу, кніга пра матэрыяльны свет».

маніст і даследчык у галіне астраноміі (140, I, 78). Як прафесары наведваліся ва універсітэт і шматлікія італьянскія вучоныя (171, IV, 119). У 1495 годзе прыязджаў ужо славуты тады нямецкі гуманіст Конрад Цэльтыс (140, I, 39). Сярод вядомых універсітэцкіх выкладчыкаў Скарыны — Міхал з Браціславы (1488—1512) і Ян з Глогава (апошні цікавіўся друкаваннем). Абодва з вялікай павагай ставіліся да майстэрства кнігадрукавання (43, 54).

У 1506 годзе Скарына трымаў тут экзамен на званне бакалаўра.

З гэтага часу звесткі пра Скарыну адсутнічаюць аж да 1512 года. На нашу думку, ён павінен быў знаходзіцца ў нейкім заходнім універсітэце, паколькі ў Падуі ён ужо магістр. Ступень ён павінен быў недзе атрымаць. Для паўнаты біяграфіі Скарыны было б цікава даведацца пра гэта месца. Але пры недахопе крыніц такія пошукі былі б лішняй тратай часу. Даследчыкі называюць Кракаў (Вішнеўскі), Прагу (Копітар, Галавацкі і інш.), Банонію (Уладзіміраў) і інш.

Прагу мы павінны выключыць адразу, таму што ў спісе бакалаўраў «Monumenta Universitatis Pragensis», які мы прагледзелі, нічога падобнага на імя Скарыны не сустракаецца. Не падыходзіла Прага і як горад для вывучэння медыцыны. «Медыцынскі факультэт ... хоць у 1447 годзе яшчэ раз і ўпамінаецца яго назва, з-за невялікай колькасці навучэнцаў ён у хуткім часе быў закрыты» (170, 9). З тых часоў ва універсітэце застаўся толькі факультэт царкавога мастацтва (180, 84).

З 1512 года Скарына ў Падуі, дзе бліскуча здае экзамен на званне доктара медыцыны. Знаходжанне Скарыны ў Падуі важна ў тым сэнсе, што ён, як і многія іншыя, азораныя ідэяй юнакі з усіх канцоў Еўропы, прыйшоў у Мекку гуманізму.

На працягу пяці гадоў пасля экзамена звесткі пра Скарыну адсутнічаюць. З лістапада 1512 года да пачатку друкавання першай кнігі ў красавіку 1517 года (43, 66) час, здаецца, не такі ўжо і вялікі, з якога можна смела адлічыць як мінімум адзін год на ўсталяванне друкарні.

Можна меркаваць, што даны час Скарына выкарыстаў для навучання друкарскаму майстэрству. Аб гэтым сведчыць у першую чаргу тое, што са знешняга боку выданні Скарыны, як пабачым далей, не толькі пераўзыходзілі на цэлае стагоддзе кірылічны друк, але і ўвогуле сталі вяршыняй заходнееўрапейскага кнігадрукавання. Узровень друкарскага майстэрства ў Празе, як вядома з прыведзеных у бібліяграфіі даследаванняў, наўрад ці быў такі высокі, каб спрыяць чужаземцам так дасканала друкаваць творы на іх мове і кірылічным шрыфтам без валодання імі адпаведным майстэрствам. У нас ёсць дакладныя звесткі, што Скарына ведаў не толькі друкарскае майстэрства, але цікавіўся і наборам. Гэта выявілася ў мове яго твораў, якая ў некалькіх месцах зафіксавала асаблівасці полацкіх дыялектаў. Альбо наборшчыкі былі з Полацка, альбо Скарына набіраў тэксты сам. Бо наўрад ці стаў ён у карэктуры мяняць слова на дыялектнае.

Таму не пагадзімся з Уладзіміравым, які лічыў Скарыну толькі перакладчыкам. На той падставе, што сваім выразам з пасляслоўя — «повелъніем, працею и выкладом» — Скарына як быццам бы засведчыў паняцці для азначэння спецыфічных заняткаў і што слова «праца» ў сапраўднасці азначае «друкаванне» (43, 64). З аналізу ўжывання слова «праца» ў сучасных чэшскіх выданнях нельга зрабіць вывад аб яго сувязі толькі з наборам ці ўвогуле з тэхнічнай працай. Венецыянская біблія — галоўны дапаможнік Скарыны — была надрукавана ў

замежнай друкарні Пятра Ліхтэнштэйна. Аднак пражскія гараджане ў ёй пішуць: «Узялі на сябе мужы гэту адказную працу...» (155). У Мікулаша Клаўдзіяна таксама: «Аднак я ўзяў гэту працу...» (137, 163). Не думаю, што ён меў на ўвазе толькі тэхнічную працу.

У Скарыны ёсць не толькі выразы, што «казал есми тиснути» (прадмовы да кн. «Іоў» і «Параліпаменон»), але і звязаныя з яго асобай словы «загад» і «праца»: «... зупольнъ выложены и пильне вытиснены... повелением и працею доктора...» (пасляслоўе да кн. «Прарок Даніiл»).

Урэшце, і сам Уладзіміраў прызнае пэўную ступень валодання Скарынам друкарскім майстэрствам (43, 74), і гэта яшчэ раз пацвярджае нашу думку аб тым, што Скарына павінен быў недзе навучыцца свайму майстэрству.

Узнікае пытанне, дзе мог ён набыць новую адукацыю. Наўрад ці яшчэ ў Кракаве ад сваіх настаўнікаў.

Высокі ўзровень выданняў дае падставу думаць, што гэта была нейкая выдатная школа.

Калі б мы маглі без пэўных доказаў аб нечым меркаваць, можна было б выказаць здагадку, што такім горадам для навучання была Венецыя. У адносінах друку Венецыя тады была на вяршыні еўрапейскай славы і таму мела такую ж прыцягальную сілу, як і Банонія ў сэнсе універсітэцкага навучання. Тут вядомым Альда Макуцыем створана цэлая акадэмія для вывучэння майстэрства друкавання і перакладу Біблii на розныя мовы. Тэксты кніг крытычна аналізаваліся, вызваляліся ад памылак і пасля гэтага ішлі ў друк (134, 260). Супольнікам Мануцыя быў выдатны еўрапейскі гуманіст і лідэр гэтага руху Эразм Ратэрдамскі, які ў 1518 годзе наведаў Венецыю дзеля асабістых перагавораў

з Мануцыем (179, 34; 36). Наведаў Мануцыя і пазнейшы настаўнік Маскоўскай Русі гуманіст Максім Грэк, што і паведаміў ён у адным са сваіх твораў (75, 19). Як вядома, Чэшская біблія 1506 года (галоўны дапаможнік для Скарыны) была таксама надрукавана ў Венецыі.

Для Скарыны гэта тым больш важна, што Венецыя была першым і, выключаючы Кракаў, амаль што адзіным горадам, дзе друкаваліся першыя кірылічныя выданні. Новыя шрыфты з'явіліся намнога пазней (Тыргавіштэнскі, Цэтынскі). Яшчэ Добраўскі адзначаў (5, 186), што пісьмо Скарынавых кніг падобна не да рускаславянскага, а да таго, якім сербы ў Венецыі друкавалі свае кнігі. Тым самым падкрэслівалася, што Скарына мог выкарыстаць адтуль і ўзоры матрыцы. Гэту залежнасць Скарынавага пісьма ад паўднёваславянскага мы прааналізуем пазней больш падрабязна. Сярод дапаможнікаў Скарыны былі і царкоўнаславянскія кнігі (43, 171). Цікава, што дома яны адсутнічалі (54, 321). Словы Васіля Вялікага, прыведзеныя Скарынам у першай частцы прадмовы да «Псалтыра» (першая друкаваная кніга), сустракаюцца раней у цэтынскім выданні 1494 года (43, 81—83). У Скарыны псалмы падзяляюцца на вершы кропкамі, што да яго было толькі ў цэтынскіх выданнях 1495 года і венецыянскіх Бажыдара Вукавіча (43, 85). Стасаў (73, 26, 28 і 32), ацэньваючы мастацкія вартасці кніг, ставіць поруч толькі венецыянскія і скарынаўскія выданні.

Усё гэта разам даволі выразна сведчыць аб сувязях Скарыны з Венецыяй. Застаецца толькі чакаць больш пэўных звестак. Адзначым, што і дарога з Падуі да Прагі ляжала праз Венецыю (Ян з Лобкавіц, Вацлаў Пісецкі і інш.).

Калі б факт знаходжання Скарыны ў Венецыі

быў засведчаны, ён ахарактарызаваў бы Скарыну ў сэнсе памкнення яго да вышэйшых гуманістычных колаў.

У 1517—1519 гг. Скарына знаходзіцца ў Празе, як гэта бачна з заўваг у яго творах. Аб тым, што прывяло яго друкаваць кнігі менавіта сюды, ёсць наступныя меркаванні: ён мог карыстацца бяспекай, гарантаванай яму кн. Жыгімонтам, які быў апекуном маладога караля Людовіка (5, 186); яго прываблівала слава Чэшскіх біблій, трывалыя сувязі паміж Літоўскай Руссю і Чэхіяй і тое, што Прага магла быць своеасаблівым пасрэднікам паміж Вільняй і Захадам (Уладзіміраў); што гэта было вынікам уплыву гусіцкіх традыцый (98, 182; 78, 12); Прага давала магчымасць лепшым чынам абсталяваць друкарню (43, 62). Мяркуем, што яго прыцягвала сюды наогул культура чэхаў, становішча якіх у дачыненні да Германскай імперыі было падобна на тое, якое склалася адпаведна ў Літвы-Беларусі да Польшчы. Зразумела, што барацьба чэхаў знаходзіла адгалосак на радзіме Скарыны. Аб гэтым гаворка будзе весціся ніжэй.

У Празе Скарына адна за другой выдае свае кнігі «Біблії, перакладзенай на мову рускую...» у такім парадку: 6 жніўня 1517 года — «Псалтыр», 10 верасня — кн. «Іоў», 6 кастрычніка — «Прытчы Саламона», 5 снежня — «Ісус Сірахаў»; 2 студзеня 1518 года — «Еклесіяст», 9 лютага — «Песня Песням», 19 лютага — «Прамудрасць божая», 10 жніўня — кнігі «Царствы», 2 снежня — «Ісус Навін»; 9 лютага 1519 года — «Юдзіф», 5 снежня — кн. «Суддзі». Без указання на дзень і месяц у 1519 г. выдадзены «Руф», «Эсфір», «Плач Ераміі» (43, 65).

У Празе Скарына быў у час найбольшага росквіту гуманізму. Пасля Святавацлаўскага пагаднення 1517 г. тут усталяваўся грамадзянскі спакой.

У гэты час жылі і тварылі вядомыя дзеячы эпохі Віктарын Карнэлій з Вшэград, Ян Шлехта. Выдае кнігі гуманіст Мікулаш Конач. Пачаў узмацняцца новы дух ва ўніверсітэце. У недалёкай Млада-Болеславе друкуе брацкія творы Мікулаш Клаўдзіян. Яшчэ вітаў дух нядаўна памёрлых Багуслава з Лобкавіц і Вацлава Пісецкага. Усё гэта таксама мела значэнне для Скарыны.

Дзе была ў Празе друкарня Скарыны — невядома. У творах сказана, што «ў славном старом месте Празском», што па аналогіі з сучаснымі чэшскімі творамі павінна ўказваць на Стары горад. Цікавыя звесткі аб дамах ёсць у апісанні Томэка (169, 8—9): «Ля залатой трубы» — карчма на Старамнесцкай плошчы для замежных гасцей у час Скарыны. Суседні дом («Ля караблёў») належаў некалі кн. Карыбуту. Недалёка быў дом ужо названага друкара Конача і друкарня, дзе працаваў іншы друкар — Ян Шмергаўскі, апошняя кніга якога, выдадзеная ў Празе, таксама пазначана 1519 годам. Збоку на садавінным базары ў доме «Ля белага льва» была друкарня Крамаржа і Пытліка — выдаўцоў Бібліі 1488 года. (Усе звесткі аб Празе і яе жыцці мы бралі з прац Палацкага, Тругляржа, Томэка, Якубца, Кадлеца і інш. без указання старонак, паколькі гаворка ідзе пра рэчы вядомыя і бясспрэчныя.)

Дзейнасць у Празе з'яўляецца самым плённым перыядам у біяграфіі Скарыны і ў гэтым сэнсе гораду належыць вялікая заслуга.

Са снежня 1519 года звесткі пра Скарыну зноў адсутнічаюць аж да з'яўлення яго выданняў у Вільні.

Што прымусіла Скарыну паехаць з Прагі — дакладна невядома. На гэты конт існуе некалькі здагадак: сканчэнне апякунства над каралём Людові-

кам (5, 186); сямейныя справы (43, 66 і інш.); патрабаванні віленскіх сяброў (55, 496).

Можам яшчэ прывесці важныя факты.

У 1519 годзе пачалася новая хваля рэлігійных спрэчак і хваляванняў, якія з цягам часу ўсё больш і больш абвастраліся. Іх вынікам стала ў 1526 годзе смерць караля Людовіка (156, V, 456, 457 і 500).

У 1524 годзе ў Празе абвешчаны 26 пунктаў закона, з якіх 14 мелі на мэце афіцыйны прагляд кніг. Ерэтычныя і лжывыя кнігі былі забаронены і павінны былі быць спалены (136, 571).

Заслугоўвае ўвагі і аналогія з Янам Шмергаўскім, пра якога мы ўпаміналі вышэй. Пасля спрэчкі з Коначам ён перастаў друкаваць кнігі.

Але найперш тут прыпамінаецца мор, які ад Вялікадня 1520 года (хутка пасля выдання апошняй кнігі Скарыны) пачаў усё больш і больш узмацняцца і на працягу жніўня дасягнуў такой ступені жорсткасці, што пачынаючы з 13 числа ў Празе штодзень хавалі 150 памёршых (156, V, 463).

Што тычыцца патрабаванняў сяброў, то важна падкрэсліць, 6 студзеня 1520 года ў Празе быў скліканы сейм чэшскіх паслоў і караля Жыгімонта (156, V, 456).

Згодна з Вітэнбергскай легендай, уведзенай Копітарам, у 1525 годзе нейкі Францыск Паляк наведаў у горадзе Меланхтона і абедаў у яго з Лютэрам. Копітар прыводзіць гэта ў сувязі са Скарынам, не даказваючы, аднак, тоеснасці асоб. Віктараў (28, 18) заўважае, што Скарына ў гэтым годзе друкуе ў Полацку іншыя творы, Уладзіміраў (43, XIV) яго папраўляе, што не ў Полацку, а ў Вільні.

Паводле легенды, невядомы спачатку спадабаўся Лютэру, але потым выклікаў у яго падазрэнне як чарнакніжнік, які павінен быць у сувязі з д'яблам ці абавязкова дзейнічаць з падахвочвання каталіц-

кіх біскупаў. Таму загадаў слузе больш не прымаць яго і звярнуўся ў магістрат з просьбай аб арышце. Аднак славуты Паляк абхітрыў таксама і магістрат і быў адпушчаны на волю.

Усё гэта даволі падобна на Скарыну. У актавых запісах Падуанскага універсітэта ён называе сябе Рутэнус, у кракаўскіх — Літванус. Там — паводле нацыянальнасці, тут — паводле радзімы. Дык чаму ён не мог быць названы і імем больш шырокай радзімы, тым верагодней, што гэта апошняе імя — Паляк (Палонус) — сыходзіць ад немца з самой Нямеччыны, які ведаў бліжэйшую частку Польска-Літоўскай федэрацыі і мог не ўяўляць яе ўнутраных адносін.

Факт з'яўлення друкаваных выданняў у тым жа годзе ў Вільні таксама не выключае паездкі. Знаходжанне Скарыны ў Італіі пры яго беднасці сведчыць пра рухавасць яго характару, а прускія лісты выяўляюць гэта яшчэ больш выразна. Галоўнае ж, стасуецца з характарам Скарыны, яго спрытнасцю, якую можна засведчыць таксама з прускіх лістоў. Акрамя таго, факт выглядае праўдападобна таму, што была сустрэча гуманіста (Меланхтон) і выдатнай асобы (Лютэр). А мы ведаем, што Скарына ў Падуі звярнуўся спачатку да рэктара, у Вільні быў звязаны з князем і біскупам, у Кралеўцы — таксама з князем. Аднак з-за недахопу дакладных звестак спыняцца на гэтым не будзем.

У даным годзе, як ужо гаварылася, Скарына быў у Вільні і працягваў друкаваць далей. Сваю друкарню ён абсталяваў, як сам адзначыў, «в дому почтивого Якуба Бабича, найстаршего бурмистра славного и великого места Виленского».

У адным і тым жа годзе ён выдаў «Апостала» (Дзеянні Апосталаў) і некалькі кніг: «Псалтыр» (другі раз), «Часасловец», «Канон», «Шасцідневец»,

«Святцы» і «Пасхалія» (42,4, § 15). Апошнія кнігі ў сукупнасці носяць агульную назву «Малая падарожная кніжка».

На гэтым друкарская дзейнасць Скарыны лічылася закончанай. Зараз вядома, што ёсць яшчэ «Евангелле вучыцельнае», непасрэдных звестак пра якое мы не маем.

З актаў 1529 года можна бачыць, што тады Скарына быў жанаты з Маркетай (Маргарытай) — удавой Юрыя Адверніка, віленскага гараджаніна. Меў дзяцей.

З наступных актаў, якіх у нас няма, але якія былі выкарыстаны Уладзіміравым, вядома, што Скарына сутыкаўся ў жыцці з вялікімі цяжкасцямі. У 1529 годзе ён быў пазбаўлены ўсёй маёмасці і толькі граматай Жыгімонта ад 1532 года быў вызвалены ад канфіскацыі і застрахаваны ад яе паўтораў (43,47 і 66,67).

Пра суды і цяжкасці Скарыны гаворыцца таксама ў прускіх дакументах 1530 года. У нашай працы яны прыводзяцца ўпершыню. З іх відаць, што незадоўга да гэтага Францішак прыбыў у Кралевец, стаў тут прускім падданым і прыдворным, быў вельмі паважаным і запісаны ў «albumu fidelium»*. Узнёслую пахвальбу Скарыне можна бачыць і ў саміх лістах (у трох першых). Гэта ўсё падкрэслівае прыналежнасць Скарыны да ліку знатных гуманістаў.

Першы ліст напісаны 16 мая 1530 года да князя Жыгімонта** як рэкамендацыйнае пісьмо для Скарыны. У ім прускі герцаг паручае Скарыну клопатам і апякунству Жыгімонта і просіць заступніцтва

* «спіс верных».
** Так у рукапісе (Zikmunda). На самай жа справе — Гаштольда.

за яго перад судом у Віленскім сенаце. Неўзабаве Скарына і адправіўся ў Вільню.

Другая грамата Альберта Вялікага пазначана тым жа часам і выдадзена як замежны пашпарт пры пераездзе цераз прускія землі.

Трэцяя грамата ад 18 мая таго ж года адрасавана Віленскаму сенату з просьбай аб справядлівым судзе.

Ад чацвёртай граматы, датаванай 26 мая, захаваўся толькі канец. Адрасавана яна Гаштольду — канцлеру Літвы. Аўтар гаворыць, што Скарына забраў з сабой нейкага іудзея, вядомага лекара і друкара, чым зрабіў вялікую шкоду, таму ён просіць аб іх вяртанні.

Што было са Скарынам далей — мы не ведаем. Грамата ад 1535 года паведамляе, што ён жывы і знаходзіцца ў Вільні. Калі ён памёр і дзе — таксама невядома. Зібрт (78,13) называе прыблізна 1551—1556 гг. без спасылак на крыніцы. Уладзіміраў пры апісанні ўплываў Скарыны (43, 202) адзначае, што ў 1562 годзе яго шрыфт быў скапіраваны Прымажам Труберам у Гоцінках і падкрэслівае, што тады Скарыны, відаць, ужо не было ў жывых. Больш звестак няма. Тую ж думку выказвае Уладзіміраў і ў адносінах да айчынных эпігонаў: Буднага, Цяпінскага і аўтара Перасопніцкага евангелля 1556—1561 гг. (43, 234).

Гарэцкі (89) лічыць годам смерці Скарыны 1550 год. На падставе чаго — невядома. Таму будзем лічыць гэта пытанне адкрытым.

Первольф (46, 595) цытуе ўрывак з граматы караля Жыгімонта Аўгуста ад 1553 года*, дзе паведамляецца, што яшчэ ў час Жыгімонта Старога адзін з яго падданых «cum quidem de subditis ejus

---

* У сапраўднасці — 1552 год.

pio studio ductus sacram scripturam linqua russica in primi et in lucem edi curasset et ad Moschos vennisset, publice eos libros jussu principis congregatos esse propterea quod a romanae ecclesiae addicto et in locis ejusdem autoritati subjectis editi essent...» * Прыводзячы тэкст, Первольф адзначае, што тут хутчэй за ўсё ідзе гаворка пра кнігі Скарыны. І гэта сапраўды верагодна. Скарына ж перпшы і як раз у час Жыгімонта выдаў Свяшчэннае пісанне на рускай мове. Калі б мы маглі дакладна аднесці ўрывак да Скарыны, у нас быў бы доказ, што ён ездзіў яшчэ ў Маскву, там з благаславення рымскай царквы нешта выдаў, і ўсё па загаду князя было публічна спалена. Хто ведае, ці не звязана гэта з імкненнем Рымскай курыі да ўз'яднання з рускай царквой, якое пачалося ў 1519 годзе? (131). Але пакуль не даказана сувязь прыведзенага ўрыўка са Скарынам, мусім з вывадамі пачакаць, маючы, аднак, факт на ўвазе.

* «кіруючыся набожным жаданнем і наважыўшыся надрукаваць і выдаць на рускай мове свяшчэннае пісанне, прыбыў да маскавіцян, гэтыя кнігі былі публічна на загаду князя спалены, таму што былі выдадзены падданым рымскай царквы і ў месцах, якія падлягаюць яе ўладзе».





# III. СТЫМУЛЫ ДЗЕЙНАСЦІ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ СКАРЫНА ЯК ЧАЛАВЕК

Перш чым разгледзець пытанне пра Скарыну як культурнага дзеяча, звернемся да праблемы стымулаў яго дзейнасці. Тут трэба выдзеліць чатыры галоўныя моманты: матэрыяльны інтарэс, рэлігійнае падзвіжніцтва, дасягненні айчыннай культуры і ўплыў культуры замежнай.

Як інспіруючы фактар бок **матэрыяльных інтарэсаў** амаль не быў уведзены ў існуючыя да гэтага часу працы пра Скарыну. Мы павінны гэта зрабіць, паколькі Скарына быў не толькі пісьменнікам, але і кнігадрукаром, а залежнасць гэтай працы ад матэрыяльных магчымасцей відавочная. Камерцыйны характар кнігадрукавання бачны ўжо ад пачатку яго заснавання. Фольман, ацэньваючы факт пашырэння друку, прыходзіць да вываду, што галоўным стымулам у гэтым быў інтарэс матэрыяльны. «Усё рухаецца інтарэсам!»— гаворыць ён у сваёй працы (134, 130).

У час Скарыны на Захадзе друк быў пастаўлены на сталую камерцыйную аснову. Дастаткова назваць нюрнбергскіх друкароў Кобергера і Дзюрэра, якія сваімі кнігамі закідалі ўсю Нямеччыну. Альбо

ўспомніць Мануцыя з яго акадэміяй. Пытанне, што і для каго друкуецца, не бралася пад увагу. На першым месцы стаяў інтарэс матэрыяльны. Кнігі ілюстраваліся, рэкламаваліся і ўвогуле ставілі сваёй мэтай задаволіць патрабаванні пакупнікоў. Урэшце, як і ў наш час. «І ў самім гандлі кнігамі адбыўся пераварот. Гандляр стаў кнігадрукаром і, наадварот, кнігадрукар — гандляром» (134, 228).

Трэба, аднак, сказаць, што з гэтага правіла былі выключэнні і выключэнні досыць тыповыя. Каб не загрувашчваць нашу працу шматлікімі фактамі і тым самым не аддаляцца ад сутнасці пытання, прывядзём гатовыя вынікі аднаго з найноўшых даследчыкаў у галіне славянскага друку П. Папова. Ён дзеліць славянскіх друкароў на чатыры катэгорыі: 1) гандляры, прадпрымальнікі па тыпу Мамонічаў; 2) асвечаныя кіраўнікі і абаронцы сваёй рэлігіі і народнасці (Астрожскі і інш.); 3) ерэтыкі і прапагандысты новых рэлігійных ідэй (Будны, Цяпінскі) і, нарэшце, 4) друкары, якія, з'яўляючыся пачынальнікамі справы, былі адначасова і яе фанатыкамі (98, 20). Падобныя выключэнні былі і ў Заходняй Еўропе.

Да якой катэгорыі можна аднесці Скарыну?

На гэты раз абмяжоўвацца думкай Папова, што Скарына спалучаў у сабе некалькі адзначаных тыпаў (98, 20), мы не маем права. Пытанне гэта патрабуе больш дэталёвага разгляду.

Скарына паходзіў з дзейнай купецкай сям'і. Характар яго, наколькі гэта бачна з біяграфіі, выяўляе ў ім не інтэлігента тыпу Дастаеўскага, Ібсэна ці Кнута Гамсуна нашых дзён, колькі чалавека прадпрымальнага, спрытнага, нястомнага ў барацьбе за жыццё і з самім жыццём, а таксама з людзьмі, якія зневажалі яго правы. Тое ж самае пра Скарыну адзначае і Папоў (98, 19), які на падставе аналізу

прадмоў і пасляслоўяў характарызуе яго як чалавека індывідуалістычнага нораву, смелага, прадпрымальнага, неспакойнага.

З усяго гэтага вынікае, што матэрыяльныя інтарэсы для Скарыны не стаялі на апошнім месцы. Пра гэта сведчыць і тое, што свае кнігі ён друкаваў у памеры, зручным для продажу, а «Малую падарожную кніжку» наогул прызначыў для купцоў, якія адпраўляліся ў раз'езды (43, 71).

Але, з другога боку, купецкае паходжанне яшчэ не з'яўляецца адзнакай таго, што матэрыяльныя інтарэсы павінны мець перавагу над усімі іншымі. Характар жа Скарыны выяўляе ў ім не толькі купца, але і інтэлігента свайго часу. Ён быў сынам гуманістычнага часу, а тады быў час інтэлігенцыі індывідуалістычнай, выхвальнай, славалюбнай, улюбёнай у зямныя радасці, у чалавека і найперш у самога сябе. Але гэта, безумоўна, не сведчыла пра тое, што матэрыяльныя інтарэсы дамінавалі ў іх над ідэйнымі. (Больш падрабязна мы ахарактарызуем інтэлігенцыю пазней.) Карыслівасць не ўхвалялася і тады, як бачна з папроку Скалігера, сказанага ім Эразму Ратэрдамскаму, за сувязь яго з Мануцыем (180, 34). Занятак друкаваннем быў надзвычай папулярны ў гуманістаў (Конач, Галер, Мануцый, Максім Грэк, Эразм), што з'яўлялася прыкладам для Скарыны. Акрамя гэтага, друк быў важнай зброяй у пашырэнні пэўных ідэй і памкненняў новай інтэлігенцыі. Такі ідэалістычны гуманіст, як Ульрых фон Гутэн, апявае друк (134, 234), з павагай пра яго гаворыць В. Пісецкі (180, 451). Французскі кароль Францішак I уваходзіў у друкарню, як у храм Божы (67, 310).

Сведчаннем пэўных адносін Скарыны да матэрыяльнага боку жыцця могуць служыць яго выданні. Зручныя памеры кніг, напрыклад, гавораць аб

імкненні да іх большага пашырэння. У дакументах, наколькі нам вядома, ні разу не сказана слова «тыраж» у дачыненні да кніг Скарыны. Прадмовы і пасляслоўі пранікнуты духам шырокага альтруізму і ідэалістычных памкненняў свайго аўтара (будзем бачыць гэта пры аналізе).

З пункту гледжання храналогіі выданняў відаць парадак, які адрозніваецца ад традыцыйнага ў Бібліях. Спачатку выдаюцца кнігі філасофскага і павучальнага зместу, а ўжо ў Вільні — чыста прыкладнога характару, што сведчыць аб пэўнай ідэйнай зададзенасці працы (98, 12; 52, 490). На карысць гэтага гаворыць і сама мэта Скарынаўскіх выданняў — даць свайму народу Свяшчэннае пісанне на яго роднай мове. Мэта новая на беларускай глебе, ідэалістычная, а з матэрыяльнага боку, як вядома з сумнага жыццёвага канца друкара, малапаспяховая. Гандляр мусіў арыентавацца на патрэбы сваіх пакупнікоў і друкаваць такія кнігі, якія мелі вялікі попыт. У поўнай меры гэтаму адпавядалі толькі віленскія выданні і зусім не адпавядалі пражскія, паколькі набожны пакупнік прывык да існуючых у той час кніг на царкоўнаславянскай мове.

Такім чынам, можна зрабіць вывад, што ў дзейнасці Скарыны матэрыяльныя інтарэсы не былі галоўныя. Тут дамінавалі хутчэй з'явы ідэйнага парадку. У прадмове да кнігі «Эсфір» Скарына гаворыць: «Не толико сами собе народихомся на свет, но более ко службѣ божией и посполитого доброго ...» і заключае, што «тако ж и мы, братия, не можем ли во великих послужити посполитому люду рускаго языка, сие малые книжки праци нашое приносимо им» (з прадмовы да кнігі «Левіт»).

Зыходзячы з класіфікацыі друкароў, якую даў Папоў, Скарыну нельга аднесці да якой-небудзь аднай катэгорыі. Дэфініцыя для Скарыны гучала б

прыблізна так: «Адукаваны правадыр свайго народа і прапагандыст пэўнай грамадскай думкі».

**Рэлігійнае падзвіжніцтва** як адзін з пабуджальных фактараў у дзейнасці Скарыны вынікае з таго, што прадметам гэтай дзейнасці была Біблія. А ў «той час,— як піша Вазняк,— любую дзейнасць можна зразумець толькі ў сувязі з рэлігіяй» (87, 19). (Маецца на ўвазе культурная дзейнасць на Беларусі і Украіне.)

Перш чым распачаць гаворку, неабходна высветліць, якога веравызнання быў сам Скарына, паколькі ад гэтага магла залежаць тая альбо іншая ступень заўзятасці. Новая рэлігія мае на ўвазе сваёй перадумовай і большую стараннасць, а яе першапраходцы лічаць прапаганду новых ідэй сваім абавязкам. Пытанне рэлігійнай прыналежнасці Скарыны тым больш важнае, што за яго ішла стогадовая барацьба. Як піша Сцяповіч, «вырашэнне гэтага пытання не было пустым заняткам, а мела прынцыповае значэнне» (60, 516). Меркаванні аб веры Скарыны ў храналагічных рамках выглядаюць наступным чынам. Уся старая школа да паловы XIX ст. на чале з Добраўскім адносіла Скарыну да рымска-каталіцкага веравызнання. У 60-х гадах на даны больш-менш усталяваны погляд пачаліся нападкі, пра што мы часткова ўжо пісалі ва ўступе. Вучоныя па сваіх меркаваннях раздзяліліся на тры групы: за пратэстанцтва (Галавацкі), за праваслаўе (Віктараў) і за каталіцтва («Беларус», Аганоўскі). Уладзіміраў, далёкі ад страсцей папярэдніх даследчыкаў, пытанне востра не ставіць. Аднак у сваіх шматлікіх заўвагах, раскіданых па ўсёй кнізе, імкнецца ўсё ж даказаць праваслаўе Скарыны. Сабалеўскі пацвярджае гэта простай згодай. Потым думка аб праваслаўі набыла нейкае ўсеагульнае прызнанне. Выключэннем з'яўляецца толькі Пер-

вольф, які яшчэ ў 1895 годзе адзначана называў Скарыну каталікам.

Копітар і Вішнеўскі лічылі Скарыну уніятам.

Паколькі меркаванне аб праваслаўі засталося пануючым і ніякіх пярэчанняў таму даўно не існуе, нам нічога не перашкаджала б далучыцца да гэтага. Тым больш калі азірнуцца на Беларусь таго часу, дзе праваслаўе займала дамінуючае становішча. Аднак аб'ектыўныя факты не дазваляюць гэта зрабіць і таму мы мусім перагледзець аргументы названых вучоных і выказаць сваю думку.

У карысць праваслаўнага веравызнання Віктараў прыводзіць наступныя аргументы: 1) Скарына распачаў выданне з найбольш папулярнай і пашыранай на праваслаўнай Русі кнігі — «Псалтыра». Кніга мае праваслаўны характар, паколькі падзелена на кафізмы і славы і дапоўнена царкоўнымі песнямі (28, 98—99); 2) «Апостал» Скарыны прыстасаваны да службы ў праваслаўнай царкве і мае такі ж самы выгляд і структуру, як у «Апосталах», што былі распаўсюджаны на Русі (падзел на зачалы, традыцыйны для праваслаўнай царквы, і інш.). Акрамя гэтага, у прыкладзеным да яго Месяцаслове сустракаюцца імёны рускіх і славянскіх святых праваслаўнай царквы; 3) цалкам праваслаўны характар мае і «Псалтыр», выдадзены ў Вільні. Уладзіміраў прыводзіць яшчэ новыя доказы: 4) віленскія выданні найлепшым чынам адпавядаюць патрабаванням праваслаўных купцоў, якія імкнуцца задаволіць свае рэлігійныя патрэбы ў час гандлёвых замежных паездак (43, 50). Сюды можна аднесці і пражскія кнігі, агульныя па крыніцах і метадах працы з віленскімі; 5) другое імя (Георгій) з'яўляецца цалкам праваслаўным (43, 45); 6) у Полацку ў канцы XV і на пач. XVI ст. не было ніводнага каталіцкага касцёла. Усе жыхары горада былі праваслаўныя (там-

сама): 7) на карысць праваслаўя могуць сведчыць грамадскія сувязі Скарыны, уся яго дзейнасць і папярэдняя падрыхтоўка да навучання на сваёй радзіме. Аб пачатковым навучанні дае падставу меркаваць «Псалтыр» 1517 года; 8) важным аргументам для праваслаўя з'яўляецца пастаянны напамінак Скарыны аб перакладзе з грэчаскай мовы, што мела значэнне для праваслаўнага чытача; 9) выдатныя малюнкі (застаўкі) у выданнях Скарыны ў кантэксце з царкоўнаславянскім спосабам пісьма. І нарэшце — 10) скарынаўскі шрыфт указвае на сувязь з царкоўнаславянскімі рукапісамі заходнерускага паходжання XV—XVI стст.

Усё гэта разам досыць пераканаўча сведчыць на карысць праваслаўя. Аднак аргументы за другое веравызнанне, як убачым далей, яшчэ больш доказныя і пераканаўчыя. Таму паспрабуем аспрэчыць вышэйсказанае.

Найперш паўторым тое, што мы сказалі ў пачатку працы. Мы не бачым адзінства ў віленскіх і пражскіх выданнях, якія, паводле думкі Уладзімірава, маюць як быццам бы агульныя крыніцы і метады. Метады тут ні пры чым, а пра крыніцы будзем весці гаворку пры апісанні віленскіх выданняў. Тут толькі закранём некаторыя моманты. Падкрэслім, аднак, што не маем нічога супраць праваслаўнага характару віленскіх выданняў.

З аргументаў Віктарава на карысць праваслаўя вядомы толькі адзін. Гэта тое, што Скарына распачаў сваю працу кнігай папулярнай сярод праваслаўных. Мы павінны сказаць, што «Псалтыр» быў любімай кнігай не толькі ў праваслаўных, але і ў католікаў. Першым перакладам на чэшскую мову, як вядома, быў «Псалтыр». Шырока распаўсюджаным быў «Псалтыр» на нацыянальных мовах, і каталіцкая царква была вымушана дазволіць перакладаць

псалмы і людзям свецкім, а таксама чытаць іх і спяваць (164, 129). Для беларускіх каталікаў «Псалтыр» быў тым больш важнай кнігай, што яна адначасова з'яўлялася і навучальнай. Лацінскія каталіцкія школы на Беларусі таго часу, як мы ўжо адзначылі, існавалі толькі ў Вільні і Троках. А матэрыялы аб каталіцтве на Беларусі сведчаць пра яго вялікую распаўсюджанасць у той час. Гэта можна бачыць з прац Первольфа (47, 247), Бідла (139), Пічэты (101, 72 і 106), Турчыновіча (130, 99), Бацюшкава і інш. У час Скарыны адбыўся першы з'езд каталіцкага духавенства краіны ў Вільні ў 1526 г. (29, 137). Папулярнасцю і навучальна-асветніцкім характарам кнігі тлумачыцца і факт старажытнай структуры «Псалтыра» і яго царкоўнаславянская мова. Пра апошняе выказваўся гэтаксама праф. Карскі (79, 9). Падобна Скарыну паступалі і ерэтыкі, што падвергліся яўрэйскаму ўплыву (79, 11). Такая традыцыя на Беларусі яшчэ доўга праіснавала. У другой палове XVI ст. Лявон Мамоніч у прадмове да свайго «Псалтыра» пісаў: «... для наученія людей и детей христіанских ... младенцам доброхотящим учитися ... ничтоже непрекладаючи и неизменяючи языка словенского...» (43, 210).

Такім чынам, аргумент Віктарава можна лічыць неабгрунтаваным.

Пяройдзем да довадаў Уладзімірава.

Імя Георгій (Jiři) не адвяргае ніводная заходняя царква. У 1522 годзе на экзаменах у Пражскім універсітэце прысутнічаў нейкі магістр Хрудзінеус, які меў такое ж двайное імя, як і Скарына: Францішак Іржы (Franz Georgius). Таму довад цалкам адпадае.

Інфармацыя Уладзімірава пра тое, што ў час Скарыны ў Полацку не было рымска-каталіцкага касцёла, недакладная. Пра гэта сведчыць знаўца

царкоўнага жыцця на Беларусі Бацюшкаў (111, 16). Тое ж самае можна сказаць і пра довад аб выключна праваслаўных жыхарах Полацка, што абвяргаецца самім фактам існавання касцёлаў. Акрамя гэтага, ёсць падставы яшчэ больш важкія. Афіцыйная грамата на магдэбургскае права, якая была дадзена Полацку ў 1498 годзе, прама гаворыць: «Павінна быць 20 радных, выбраных пароўну ад праваслаўных і католікаў» (129, 232).

Дзіўным з'яўляецца і довад аб праваслаўных грамадскіх сувязях. Калі гэта былі асобы з брацтваў, то, з чым пагаджаецца і сам Уладзіміраў, да іх належалі прадстаўнікі абодвух веравызнанняў, у тым ліку і каталіцкія святары (43, 34). Ні пра каго, з кім сутыкаўся Скарына, нельга з упэўненасцю сказаць, што ён быў праваслаўны. Аб неправаслаўных сувязях ніжэй будуць прыведзены доказы больш цвёрдыя.

Што тычыцца ўказання ў прадмовах Скарыны на пераклад з грэчаскай мовы, то ён нічым не пацвярджаецца. Хутчэй за ўсё гэта з'яўляецца звычайнай гуманістычнай пахвальбой мове. Дзіўна яшчэ, што яна мала сустракаецца. У многіх месцах гэта перафраза св. Еранімa, на што ўказвае сам Уладзіміраў.

Апошнія два аргументы маюць тэхнічны характар і адпаведна меншыя адносіны да веравызнання аўтара.

Такім чынам, што тычыцца пражскіх выданняў, ніводзін з довадаў у карысць праваслаўя не з'яўляецца цвёрдым, а некаторыя проста няправільныя.

Больш доказнымі з'яўляюцца аргументы на карысць каталіцтва. І тыя, што абапіраюцца на матэрыял пражскіх выданняў, і паасобныя.

1. Імя Францішак, напрыклад, зусім невядома праваслаўнай царкве і шырока распаўсюджана ў

цэрквах заходніх. Абаронцы праваслаўя парыруюць гэта тым, што Скарына на час навучання мог перайсці ў каталіцтва, а потым зноў вярнуцца ў праваслаўную веру. Але пазней ва ўсіх выданнях мы знаходзім толькі гэтае імя. Часам імя ўжываецца ў народнай форме «Францішка», што сведчыць пра сталасць яго выкарыстання. Першым гэта адзначае Мурка (61, 246).

2. Імя жонкі — Маркета і цешчы — Дарота Station. Stanislawawa — таксама каталіцкага паходжання. Уладзіміраў (43, 47) канстатуе ў дадзеным выпадку змешаны шлюб, хоць выглядае гэта досыць дзіўна. Калі б Скарына быў праваслаўны, ён павінен быў даказаць сваю адданасць рэлігіі ў поўнай меры.

3. Імёны бацькі, брата і пляменніка не пярэчаць заходняй царкве.

4. У Кракаўскі універсітэт праваслаўны не меў права паступіць, пра што аднагалосна сведчаць усе даследчыкі. Пэўнага дакумента аб гэтым мы не знайшлі. Вывад такі, магчыма, зроблены на падставе акта прысягі, накіраванага галоўным чынам супраць гусітаў.

5. Навучанне (магчымае) і экзамены ў італьянскіх універсітэтах не засведчылі ніякіх абмежаванняў для праваслаўных (прыклад Максіма Грэка). Аднак каталіцка-гуманістычнае асяроддзе мела такі велізарны ўплыў на іншаверных маладых людзей, што яны без націску пераходзілі ў каталіцтва: Ян Сапега (43, 36), Багуслаў з Лобкавіц (149, 236), Кржыжаноўскі (149, 242). Скарына, як вядома, афіцыйна прыняў каталіцкую веру ў Падуі ад каталіцкіх прафесараў.

6. На партрэце Скарыны ў пражскіх выданнях мы бачым яго апранутым у адзенне каталіцкага клірыка, а гэта ўжо пасля выхаду з універсітэта.

7. Бяром пад увагу падазрэнне Лютэра, што

дзеянні Францішка Паляка ў дачыненні да яго падбухторваліся каталіцкімі біскупамі.

8. Цікавым з'яўляецца ўдзел у лёсе Скарыны віленскага каталіцкага біскупа Яна. Не ведаем, чаму не звярнуў на гэта ўвагу Уладзіміраў. Гэта характэрная дэталь для ваяўнічай каталіцкай меншасці на Беларусі і для грамадскіх сувязей Скарыны, якія Уладзіміраў назваў цалкам праваслаўнымі.

9. Таксама цікавым з'яўляецца ўдзел князя Жыгімонта Старога ў вызваленні Скарыны ад канфіскацыі маёмасці (43, 67). На судзе 1529 года мы зноў бачым яго на баку Скарыны. Аргументы ў Скарыны на гэтым судзе здаюцца даволі спрэчнымі.

10. Старыя дакументы таксама сведчаць супраць праваслаўя Скарыны. Гэта прыведзены ў другой частцы дысертацыі ўрывак з ліста Жыгімонта Аўгуста аб рымска-каталіцкім веравызнанні, сведчанні Курбскага (43, 41) і Анастасія Сялявы пач. XVII ст. аб пратэстантызме. Калі лічыць урывак з ліста Жыгімонта Аўгуста канстатацыяй непасрэдных адносін да Скарыны, а сведчанне Курбскага следам за Уладзіміравым — за малакаштоўнае з той прычыны, што Курбскі мог разам змешваць каталіцызм, іудаізм і пратэстанцтва (што даволі верагодна для ўцекача з Маскоўскай Русі, дзе ў той час ведалі толькі праваслаўных і «немцаў») — тады з двух сведчанняў — Сялявы і Жыгімонта Аўгуста — было б больш верагодным другое як бліжэйшае да Скарыны па часу.

Цяпер што тычыцца саміх твораў.

11. Калі ў «Псалтыры», адзінай з пражскіх выданняў царкоўнаславянскай кнізе, сустракаецца падзел на кафізмы і славы па спосабу праваслаўнай царквы, як адзначаюць Віктараў і Уладзіміраў, мы павінны мець на ўвазе тое, што гэта аднначасова была на Беларусі і навучальная кніга і яна мусіла

быць прыстасаванай да звычкі малых чытачоў. Таму Скарына не змяніў і мовы: «...не рушаючи самое Псалътыри ни в чем» (з прадмовы да «Псалтыра»). Тое ж самае часта рабілі і пасля Скарыны, пра што сведчыць Уладзіміраў, абапіраючыся на прадмову да «Псалтыра» Мамоніча 1593 г.: «... до наученія людеи и детеи христіанъскихъ», «младенцемъ доброхотящимъ учитіся», «ничтоже неперекладаючи инеизменяючи языка словенскаго» (43, 210). Што, аднак, цікава, яшчэ да Скарыны менавіта так паступалі т. зв. «жидовствующие», якія гэтаксама дзялілі «Псалтыр» на кафізмы і славы. Як пісаў Карскі, «для отвода глаз» (79, 11). Пры дзяленні «Псалтыра» на кафізмы Скарына адначасова ўводзіць і іншае дзяленне па прыкладу заходніх цэркваў — на вершы: «Теже розделил есми вси псалмы на стихи по тому, яко ся в ыных языцех делить» (з прадмовы да «Псалтыра»). Але затое ва ўсіх іншых выданнях падзел зроблены па ўзору заходніх цэркваў — таксама на часткі: «Так же будь ведоме, положил есми некоторые на сторонцах в сей Псалътыри главы з розных книг... А то, чтучи, в тых книгах, иже суть главы на боцех пописаны, знайдете» (тамсама).

12. Адлік гадоў ва ўсіх выданнях Скарыны ідзе ад нараджэння Хрыста, як было прынята на Захадзе. У творах жа праваслаўных адлік ішоў ад стварэння свету.

13. Асновай для перакладаў Скарыны былі крыніцы заходнія: Вульгата і Чэшская біблія 1506 года. Паасобныя царкоўнаславянскія творы служылі яму толькі як слоўнік, што даказвае Уладзіміраў (43, 171).

Зараз звернемся да Вульгаты.

У дачыненні да яе Уладзіміраў выказаўся досыць невыразна. Для нас у гэтых адносінах важным з'яўляецца сцвярджэнне Ірэчка (151, 143), які лі-

чыць, што ўсе чэшскія пераклады абапіраюцца на Вульгату і што ў сваіх прадмовах Скарына неаднаразова выказвае павагу да яе аўтара. Таму выклікае здзіўленне настойлівая канстатацыя Уладзіміравым сваёй думкі аб праваслаўі Скарыны і абарона яго перакладаў перад пратэстанцтвам і каталіцтвам (43, 171—172). Далучацца да гэтай думкі ў нас няма падстаў. Яшчэ Добраўскі ўпамінае аб адрозненні перакладу Скарыны ад тэксту 70 перакладчыкаў, прынятага ў праваслаўнай царкве (43, VII).

14. Самае цікавае тое, што «Псалтыр» 1517 года — адзіная кніга з пражскіх выданняў на царкоўнаславянскай мове (як падручнік)—разыходзіцца з праваслаўнымі Псалтырамі і супадае з чэшскім «Псалтыром» у Бібліі 1506 года і з Вульгатай (43, 86, 89—90, 94). Супадзенне з Вульгатай іншых біблейскіх кніг можна было б вытлумачыць іх адсутнасцю на царкоўнаславянскай мове. Вышэйназваны факт, аднак, не дае падстаў для гэтага і вымушае думаць, што неправаслаўны тэкст быў выбраны невыпадкова. Уладзіміраў адносіць выданні Скарыны да праваслаўных толькі таму, што ў іх нібыта адсутнічаюць узоры і дагматы каталіцкасці (43, 172). Але мы бачым павагу да Ераніма, разыходжанне з праваслаўнымі творамі і падабенства з заходнімі. Мы, безумоўна, не маглі праглядзець усе прадмовы і пасляслоўі, але і ў тых, якімі карысталіся, можам адзначыць рысы, характэрныя для каталіцкіх выданняў.

15. У канцы нашай працы ў зборы прадмоў змешчаны верш Скарыны «Веруй в бога единаго!» Гэта, па сутнасці, звершаваная «Дзесятая запаведзь» Майсея. «Дзесятая» ў праваслаўных і католікаў розніцца сваім размяшчэннем. Першая запаведзь агульная. Але з другой пачынаюцца разыхо-

джанні. Другая запаведзь у праваслаўных паўтарае першую, вытлумачвае яе. У католікаў жа яна адпавядае трэцяй праваслаўнай і, адпаведна, 3-я — 4-й, 4-я — 5-й і г. д. аж да дзесятай. Апошняя ў праваслаўных, наадварот, уключае дзве (9-я і 10-я) каталіцкія. (Ведаем гэта па вопыту сваёй змешанай сям'і і навакольных жыхароў.) У Скарыны верш адпавядае рымска-каталіцкаму размяшчэнню.

16. Пісьмо (графіка) Скарыны цалкам супадае з пісьмом баснійскіх католікаў (т. зв. буквіцы), як нам удалося высветліць. Пазней мы будзем гаварыць пра гэта асобна. Тут абмяжуемся толькі ўказаннем. Папоў сведчыць (98, 14), што ў канцы XVI стагоддзя шрыфт Скарыны быў скапіраваны Кангрэгацыяй распаўсюджвання веры ў Рыме. Усё гэта з'яўляецца адказам Уладзіміраву на яго сцвярджэнне аб нібыта праваслаўным характары выданняў нашага першадрукара.

17. «Беларус» (29, 151) паведамляе, што творы Скарыны на Беларусі былі часткова кананізаваны каталіцкай царквой. Гэта вынікае як быццам бы з загаду біскупа Яна аб перакладзе «Евангелля» і «Апостала» не толькі «на рускую мову, як было дасюль, але і на польскую». Уладзіміраў (43, XXII) называе гэта сцвярджэнне беспадстаўным, не прыводзячы, аднак, ніякіх доказаў. У адпаведнасці з прыведзенымі вышэй фактамі мы не маем падстаў сумнявацца ў праўдзівасці сказанага, хоць больш цвёрдых доказаў пакуль няма. Пра блізкія адносіны Скарыны з тым біскупам мы ўжо гаварылі.

18. Беларуская мова была абавязковай у рымска-каталіцкіх касцёлах на Беларусі з 1386 г. Загад біскупа Яна быў першай спробай увесці польскую мову (29, 135). У праваслаўнай царкве аж да сённяшняга дня мовай афіцыйнай і богаслужэбнай з'яўляецца царкоўнаславянская.

На падставе ўсіх фактаў мы мелі б поўнае права лічыць Скарыну прыналежным да рымска-каталіцкай царквы. Аднак не ў меншай ступені прэтэндаваць на гэтую ролю магло гусіцтва, якое, як вядома, у той час пачало збліжацца з раннім лютэранствам.

Найперш трэба падкрэсліць, што дзевяць з прыведзеных аргументаў на карысць каталіцтва (1, 2, 3, 6, 11, 12, 13, 14 і 15) з'яўляюцца агульнымі для дзвюх рэлігій, два (5 і 9) — не пярэчаць пратэстанцтву, тры (7, 10 і 16) — даволі невыразныя і два (17 і 18) — вельмі яскрава сведчаць за пратэстанцтва. Сюды ж трэба аднесці і адзін з агульных (13).

Разгледзім спачатку аргументы, якія не пярэчаць пратэстанцтву і т. зв. невыразныя.

Гл. п. 5. Мы маем таксама прыклады, што гусіты і пасля навучання ў італьянскіх універсітэтах заставаліся ў сваёй веры. Адступнікі былі хутчэй выключэннем.

Гл. п. 9. Жыгімонт Стары мог падтрымаць і пратэстанта, калі пра гэта яго прасіў васал Альбрэхт прускі. Жыгімонт Стары сам быў даволі ліберальным і да таго ж раней быў князем сілезскай правінцыі, дзе мусіў быць уплыў гусіцтва. Значыць, яго адносіны да гусітаў маглі быць цалкам талерантнымі.

Гл. п. 7. Калі Лютэр падазраваў Францішка Паляка ў тайнай сувязі з каталіцкімі біскупамі, то праз гэта сам факт неведвання Лютэра чалавекам, падобным Скарыну, з'яўляецца вельмі паказальным, асабліва ў сувязі з адносінамі гусіцтва і лютэранства. Хоць, як вядома, ідэнтычнасць Францішка Паляка і Скарыны яшчэ цалкам не даказана.

Гл. п. 10. Урывак з ліста Жыгімонта Аўгуста прыведзены толькі ўмоўна, у сувязі са Скарынам. У іншым выпадку аргументы на карысць гусіцтва з'яўляюцца больш пэўнымі.

Гл. п. 16. З пісьмом Скарыны звязаны таксама шрыфты пазнейшых пратэстанцкіх пісьменнікаў як на Беларусі (Будны, Цяпінскі), так і за мяжой (Трубер), якія яму наследавалі (43, 201).

Зараз пра аргументы, якія больш сведчаць за пратэстанцтва.

Гл. п. 13. Чэшская біблія 1506 года з'яўляецца для Скарыны галоўнай крыніцай, але ён наследуе ёй вельмі некрытычна (43, 121—172).

Гл. п. 17 і 18. Сведчанне «Беларуса» аб прызнанні выданняў Скарыны кананічнымі адкінута Уладзіміравым як слаба абгрунтаванае (43, XXII). Аб дазволе на польскую мову ў касцёлах ён нават не ўпамінае. З вялікай асцярожнасцю, не маючы пакуль іншых альбо больш цвёрдых доказаў, мы выкарыстаем усё ж гэта слабое абгрунтаванне і тут. Пратэстанцтва ў Вільні не патрабавала кананічнасці гэтых тэкстаў, а народная мова была адным з важнейшых фактараў гусіцтва.

Зараз сістэматызуем аргументы на карысць пратэстанцтва:

а) галоўнай крыніцай была гусіцкая Біблія;

б) народная мова з'яўляецца традыцыйнай для гусітаў;

в) месцам для працы выбрана Прага;

г) з пэўнай доляй верагоднасці паказальнае наведванне Лютэра;

д) новы і надзвычай важны аргумент аб знікненні Скарыны з Вільні ў двор ужо пратэстанцкага князя, прынянцце там яго апекі і гарачага заступніцтва;

е) прамыя і выразныя сведчанні Курбскага і Сялявы.

Гэтыя аргументы па сваёй вазе не саступаюць аргументам на карысць каталіцтва. Яны маглі б быць бясспрэчнымі, калі б не факты прысягі ў Кра-

каўскім універсітэце і далейшага заступніцтва за Скарыну на судзе ў Вільні з боку каталіцкага біскупа. Апошняе сведчыць аб атрыманай прыхільнасці і пярэчыць меркаванню аб магчымым пераходзе ў гусіцтва пасля Кракава.

На карысць гусіцтва выказваюцца таксама Копітар і Галавацкі.

Як бачым, прыняць канчатковае рашэнне даволі цяжка. Нам не хапае больш пэўных доказаў і падрабязнага аналізу твораў, якія ў нас адсутнічаюць.

Адзінае, што можна сцвярджаць з усёй адказнасцю: Скарына ніколі не належаў да праваслаўнай царквы.

Зараз гаворка пойдзе пра творы.

Следам за ўсімі даследчыкамі паўторым, што ў іх адсутнічаў дагматызм якой бы то ні было рэлігіі ці яе прапаганда. Сцяповіч ідзе яшчэ далей: «Нам здаецца, у дачыненні да рэлігійных адрозненняў і адценняў Скарына быў чалавекам індэферэнтным, а ў сваёй дзейнасці кіраваўся толькі мэтай асветніцкай: працаваць дзеля свайго цёмнага люду. Яго ён моцна любіў і яму хацеў даць кнігі на зразумелай мове» (60, 3). Падмацуем думку цытатамі са Скарынавых твораў, у якіх ёсць выразнае імкненне пераадолець рэлігійныя адрозненні і адзначыць адзінства хрысціянскай веры:

«псалом ест всея цѣркви единый глас» (з прадм. да кн. «Псалтыр»);

«нам теже хрестианом не суть тыи писма, их потрѣбны чести» (з прадм. да кн. «Царствы»);

«мы пак, хрестиане, зуполну веру имамы» (з прадм. да кн. «Быццё»);

«тако и церков Христова — мати всех хрестиан» (з прадм. да кн. «Песня песням»).

Вось таму мы пагаджаемся з думкай Сцяповіча, хоць, вяртаючыся да нашага пытання, не выпускаем

з-пад увагі і момант рэлігійнай заўзятасці, паколькі творы Скарыны былі найперш энцыклапедыяй набажэнскай. Да таго ж на Беларусі і каталіцтва, і гусіцтва былі яшчэ з'явамі не такімі ўжо старымі і досыць ваяўнічымі.

Улічваючы рымска-каталіцкае веравызнанне Скарыны (па нашаму меркаванню), яго сувязь з Італіяй і тое цікавае супадзенне, што ў 1516 г. (амаль адначасова) частка друкарні памёршага Мануцыя перайшла да Ватыкана, каб друкаваць кнігі для армян — трэба спадзявацца, што ў будучым знойдзецца даследчык Ватыканскіх актаў, які прасочыць іх сувязь з Беларуссю.

Такім чынам, несумненнага ўплыву рэлігійных стымулаў на дзейнасць Скарыны мы не знаходзім.

**Дасягненні айчыннай культуры** самі прадугледжваюць узнікненне літаратурнай справы. Гэта прызнаюць усе сучасныя гісторыкі літаратуры, а І. Тэн, як вядома, заснаваў свой метад на ідэі, што ўсякі літаратурны помнік з'яўляецца прадуктам трох фактараў: народа (яго сутнасці), часу і асяроддзя. Зараз любое даследаванне павінна грунтавацца на культурна-гістарычным падыходзе. З такога пункту гледжання мы і павінны разгледзець дзейнасць Скарыны.

Як мы ўжо ўпаміналі ва ўступе, першым, хто паставіў вывучэнне дзейнасці Скарыны ў залежнасць ад стану айчыннай культуры, быў Уладзіміраў. Безумоўна, звярталі на гэта ўвагу і раней, але не так пэўна. Паколькі заўвагі мелі прыватны характар і яны былі выкарыстаны Уладзіміравым, мы пачнём свой аналіз з аргументаў вучонага. Важныя факты больш позняга часу гэтаксама, як і навейшыя вынікі даследаванняў аб культурным становішчы Беларусі часоў Скарыны, мы будзем мець на ўвазе

і выкарыстаем як дапаможныя пры абгрунтаванні свайго пункту гледжання.

Сваю кнігу Уладзіміраў якраз і пачынае апісаннем агульнага маральна-рэлігійнага становішча і інтэлектуальнага жыцця Паўднёва-Заходняй Русі ў XV—XVI стст. Напачатку аўтар гаворыць пра маральнае і матэрыяльнае апусташэнне праваслаўнага духавенства і яго барацьбу з другімі саслоўямі, найперш з мяшчанствам, якое толькі што выйшла на грамадска-палітычную арэну і пачало ўмешвацца ў рэлігійныя і царкоўныя справы. Уладзіміраў апісвае арганізацыю мяшчанствам т. зв. брацтваў, іх уплыў на грамадскую думку і вызваленне іх ад залежнасці царквы, з якой яны распачалі барацьбу. Сродкам барацьбы стала асвета (43,1—14). Далей Уладзіміраў прыводзіць праваслаўную літаратуру канца XV і пач. XVI ст. паводле каталогаў Слуцкага манастыра 1494 года, бібліятэкі кн. Жыгімонта 1506 года і Супрасльскага манастыра 1557 года. Па магчымасці разглядае літаратуру ў храналагічным парадку. Асобна спыняецца аўтар на дзейнасці Мацея Дзесятага і Фіёля, якая мела пераходны характар у дачыненні да будучай дзейнасці Скарыны (з пункту гледжання мовы). Уладзіміраў прыходзіць да вываду: «Для нас відавочна тое, што ў Паўднёва-Заходняй Русі яшчэ да Скарыны існавалі дзве тэндэнцыі: а) выпісваць на палях царкоўнаславянскіх рукапісаў тлумачэнні некаторым незразумелым выразам — рускімі словамі і б) уводзіць гэтыя словы ў вялікай колькасці ў новыя пераклады і адрэдагаваныя біблейскія кнігі (43, 29—30). Да гэтага аўтар дадае, што культурных сродкаў на мясцовай глебе творцам не хапала і яны мусілі звярнуць увагу на Захад. Далей адзначаецца, што пасрэднікам у справе было змешанае ў рэлігійных адносінах насельніцтва вялікіх гарадоў. Уладзі-

міраў коратка апісвае сувязі з Захадам, асабліва з Чэхіяй, і прыводзіць перакладзеную адтуль свецкую літаратуру. Вывадаў аўтар не робіць, толькі падкрэслівае, што даная літаратура разам з выданнямі Скарыны ўяўляе цікавасць з пункту гледжання сувязей з каталіцкай навукай.

Як бачым, галоўны акцэнт Уладзіміраў робіць на праваслаўную гарадскую супольнасць, якая пераняла ад дэградаванага духоўнага саслоўя справу рэлігійнай асветы. Не маючы магчымасці задаволіць свае патрэбы ўласнымі сродкамі, яна звярнула ўвагу на Захад. Зыходзячы з гэтага меркавання, дзейнасць Скарыны цалкам адпавядала дасягненням айчыннай культуры.

Карціна досыць праўдападобная, але, як бачым, яна мае сваёй передумовай і чужаземны ўплыў. Калі ж прааналізаваць яе больш глыбока — убачым, што яна даволі схематычная.

Заняпад праваслаўнага духавенства не быў такі катастрафічны, каб яно магло выпусціць з рук справу духоўнага выхавання сваіх братоў па веры. Як гаворыць і сам Уладзіміраў, новы мітрапаліт Іосіф Солтан досыць энергічна пачаў выпраўляць царкоўныя справы. Праваслаўная літаратура, не зважаючы на Скарыну, развівалася звычайным роўным тэмпам. У 1502—1507 гг. названы Мацей Дзесяты выпусціў у свет т. зв. «Дзесятаглаў»— збор біблейскіх і богаслужэбных кніг, якія ён перапісаў у Вільні і Супрасльскім манастыры (43, 18, 21—24). У 1514 г. у Вільні па загаду мітрапаліта Іосіфа Солтана дзякам Рыгорам перапісваецца Майсеева «Пяцікніжжа» (43, 19). У 1520 г. дзякам Себасцьянам Абрамовічам з Нобля пры праваслаўным біскупе ў Пінску перапісана «Чацвёраевангелле» (124, II, 380). У 1539 г. напісана і выдадзена коштам кн. Юрыя Слуцкага таксама «Евангелле» (124, II, 381).

У 1543 г. выдадзены «Псалтыр» пінскага старасты Івана Міхайлавіча (тамсама).

Як бачым, у час жыцця першадрукара на ніве праваслаўнай літаратуры праведзена праца, цалкам ідэнтычная Скарынавай. Безумоўна, яна рабілася ў рэчышчы традыцый праваслаўнай царквы і на царкоўнаславянскай мове. З гэтага можна зрабіць вывад, што дзейнасць Скарыны не толькі не была інспіравана патрэбамі літаратуры, але і супрацьстаяла ёй ў моўных адносінах. Што так было ў сапраўднасці, паказвае далейшае развіццё праваслаўнай літаратуры. Фёдараў, браты Мамонічы, кн. Астрожскі і г. д. ажыццяўлялі сваю дзейнасць аж да канца XV ст., займаючы рознае грамадскае становішча. Фёдараў у прадмове да «Евангелля» 1569 г. пісаў, што меркаваў перакласці яго на народную мову, але не ўбачыў у гэтым аніякай патрэбы (31, 130). А Іван Вішанскі і кн. Курбскі выказалі гнеўны пратэст супраць народнай мовы (гэта агульнавядома). Першай праваслаўнай кнігай на народнай мове было «Евангелле» 1616 г., надрукаванае ў Еўі. Гэта была з'ява эвалюцыйнага характару, якую Захад ужо зведаў (пра гэта будзе сказана пазней). Вось чаму сцвярджэнне Уладзімірава, што патрэбы моўнага характару інспіравалі пераход ад простых і нязначных заўваг на палях рукапісаў да выдання цэлай Бібліі на народнай мове, трэба лічыць няправільным.

Акрамя таго, Скарына быў і прапагандыстам народнай мовы, а папярэднікаў у данай галіне дзейнасці ён не меў. Таму цяжка вытлумачыць яго дзейнасць абставінамі айчыннай гісторыі, а тым больш дасягненнямі праваслаўнага грамадства.

Сам Скарына, як мы бачылі, не належаў да праваслаўя, таму і не мог рабіць для яго больш, чым самі праваслаўныя праз сто гадоў пасля яго.

Вызваленне праваслаўнага мяшчанства ад уплыву царквы было, але не ў такой ступені, каб ёй супрацьстаяць. Адбылося гэта значна пазней (129, 388—395). Акрамя таго, вызваляючыся ад уплыву сваёй царквы, яны аказваліся пад уплывам адной з заходніх рэлігій, да якой пазней пераходзілі.

З усяго вышэйсказанага можна зрабіць вывад, што дзейнасць Скарыны не была інспіравана патрэбамі культурнага развіцця праваслаўнага насельніцтва. Большую патрэбу ў гэтым мела каталіцкая частка жыхароў Беларусі. Скарына належаў да рымска-каталіцкай веры (ці гусіцтва), а твораў дзеля патрэб данай царквы да Скарыны не было. Акрамя гэтага, католікі ставіліся больш прыхільна да сувязей з Захадам. Але і гэта не ўсё. Як убачым далей з працы, творы Скарыны прасякнуты духам свайго творцы. Адсутнасць рымска-каталіцкіх кніг да Скарыны толькі падкрэслівала б надзвычай вялікі крок наперад, зроблены прадстаўнікамі данай веры. А эвалюцыя павінна была быць усюды, і на Беларусі ў тым ліку. Сваім выхаваннем Скарына цалкам належыць Захаду, дзе думка, падобная Скарынавай, мела даўнюю гісторыю. Нават сам Уладзіміраў не мог не адзначыць гэты ўплыў.

Вось чаму менавіта тут мы павінны шукаць стымулы Скарынавай дзейнасці. Айчынная культура не мела яшчэ дастаткова развітай глебы для ўзнікнення Скарынавай думкі даць свайму народу Біблію на яго роднай мове. На Захадзе гэтая ідэя была больш развітая і выказана дастаткова акрэслена. Айчынная культура паслужыла толькі тым, што дала самога Скарыну. Творы Скарыны на роднай глебе былі фактарам глыбока рэвалюцыйным як з боку мовы, так і па свайму зместу з яго ідэямі і духам. Карацей кажучы, яны былі з'явай заходнееўрапейскай.

**Уплыў культуры заходнееўрапейскай** як адзін з фактараў, інспіруючых дзейнасць Скарыны, выяўляе сябе даволі выразна. Стымулы, пра якія мы ўжо гаварылі, маглі мець той альбо іншы ўплыў на гэту дзейнасць, маглі прыблізіць яе, аднак іх не хапала, каб яе распачаць.

Калі прыгледзецца да Захаду таго часу, можна бачыць там нешта незвычайнае, асабліва ў параўнанні з Беларуссю. Уся Заходняя Еўропа жыла такім напружаным інтэлектуальным жыццём, якога не ведалі тут ад пачатку гістарычнага быцця. Вялікія перавароты, выкліканыя вынаходствам пораху, кнігадрукавання, адкрыццём дарог да Амерыкі і Індыі, паднялі чалавечую думку ў Заходняй Еўропе да самых вяршынь, адкрыўшы перад ёй далёкія гарызонты. Навуковыя адкрыцці і пачуццёвая паэзія парушылі ўсё, чым жыў і пакутаваў да гэтага чалавек і адкрылі перад ім незнаёмую і чароўную будучыню. Чалавек пачаў верыць у сябе самога, у свае ўласныя сілы і стаў адвяргаць ранейшыя трансцэндэнтальныя погляды, якія прыгняталі яго дух. Заходнюю Еўропу можна было параўнаць з чалавекам, які прабудзіўся ад цяжкага сну і, адкрыўшы вочы, убачыў сябе сярод квітнеючага саду якімсьці каралём. Карацей кажучы, Еўропа перажывала тады сапраўднае лета свайго жыцця, вядомае ў гісторыі пад назвай Адраджэння ці Рэнесансу (у літаратуры — Гуманізму).

Мы не будзем тут падрабязна апісваць гэты рух, паколькі ў іншым месцы мы спыніліся на ім больш грунтоўна. Канстатуем толькі факт, што рух уплываў на фарміраванне светапогляду Скарыны. У пачатку XVI ст. даная плынь дайшла ў самыя аддаленыя куткі Еўропы, ва ўсякім разе туды, дзе панавала універсальная лацінская культура. Яна ўсюды ламала старое, аджылае і смела стварала новыя

каштоўнасці ва ўсіх сферах чалавечага духа. Вынайдзены друк разносіў усё гэта шырокай хваляй аж да народных нізоў. Ці трэба тады здзіўляцца, што гэтая плынь магла так глыбока захапіць юнака з далёкай краіны, куды толькі даходзілі адгалоскі ўсеагульнага руху, паставіўшы перад ім вялікае пытанне: ці не прынесці кроплю гэтага святла ў цёмныя хаткі свайго народа? Як ён сам гаворыць: «Не можем ли во великих послужити посполитому люду рускаго языка, сие малые книжки праци нашое приносимо им» (з прадмовы да кн. «Левіт»).

Што было менавіта так, можна не сумнявацца. Пытанне ў тым, якая з краін зрабіла найбольшы ўплыў, калі за пункт адліку браць пераклад Бібліі на народную мову і побыт Скарыны ў тых ці іншых землях.

Якое ж было стаўленне ў часы Рэнесансу да праблемы выкарыстання ў пісьменстве народнай мовы?

Каб доўга не затрымлівацца на поглядах паасобных прадстаўнікоў данага руху, адразу ж засведчым, што ўся гуманістычная плынь Еўропы ў адказе на гэта пытанне падзялілася на два лагеры. Першы лагер, паўднёвы, на чале з нязменнай Італіяй, быў у той час ужо касмапалітычны. Другі, паўночны, наадварот, лічыў пытанне адным з самых важнейшых (больш падрабязнае апісанне будзе зроблена пазней). А ўвогуле, у розных краінах у залежнасці ад мясцовых абставін існавалі самыя розныя падыходы да гэтай праблемы.

Што ж тычыцца побыту Скарыны, то з біяграфіі вядома: гэта Польшча, Італія, Чэхія і Германія.

Аб становішчы гуманізму ў Польшчы мы гаварылі ўжо ў біяграфіі Скарыны. Што ж тычыцца пытання выкарыстання народнай мовы, то ў польскім

універсітэце і ў грамадстве да яго ставіліся тады адмоўна, а невялікія калівы літаратуры на гэтай мове былі вельмі нязначныя і мала перавышалі падобную беларускую. «На польскай мове ні адзін з акадэмікаў не пісаў» (171, IV, 391). «Князі — адзінае адукаванае саслоўе — перасталі пісаць па-польску» (тамсама, 372). «На судах гаварылася і вердыкты выдаваліся па-нямецку, кракаўскія мяшчане пісалі свае справаздачы па-нямецку» (тамсама, 374). «Мова польская ўступіла лацінскай у акадэміі, нямецкай у гарадах і рускай пры двары першых Ягелонаў» (171, V, 180). «Польска-славянская літаратура, адціснутая былой схаластыкай, ішла ў 15 ст. цалкам да заняпаду. Што сярод людзей бытавалі яшчэ песні і перажыткі розных светасузіранняў, якія сваімі каранямі ішлі ў даславянскія часы, ніводнаму асветніку таго часу не снілася і ў снах» (171, V, 180). «Гісторыя магдэбургскага права» разам са Статутам Вісліцкага і паэзіяй Войцеха са Слупч — самотныя астанкі нашай мовы таго часу» (171, V, XV). «Польская біблія і даўнейшы выклад кніг «положеных»— зніклі» (171, V, 180).

Гэтаксама ацэньваюць становішча польскай мовы таго часу сучасныя польскія гісторыкі літаратуры Брукнер, Хмялеўскі і інш. «Відавочна, што найбольш кніг друкавалася на лацінскай мове, не змяншалася, зразумела, кніг на нямецкай і ўгорскай мовах. Толькі выданняў польскіх трэба было яшчэ чакаць» (142, I, 172).

Прывядзём яшчэ некалькі назваў літаратуры, акрамя названых.

Каля 1500 года быў закончаны пераклад аповесці пра Аляксандра Македонскага (142, I, 143).

Гадамі 1496—1501 датуецца самы вядомы свецкі твор «Помнікі Янычара» (тамсама, пераклад з сербскай мовы Канстанціновіча).

У 1506 годзе ў Галера была надрукавана песня «Багародзіца» (тамсама, 174).

Сярод лацінскіх твораў, друкаваных у 1507—1508 гг., можна знайсці невялікія польскія фрагменты: назвы месяцаў, формулы хрышчэння, кароткія малітвы, упамінанне касцёльных навук, Евангеллі (тамсама). Усё гэта ў час знаходжання ў Кракаве Скарыны. Далей яшчэ былі «Ойча наш», «Радуйся...», «Вершы...» 1475 г. (тамсама) і кракаўскія календары 1491—1496 гг. (13, 56). Зразумела, што гэта былі традыцыйныя для сярэдневякоўя аповесці.

Кожны пагодзіцца, што гэтыя калівы літаратуры не ідуць ні ў якое параўнанне з працамі Скарыны. Вось чаму з пераліку натхніцеляў дзейнасці Скарыны Польшчу мы выключаем.

Італія, як мы ўжо гаварылі, была на той час касмапалітычнай. Пра сувязі Скарыны з Германіяй да выхаду яго кніг мы можам толькі здагадвацца. Магчымае знаходжанне ў Вітэнбергу і вядомае нам ў Кралеўцы былі пазней.

Застаецца Чэхія. Яна мае найбольш падстаў быць натхніцелем думкі Скарыны. Як вядома, ідэя народнай мовы тут мела больш як стогадовую традыцыю, якая потым паяднался з гусіцкім рухам і перажыла роўна сто гадоў жорсткай барацьбы з усёй Еўропай. Выключэннем у гэтых адносінах з'яўляецца гуманізм Багуслава Гасеншэйнскага з Лобкавіц. Але ўся школа чэшскіх гуманістаў на чале з Віктарынам з Вшэград паставіла пытанне надзвычай востра. Негуманістычная ж плынь, асабліва Абшчына чэшскіх братоў, пастаянна друкуе свае кнігі «на карысць мовы і народа чэшскага». З Чэхіяй і лучыць Скарына выбар месца для працы і выбар крыніцы для перакладу. Мова Скарыны сведчыць аб моцным чэшскім уплыве, як гэта доказваюць Добраўскі, Галавацкі, Первольф, Віктараў і

Уладзіміраў. Можна нават сказаць, што прадмовы і пасляслоўі да выданняў у Скарыны прасякнуты чэшскім духам.

З чэшскай культурай і мовай Скарына павінен быў сутыкнуцца яшчэ дома. У нас ёсць звесткі, што ўплыў чэшскай культуры на Беларусі быў рашаючым, гэтаксама, як і шырокае веданне чэшскай мовы .Часткова аб гэтым пісаў Уладзіміраў (43, 37—39). Яшчэ больш звестак падаюць Первольф (47), Бідла (139), Тадра (168), Карскі (109), раней—Палацкі (158). Гэты ўплыў ішоў моцнай хваляй з даўніх часоў аж да часу Скарыны праз універсітэт, дыпламатычныя і грамадскія сувязі і г. д. ва ўсе сферы жыцця: літаратуру, рэлігію, ваенную справу, прамысловасць і гандаль. Як новы факт, не ўведзены да гэтага часу ў навуковы ўжытак, паведамляем наступнае: багаты і непарыўны паток навучэнцаў Пражскага універсітэта — выхадцаў з Беларусі і Літвы.

Аб веданні чэшскай мовы і яе распаўсюджанасці на Беларусі сведчыць праца Лукаша Гурніцкага «Дваранін польскі», уведзеная Палацкім у адно са сваіх даследаванняў (157). Гурніцкі піша: «Гаварыць па-чэшску лічылася адзнакай вышэйшага стылю паводзін, паколькі гэтая мова адукаванаму насельніцтву Літвы і Польшчы здавалася прыгожай і вытанчанай».

У бібліятэцы кн. Жыгімонта ў Вільні, паводле каталога 1506 г., значыліся тры чэшскія кнігі: Біблія, кніга Яна Залатавуснага і «Палітыка» (43, 35). У бітве пад Оршай у 1514 г. значная частка літоўска-беларускага войска складалася з чэхаў (130, 130). Сам князь Жыгімонт раней, чым сеў на трон Літвы (затым і Польшчы), быў князем у Опаве і Глогаве — сілезскіх правінцыях (106).

Гэтага дастаткова, каб Скарына яшчэ ў дзяцін-

стве сутыкнуўся з чэшскай культурай. (Шкада, што ў нас няма спецыяльнага даследавання аб уплыве чэшскай мовы на беларускія літаратурныя помнікі. Уплыў, відаць, быў бы засведчаны яшчэ мацнейшы. На першы погляд мова Літоўскага статута і грамат Магдэбургскага права надзвычай падобная на чэшскую.)

Была магчымасць у Скарыны судакранацца з чэшскай культурай і мовай таксама на Захадзе. (Сведчанні Гурніцкага распаўсюджваюцца і на Кракаў.) Яго настаўнікам у Кракаве быў, як ужо ўпаміналася, Ян з Глогава, сілезскай правінцыі. Брукнер пісаў: «Ліст — папулярная форма гуманістычных твораў... Але чэх пісаў па-чэшску... Цэльтыс вітаў нейкую кракаўскую гуманістку Газіліну, з імем якой звязана першае літаратурнае выступленне... на чэшскай мове» (140, 40). Зразумела, што гаворка ідзе пра Кракаў. Значыць, Скарына ў Кракаве мог быць у акружэнні прыхільнікаў чэшскай культуры і сам належаць да іх.

З чэшскай культурай Скарына мог і мусіў сутыкацца ва ўсіх вялікіх універсітэтах Захаду. У іх славяне трымаліся часцей за ўсё разам, складаючы адзінае універсітэцкае брацтва (168, 257—308).

У Італіі ў час экзаменаў у Падуанскім універсітэце знаходзіўся малады Жыгімонт з Елені; у 1511 г. у Венецыі памёр Вацлаў Пісецкі. Карацей кажучы, у той час у Італіі чэхаў было дастаткова (179; 180). І так аж да Прагі.

З прыведзеных фактаў мы маем поўнае права меркаваць аб захапленні беларускага юнака чэшскай культурай, якая натхніла яго да справы. Хвалі данай культуры, з якімі сутыкнуўся Скарына яшчэ дома, аказвалі на яго ўплыў усюды, дзе б ён не быў, пакуль не прывялі яго да Прагі.

У гэтым сэнсе найбольш рашуча выказаўся Па-

поў: «Калі шукаць якія-небудзь ідэйныя ўплывы на працу Скарыны, трэба аддаць перавагу гусіцтву» (98, 18). У такім жа сэнсе выказаўся і Зібрт (78, 12). Раней да гэтага звярталіся Віктараў, Галавацкі, Первольф, Уладзіміраў.

Такім чынам, пытанне будзем лічыць закрытым. Безумоўна, захапленне чэшскай культурай нельга лічыць адзінай перадумовай дзейнасці. Былі і іншыя прычыны, пра якія мы ўжо гаварылі. Магчыма, што зрабіла ўплыў паўднёваславянская культура альбо нават Рым. Аднак уплыў чэшскай культуры мы лічым самым вызначальным. З аналізу прычын, якія інспіравалі дзейнасць Скарыны, можна меркаваць аб ім і як пра асобу. Гэта быў чалавек, які ў сваёй дзейнасці кіраваўся не асабістымі інтарэсамі, а карысцю для народа, якому хацеў паслужыць сродкамі, набытымі на больш адукаваным Захадзе і якія ён лічыў найлепшымі для данай мэты.





# IV. СКАРЫНА ЯК ПІСЬМЕННІК

## 1. САМАСВЯДОМАСЦЬ СКАРЫНЫ

Пяройдзем да разгляду пісьменніцкай дзейнасці Скарыны. Улічваючы адрозненні пражскіх і віленскіх выданняў, а таксама праблематыку наступнага раздзела працы, мы будзем аналізаваць толькі пражскія выданні.

Размову трэба пачаць з пытання: а ці можна наогул лічыць Скарыну пісьменнікам? Скарына пераклаў і выдаў Свяшчэннае пісанне. Магчыма, яго праца з'яўляецца ўсяго толькі моўным помнікам і не мае нічога агульнага з літаратурай? На Беларусі яшчэ да Скарыны, акрамя летапісаў і розных юрыдычных помнікаў, амаль уся «літаратура» была пераважна перакладной. Больш таго, непасрэдна перапісанай з нейкіх старадаўніх крыніц. Як мы бачылі, у літаратуры на польскай мове гэтаксама мала аўтэнтычнага. Розныя віды перакладаў складаюць значную частку кніжнага запасу на нацыянальных мовах Захаду пазнейшых часоў. Такім чынам, і перакладам Скарыны належыць як бы сваё месца ў «літаратуры». Меркаванні сучасных гісторыкаў літаратуры аб праблеме раздзяляюцца. Калі ўкраінскія і беларускія даследчыкі

пачынаюць, звычайна, Скарынам новы (сярэдні) час, то велікарусы абмяжоўваюцца толькі ўпамінаннем альбо часцей проста не называюць (189; 190). Брукнер (113) не хоча залічаць да ўсеагульнай літаратуры ні перыяд старажытнай украінскай пісьменнасці, акрамя «Слова пра паход Ігаравы», ні сярэдні беларуска-ўкраінскі і велікарускі перыяд. Скарыну ён таксама толькі называе. Вазняк (87, I, 80), наадварот, стаіць за тое, каб той час і перакладныя творы разглядаліся як арыгінальныя, свае ўласныя.

Якое з гэтага бачыцца выйсце? Пэўных звестак з часу, які мы даследуем, у нас няма. Сам Скарына называе свае выданні «працею и выкладом». Аб значэнні слова «праца» мы гаварылі. Мелася на ўвазе сапраўдная праца, клопат. «Выклад» у разуменні Скарыны азначаў «пераклад», аб чым яскрава сведчаць шматлікія выказванні ў творах тыпу «выложити книгу сию на рускый язык», г. зн. перакласці. Ці лічыў Скарына «выклад» арыгінальнай літаратурнай працай, як гэта разумеем мы зараз,— невядома. Перакладная і перапісаная літаратура, пакольні мы загаварылі пра яе ў сувязі са Скарынам, была найчасцей ананімнай, а яе аўтары ў большасці — невядомыя. Карскі (81, 278) адзначаў, што пакольні гэтыя аўтары лічылі сваю працу богаўгоднай і тым самым своеасаблівым выкананнем свайго рэлігійнага абавязку, то іх працу сапраўды можна параўнаць з рамяством. Скарына, як мы бачылі, зыходзіў з іншых меркаванняў, з ініцыятывы ўласнай. Вось чаму да яго працы трэба падыходзіць з іншымі меркамі. Мы будзем разглядаць пераклад як тэхнічную рэалізацыю ідэі Скарыны і звяртацца да яго як да закончанай працы. Пры характарыстыцы Скарыны як пісьменніка будзем абапірацца на звесткі, якія зыходзілі ад яго

самога, г. зн. на прадмовы і пасляслоўі да паасобных выданняў. У гэтым мы будзем салідарнымі з І. Франко, які лічыў, што арыгінальнай літаратурай таго часу можна лічыць толькі прадмовы і прысвячэнні (72, 703).

На прадмовы ў Скарыны звярнуў увагу яшчэ Штрытэр, які ўвёў іх змест у навуковы ўжытак (43, 111). Аляксееў робіць з іх шэраг выпісак (тамсама) як і Сопікаў, Добраўскі і інш. Уладзіміраў апісвае іх (43, 100—127), адзначаючы, «што яны маюць значэнне для характарыстыкі Скарыны не толькі як перакладчыка, але і як пісьменніка» (43, 100).

Зараз пяройдзем да іх разгляду.

Прыводзячы ў канцы працы ўрыўкі тых прадмоў і пасляслоўяў, якія мы ўзялі з даследаванняў паасобных вучоных, мы далучылі да іх падобныя прадмовы з іншых выданняў таго часу, каб\ з іх дапамогай лепш высветліць постаць Скарыны. Да апошніх прац і звернемся ў першую чаргу. Яны невялікія па памерах і больш нагадваюць заўвагі. Аднак з іх можна вылучыць нешта характэрнае і тыповае для іх аўтараў.

Першае, што кідаецца ў вочы як тыповая з'ява, недаацэнка іх творцамі сваёй уласнай індывідуальнасці. Яны лічаць сябе нягоднымі, грэшнымі, грубымі, рабамі Божымі, беднымі, чарвямі і г. д. Карскі (81, 293) адзначае, што колькасць такіх эпітэтаў, якія характарызуюць адносіны тых пісьменнікаў (перапісчыкаў) з часоў Скарыны і пазней да саміх сябе, пастаянна ўзрастала і ў «Пралогу» 1550 года іх ужыта адразу аж цэлых 43.

Зусім не тое мы бачым у Скарыны. Ужо сам загаловак «Бібліа руска выложена докторомъ Францискомъ Скориною из славнаго града Полоцька...» указвае, што гэтай рысы ў яго не было. Ён называе сябе доктарам са слаўнага горада...

Больш таго, чым далей, тым больш узмацняецца супрацьлеглая рыса — самаўсведамленне сябе як асобы.

У прадмове да першай сваёй кнігі—«Псалтыра» 1517 года — Скарына, гаворачы пра карысць гэтай кнігі ў навучанні дзяцей і аб вялікай яе каштоўнасці ўвогуле, робіць вывад: «И видечи таковые пожиткы в так малой книзе, я, Францишек... в лекарскых науках доктор, повѣлел есми Псалтырю тиснути рускыми словами...» На першы план выступае тут уласнае «я».

У пасляслоўі да кнігі сказана: «Скончалася... повѣлѣнием и працею избранного мужа в лѣкарскых науках доктора...»

Пачынаючы з чацвёртай кнігі («Ісус Сірахаў»), пастаянна ўводзяцца словы: «Предословие доктора Франъциска Скорины с Полоцька...» (43, 102).

Мяркуем, што няма патрэбы прыводзіць ўсе месцы, дзе выяўляецца самасвядомасць Скарыны. Гэтым пачуццём пранізаны амаль усе радкі прадмоў і пасляслоўяў. Усюды Скарына выступае як моцны аўтарытэт, які шмат ведае, а таму і робіць. Ён павучае ўсяму, што лічыць патрэбным, абапіраючыся на свае веды і навуку. Гэта своеасабліва выказанае «я» можна адчуць паўсюдна. Не пазбягае ён і выхваляння, калі, напрыклад, прыводзячы словы і цэлыя сказы з грэчаскай, лацінскай і стараяўрэйскай моў, адзначае, што гэтага не было ў яўрэйскай, таго ў лаціне, аднак ён палічыў патрэбным сказаць і тое, і другое (43, 114).

Толькі ў некалькіх месцах Скарына як бы адыходзіць ад намечанага шляху. У прадмове да ўсёй Біблii сказана: «О сих книгах всея Бивлии, подле малости розуму моего, розделы вкратце положих. А в чем бых ся омылих, разумнейшие поправте, прошу вас для бога и посполитого доброго». А ў канцы

XII часткі кн. «Прарок Данііл» напісана: «Аз теже, недостойный последовник их (г. зн. Ераніма і інш.)... межи иными пророки светыми выложих и Данила...»

Але больш прыкладаў няма. Уладзіміраў, цытуючы першую вытрымку, адзначае, што «гэта... найлепшае сведчанне таго, што Скарына прызначаў сваю Біблію праваслаўным чытачам Паўднёва-Заходняй Русі XVI стагоддзя» (43, 118). Мы данага не бачым. Гэта хутчэй падобна на водгук духа Яна Гуса, які, як вядома, заўсёды прасіў павучаць яго, калі дзе мог памыляцца. Гэтаксама, як і яго паслядоўнікі. Другая вытрымка ўказвае на ўсеагульную павагу каталіцкага свету да Ераніма.

Для характарыстыкі самасвядомасці Скарыны цікавы такі момант. Мецэната сваіх пражскіх выданняў Багдана Онкава ён не ўсхваляе, а абмяжоўваецца толькі простым упамінаннем: «А то ся стало накладом Богдана Онкова сына радци места виленского».

У гэтых адносінах, як бачым, паміж Скарынам і яго тагачаснымі паплечнікамі існавала велізарная розніца. Параўнаць яго нельга ні з прадстаўнікамі папярэдняй беларускай літаратуры, ні з тымі, хто прыйшоў у яе пасля Скарыны.

Пэўныя аналогіі ёсць толькі на Захадзе. Гэта можна бачыць найперш з падобных прадмоў і пасляслоўяў да чэшскага перакладу Св. пісання. Напрыклад: «...работу, якую слаўныя мужы і мешчанін пан Ян Мяшочак...» і г. д. (з Пражскай бібліі 1488 года ў Новатнага з Лужэ, гл. 155, і «Інкунабулы...» Ганкі, гл. 137, 110); «Мікулаш Конач з Ходзішкава замест прыдворнага суддзі...» і ў канцы — «вось табе, мілы чэху, твая славянская мацярынская мова...» (з «Правілаў чалавечага жыцця» Конача, прыведзеных у Ганкі, гл. 137, 111). Тут мож-

на заўважыць асобныя паралелі. Некалькі слабей выяўлена рыса ў бібліях Кутнагорскай і Венецыянскай. З данага пункту гледжання прадмовы і пасляслоўі Скарыны маюць больш агульнага з Бібліяй 1506 года, чым з Бібліяй 1488 года.

Яшчэ больш выразна самаўсведамленне пісьменніка выяўлена ў свецкіх і гуманістычных творах на Захадзе (Конач).

Гундуліч спявае: «Ой вы, дзевы чыстыя, блажэнныя... цяпер таксама памажыце мне... Уладзіславе слаўны... зрабі мне ласку песні слухаць... Хачу я імі разнесці славу тваю па ўсім свеце...» («Асман», спеў першы, пераклад Вінаржа). Арыёста: «Я слаўлю даспехі, рыцара кахання, жанчыну...» («Утрапёны Раланд», пераклад Врхліцкага).

«Петрарку цікавіць найперш яго ўласнае «я» (175, I, 255). «Развіццё пачуцця асабовасці парадзіла і славалюбства, якім вызначаўся Петрарка» (тамсама, 260). Карэлін-наогул пісаў: «Дзве асноўныя рысы складаюць асаблівасць гуманістычнай літаратуры: індывідуалізм і цікавасць да антычнасці. Гэты індывідуалізм характарызуецца цікаўнасцю чалавека да самога сябе, да свайго ўнутранага свету...» (175, II, 1001).

Гэтага, бадай, дастаткова. Усе іншыя даследчыкі таксама вылучаюць даную рысу ва ўсіх гуманістаў.

Такім чынам, будзем лічыць яе і ў Скарыны рысай гуманістычнай. «Сярэдневяковая хрысціянская сціпласць саступіла месца ў гуманістаў вялікаму пачуццю самаўсведамлення сябе як асобы; яны імкнуліся да пашаны і славы і ўмелі ставіць на першы план сваю асабовасць; гуманізм парадзіў моцных індывідуумаў, якія праклалі яму новыя дарогі; вакол іх канцэнтравалася грамадства, узнік культ асобы» (170, 20).

Самасвядомасць Скарыны як тэма даследавання распрацавана спецыялістамі даволі слаба.

Гатцук (30, 323) адзначае, што Скарына ўзняўся вышэй тых сродкаў і мэт, якія ставіла перад сабой прымітыўнае кнігадрукаванне.

Уладзіміраў часткова называе гэтую асаблівасць Скарыны (пры аналізе прадмоў), але гаворыць пра яе вельмі мала і не адзначае вытокаў гэтай рысы.

Найбольш рашуча выказаўся толькі Папоў, які пісаў, што «ў пасляслоўях да выданняў Скарыны адчуваецца новы, дзейсны дух аўтара... Гэта чалавек індывідуалістычнага нораву, смелы, энергічны, прадпрымальны...» (43, 19). Але тлумачэнняў ён зноў жа ніякіх не дае.

Можна сказаць, што на ўсёй творчасці Скарыны аж да прыезду ў Вільню ляжыць яркі і выразны адбітак яго асабовасці. Інспіруючых фактараў і ўзораў, якія б натхнялі Скарыну да працы, на роднай глебе не было. Прыдбаў гэту рысу Скарына толькі на Захадзе.

## 2. СВЕЦКІЯ ПОГЛЯДЫ СКАРЫНЫ

Рыса, адзначаная намі як тыповая для беларускіх пісьменнікаў, сучаснікаў Скарыны, а менавіта — недаацэнка свайго «я» — не была, безумоўна, выпадковай. Наадварот, яна самым непасрэдным чынам звязана з трансцэндэнтальнымі поглядамі ўсяго сярэдневяковага хрысціянства, як р.-каталіцкага, так і праваслаўнага. Жыццё для яго з'яўляецца толькі часовым, мінучым, нечым накшталт ранішняй расы, кветкі, якая сёння ёсць, а заўтра няма. Наша зямля — месца пакуты, куды Бог паслаў чалавека, каб выпрабаваць яго душу на годнасць

належаць таму сапраўднаму і вечнаму жыццю, якое наступіць пасля смерці і дзе ён будзе ўзнагароджаны згодна з тым, як паводзіў сябе ў жыцці цяперашнім. І чым больш ён тут трываў пакут, тым большую ён атрымае плату. «Civitas Dei» * на Захадзе і ісіхазм на Усходзе цалкам адпавядалі сутнасці развітога хрысціянскага светасузірання перыяду сярэднявечча і былі яго прадуктам.

Пісьменнікі гэтага напрамку былі выразнікамі ўсеагульнага руху. Мы схільны бачыць у недаацэнцы сябе не толькі сапраўдны дух аўтараў, але ў пэўнай ступені і своеасаблівую форму самаўсведамлення, пэўнае выхвалянне сваёй рэлігіяй. Аднароднасць грамадскага настрою дазваляла такому красамоўнаму аскету мець пэўную пашану яшчэ пры зямным жыцці.

Самасвядомасць Скарыны цалкам іншага характару. Гэта не азначае, аднак, што мы адмаўляем яму ў набожнасці. На гэта ў нас няма ніякіх падстаў. Праз усе яго пасляслоўі чырвонай ніткай праходзіць думка, што робіцца гэта «Богу ко чти...» (ва ўсіх без выключэння). Тое ж самае кажа ён у вершы «Богу в троици единому ко чти и ко славе, Матери его пречистое Марии к похвале...» Гэтаксама і ў другім вершы — «Веруй в бога единаго!», ці, як мы казалі, «Дзесяці запаведзях» Майсея. Ва ўсіх пасляслоўях Скарына сапраўды тлумачыць Св. пісанне, робіць на яго аснове павучанні, пераўвасабляючыся ў прапаведніка. Як адзначае Уладзіміраў (43, 100), усё гэта збліжае яго творы з так званымі «Толковыми книгами».

Аднак, не зважаючы на гэта, погляд Скарыны

---

* «Пра град божы» — твор Аўгусціна Блажэннага, у якім зроблена філасофска-тэалагічнае абгрунтаванне хрысціянства.

на сваю працу з'яўляецца процілеглым поглядам яго паплечнікаў.

Да слоў «Богу ко чти...» ён заўсёды дадае «людем посполитым к доброму научению» (не для выратавання, аб чым мала дзе гаворыцца). У вершах — тое ж самае. Першую кнігу — «Псалтыр» — ён прызначае «детем малым» як «початок всякое доброе науки».

Скарына разглядае Псалтыр не толькі з набажэнскага боку, але і з пункту гледжання жыцця духоўнага, узвышанага: «Псалом жестокое сердце мякчить ислезы с него, якобы со источника, изводить...» Псалом «...тело пѣнием веселить и душу учить». «И что ест, чего в псалмох не найдешь? Нест ли там вѣличества божия и хвалы его? Там ест справедливость. Там ест чистота, душевная и телесная. Там ест наука всякое правды. Там ест мудрость и друголюбство...» Звяртае на сябе ўвагу маральны бок твораў, потым праз частыя ўпамінанні пра мудрасць вылучаецца філасофскі аспект.

Мы адзначылі ўжо, як Скарына глядзіць на неабходнасць сваёй працы: «...не толико сами собе народихомся на свет, но более ко службѣ божией и посполитого доброго» (прадмова да кн. «Эсфір»). Таму ён і ўзяўся за гэту працу.

Скарына павучае зыходзячы з патрэб жыцця зямнога. У сваім жаданні ён нават пасягае на тое, каб даваць парады са Св. пісання майстрам вайсковай справы: «Аще ли же кохание имаши ведати о военных а о богатырских делех, чти книги Судей, или книги Махавеев, более и справедливее в них знайдеш, нежели во Алекса[н]дрии или во Тройи».

Тут яшчэ, як бачым, робіцца параўнанне сваіх выданняў з творамі свецкай літаратуры. Наогул пры параўнаннях Скарына ўсюды звяртаецца да рэчаў звычайных, звязаных з зямным жыццём. Ён

дае звесткі аб сямі вызваленых навуках, адзначае розніцу паміж царкоўнымі і свецкімі законамі (прадмова да кн. «Ісус Навін» і кн. «Царствы»).

Такіх прыкладаў мы маглі б прывесці намнога больш, але гэта будзе відаць і па наступных раздзелах працы. Мяркуем, што гэтага дастаткова, каб убачыць розніцу паміж поглядамі Скарыны і яго равеснікамі. Не знаходзім мы ў яго і страху перад вечнымі пакутамі. Ды і само ўяўленне Скарыны пра рэлігію больш высокае і ўзнёслае.

Усе прыведзеныя тут сведчанні падкрэсліваюць у Скарыне чалавека свецкіх поглядаў, інтэлігента-асветніка.

Свецкі характар працы Скарыны тлумачыцца яшчэ тым, што сам ён не належаў да духавенства, а быў у літаратуры вучоным-аматарам, што ў яго час было з'явай надзвычайнай. Калі ж звярнуць увагу на імёны сучасных Скарыне пісараў, то ўбачым людзей амаль выключна духоўнага сану.

Свецкасць поглядаў давала яму магчымасць змагацца з дагматызмам той ці іншай рэлігіі, як мы засведчылі ў папярэднім раздзеле працы.

Адзнакай свецкасці працы з'яўляецца і мова твораў, пра што пазней будзе весціся асобная гаворка. Царква, як праваслаўная, так і каталіцкая, непрыхільна ставілася да рэлігійных кніг на народнай мове. У праваслаўнай царкве яшчэ і зараз ужываецца царкоўнаславянская мова, што адпавядае канонам Трэнцкага царкоўнага сабора (Sessio XII, de sacrificio missae *, canon 9, для Беларусі стар. 625). Толькі тады, калі размова ішла аб прапагандзе ідэй, царква дазваляла народным мовам быць своеасаблівым фарватарам.

Беручы пад увагу ўсё вышэйсказанае, мы маем

---

* Паседжанне XII, аб ахвярнай імшы.

права меркаваць, што ўсю сваю дзейнасць Скарына прысвяціў людзям свецкім ці, як ён пісаў, «людем посполитым».

Выданне Св. пісання свецкім чалавекам было ажыццёўлена дома Швайпольтам Фіёлем, але ён як чужынец па нацыянальнасці не змог увасобіць у сваёй справе пачуцці і погляды свецкага чалавека і друкаваў кнігі выключна дзеля практычных патрэб. Скарына стаіць намнога вышэй за яго і з'яўляецца свецкім дзеячам і пісьменнікам.

Аналогіі з Захадам знаходзіў для сябе Скарына і тут. Свецкія погляды, а таксама вызваленне літаратурнай дзейнасці ад манапалізацыі духавенства праяўляліся тут надзвычай актыўна. Даўно ўжо з'явілася на свет арыгінальная свецкая літаратура. З-за бяспрэчнасці і прызнанасці факту прыкладаў прыводзіць не будзем. «Усеагульнае светаўспрыняцце новага часу (часу Скарыны.— *І. Д.*) адрозніваецца ад сярэдневяковага сваім свецкім характарам» (173, 205).

Пра свецкасць Скарыны было напісана больш.

Мітр. Яўген змяшчае звесткі аб Скарыне ў «Словарь светских писателей» (43, XI).

Галавацкі горача аспрэчвае права Скарыны выступаць без благаслаўлення духавенства, называе яго асвечаным самазванцам і г. д. (гл. уступ).

Віктараў называе Скарыну выдатным дзеячам (28, 20), разумеючы пад гэтым словам «сучасны».

Уладзіміраў звяртаецца да гэтага ў сваёй кнізе неаднаразова.

Уся сучасная школа ўкраінскіх і беларускіх гісторыкаў літаратуры разглядае творы Скарыны як плён свецкай літаратуры.

Такім чынам, у раздзеле мы яшчэ больш падкрэслілі свецкасць поглядаў Скарыны і ўвялі іх у адпаведны кантэкст Заходняй Еўропы.

## 3. ПАТРЫЯТЫЗМ СКАРЫНЫ

Другой рысай сучасных Скарыне пісьменнікаў, што збліжае іх між сабой і рашуча аддзяляе ад Скарыны, з'яўляецца універсальны дух царкоўнага касмапалітызму, характэрны не толькі для заходняй царквы, але і для праваслаўнай.

Скарына ў сваіх творах выяўляе нам тып гарачага патрыёта. І што характэрна. Яго патрыятызм праяўляецца не як любоў да радзімы, а як любоў да роднага народа, носьбіта «рускаго языка».

Мы адзначалі ўжо ў працы, наколькі матэрыяльныя інтарэсы мелі перавагу пры выбары сферы дзейнасці. Прыводзілі мы таксама ўласныя словы Скарыны з прадмовы да кн. «Эсфір», што «не толико сами собе народихомся на свет», але і дзеля дабра свайму народу, якому і хоча паслужыць аўтар сваёй працай. Яшчэ больш выразна акрэслена думка ў прадмове да кн. «Выхад» *: «Тако ж и мы, братия, не можем ли во великих послужити посполитому люду рускаго языка, сие малые книжки праци нашое приносимо им».

Таксама ў раздзеле пра свецкія погляды мы адзначылі, што амаль у кожнай прадмове і пасляслоўі да слоў «богу ко чти» Скарына дадае «людем посполитым к научению», а часта — «к пожитку». Гэта яскрава сведчыць на карысць таго, што ўсю сваю дзейнасць ён прысвяціў свайму народу.

У прадмове да «Псалтыра» Скарына тлумачыць, што робіць гэта «наболей с тое причины, иже мя милостивый бог с того языка на свет пустил».

---

* Аўтар, відаць, памыліўся, паколькі прыведзеная ніжэй цытата ўзята з прадмовы да кн. «Левіт».

Скарына імкнецца, каб яго кнігі былі зразумелымі народу. Калі ж адну кнігу з пражскіх выданняў («Псалтыр») ён друкуе на царкоўнаславянскай мове, то хоча кампенсаваць гэта перакладам незразумелых слоў на палях кнігі (гл. прадмову да «Псалтыра»). У іншых прадмовах ён тлумачыць і такія словы, як Юдзіф, Саламон і інш. Раўніва ставіцца Скарына да таго, каб не было што скарочана ў яго «руском» перакладзе ў параўнанні з перакладамі на іншыя мовы (больш шырокае тлумачэнне і прыклады гэтаму будуць прыведзены ў наступных раздзелах).

У гэтых адносінах вельмі паказальнай для Скарыны з'яўляецца адзначаная вышэй яго барацьба з дагматызмам.

Найбольш яскрава патрыятызм Скарыны выказаны ў прадмове да кн. «Юдзіф». Уводзячы вобраз Юдзіф як прыклад патрыятызму для мужчыны, ён патрабуе ад іх «всякого тружания и скарбов для посполитого доброго» і каб «для отчины своея не лютовали». А далей гаворыць: «Понеже от прирожения звери, ходящие в пустыни, знають ямы своя; птици, летающие по возъдуху, ведають гнезда своя; рибы, плывающие по морю и в реках, чують виры своя; пчелы і тым подобная боронять ульев своих,— тако ж и люди, игде зродилися и ускормлены суть по бозе, к тому месту великую ласку имають. Прото ж и сия вдовица Иудиф для места рожения своего выдала ест живот свой на небезпеченство. Но господь бог для доброго умыслу ся помог ей, яко непобедимого от людей победила».

Гарачы патрыятызм Скарыны і акцэнтаванне ім любові да свайго народа самым цесным чынам звязаны як з невыразным становішчам Вялікага княства Літоўскага ў дачыненні да Польшчы, так і становішчам у княстве беларускага народа (гэ-

таксама, як і часткі ўкраінскага). Праз князёў Ягелонскай дынастыі Літоўскае княства было з'яднана з каралеўствам Польскім асобнай уніяй. Пачатак быў пакладзены ў мястэчку Крэва ў 1385 годзе. Кожная з дзвюх дзяржаў, уваходзячы ў федэрацыю, кіравалася перш за ўсё сваімі ўласнымі мэтамі і выгодамі. Калі Літва ў федэрацыі кіравалася як быццам бы толькі інтарэсамі абароны супраць наступаючых нямецкіх рыцараў і ўзмацнення Масквы, то Польшча акрамя знешняй палітыкі яшчэ з самага пачатку выявіла імкненне расшырыць уплыў рымска-каталіцкай царквы і зрабіць Літву сваёй звычайнай правінцыяй. Кожная з дзяржаў захавала сваю асаблівую юрыдычную сістэму і ўнутраны распарадак. Аднак розныя мэты той ў рэшце рэшт прывялі да канфліктаў між імі. У больш залежным становішчы апынулася Літва, паколькі ў ажыццяўленні галоўнай мэты Польшчы быў зацікаўлены ўвесь Захад. Таму гісторыя Літоўскай дзяржавы ад самай Крэўскай уніі ўяўляе сабой час гарачай і бесперапыннай барацьбы не толькі са знешнімі суседзямі, але і са сваім саюзнікам і ўсім, што ад яго зыходзіла. Гэта было бязлітаснае змаганне Літвы за самастойнасць, за асобную пагранічную зону, за раздзельныя парадкі, афіцыйную мову, правы, звычаі, якія былі ўжо ўсталяваны ўсёй папярэдняй культурай, што розніласся ад заходняй, і г. д. Да гэтага далучылася барацьба новых поглядаў, інспіраваных Захадам, са старымі на самыя разнастайныя з'явы. Але гэта была ўжо барацьба на глебе самой Літоўскай дзяржавы.

Апісваць усю барацьбу ў сваёй працы, якая абмежавана пэўнай тэматыкай, мы не можам. Гэта не ўваходзіць у нашы планы. Да таго ж пытанне даследавана ў спецыяльных працах, якія мы част-

кова прыводзім у бібліяграфіі. Тут дастаткова будзе сказаць, што ў часы Скарыны барацьба дасягнула апагея. Усякі паляк лічыўся ў Літве чужынцам. Ён не мог займаць ні свецкай, ні духоўнай пасады, калі там хапала сваіх людзей. А яшчэ пазней Літоўскі статут 1566 года выразна акрэсліў: «А пісар земскі павінен па-руску літары і словы, афіцыйныя паперы і запрашэнні пісаць, а не іншай мовай і словамі...» Пра рэлігійную барацьбу мы гаварылі раней.

Зараз звернемся да становішча беларускага народа ў Літве. Ён знаходзіўся ў складзе гэтай дзяржавы яшчэ ад самага яе ўзнікнення: усе тры сталіцы дзяржавы — Наваградак, Трокі і Вільня — знаходзіліся на беларускай тэрыторыі. Пад час небяспекі з боку ваяўнічых татараў амаль увесь беларускі народ цалкам добраахвотна ўвайшоў у новую дзяржаву і прыняў самы актыўны ўдзел у яе фарміраванні, часта выступаючы супраць спрадвечна літоўскай яго часткі, калі яна іншым разам выказвала памкненні да самастойнасці. Як народ, больш развіты ў культурных адносінах, чым літоўскі, маючы трывала засвоеныя традыцыі праваслаўнай візантыйскай і старакіеўскай культуры, ён набыў у дзяржаве вялікія перавагі ва ўсіх сферах дзейнасці. Без усялякіх перашкод пачала распаўсюджвацца праваслаўная вера сярод насельніцтва Літоўскай дзяржавы. Беларуская мова стала дзяржаўнай у княстве Літоўскім, а ў часы Альгерда была аб'яўлена ёй афіцыйна. Ішло да таго, каб праваслаўнай і беларускай магла стаць уся дзяржава. На карысць гэтага сведчыць той факт, што яна мела тэндэнцыю да пашырэння і на тэрыторыю прыбужскіх украінцаў і велікарусаў. Калі ж у дачыненні да першых княства шмат чаго дасягнула, падзяліўшы з Польшчай іх тэрыторыю, у адносінах да

велікарусаў яно наткнулася на моцны адпор Масквы і з наступленнем мусіла перайсці да абароны. Аднак гэта не зменшыла переваґі беларуска-праваслаўнага элементу ў Літве.

Так было да Крэўскай уніі.

Цалкам змянілася становішча беларускага народа (цяпер ужо з вялікай часткай украінскага) пасля уніі. Да тых часоў паганскае насельніцтва Літвы было ўжо ахрышчана па лацінскаму абраду. Пануючай у дзяржаве стала рымска-каталіцкая царква. А за ёй ішла і ўся заходняя культура са сваёй універсальнай лацінскай мовай, да якой яшчэ далучылася польская. Беларускі народ (і ўкраінскі) з яго культурай непасрэдна сутыкнуўся з культурай намнога мацнейшай і мусіў абараняцца. Але сярод беларуска-ўкраінскага насельніцтва, раней паўсюдна праваслаўнага, каталіцкая царква пачала карыстацца поспехам, што засведчана было нават ва ўсходняй частцы дзяржавы. «Руская» вера мусіла бараніць не толькі сябе, але ўвесь народ з яго культурай.

З цягам часу культурна-рэлігійная барацьба паядналася з барацьбой палітычнай, якая апісана вышэй. Такім чынам, было захавана шмат ранейшых пазіцый беларускага народа. Культура беларускага племені, мяняючы веравызнанні, увесь час заставалася пануючай. У дачыненні да веры настаў час талерантнасці і граматы магдэбургскага права, гэтаксама як і многія другія акты другой паловы XVI ст., як правіла, прызнаюць раўнапраўе абедзвюх рэлігій. Праваслаўе перастала быць паняццем, ідэнтычным рускаму, а рымска-каталіцкае — польскаму веравызнанню. У граматах канца XV — пач. XVI ст. амаль паўсюдна называецца «рымскі і грэчаскі закон».

Польскі націск, аднак, на гэтым не спыніўся.

Загад біскупа Яна 1526 года аб перакладзе Св. пісання ў Вільні на польскую мову можна лічыць адной з першых прыкмет новаўтвораных адносін. Націск з боку маскоўскіх князёў Яна III і Васіля III прымусіў палякаў даць дзяржаве некаторыя палёгкі. Носьбіты беларускай (ужо не толькі рэлігійнай) культуры былі вымушаны ў гэтых абставінах распачаць барацьбу, ужываючы цяпер тую ж самую зброю, што і палякі. Барацьба культурна-рэлігійная пераўтварылася ў барацьбу нацыянальна-культурную. Як сцвярджае Уладзіміраў, праваслаўная царква адыходзіць на другі план, даючы месца самому народу [1].

У гэтым сэнсе словы пранікнёнай любові да радзімы і свайго народа, выказаныя Скарынам-вучоным, з'яўляюцца цалкам зразумелымі. Падалі ж словы-зярняты на ўрадлівую айчынную глебу, хоць, можа, яшчэ і не зусім гатовую даць плён.

Гэтая рыса мастацкай творчасці (патрыятызм) да Скарыны не сустракалася таксама. Ва ўсякім разе — у свецкай літаратуры на Беларусі. Красамоўным прыкладам для Скарыны магло б быць «Слова пра паход Ігаравы» з даўнейшых Кіеўскіх часоў, але ў нас няма ніякіх звестак пра тое, што ён мог яго ведаць. Акрамя гэтага, застаецца толькі афіцыйная літаратура і прыклад Захаду. Вось чаму і тут постаць Скарыны з'яўляецца выдатнай, па-

---

[1] На тлумачэнне прыйшлося адвесці шмат месца, але гэта выклікана неабходнасцю высветліць перадумовы дзейнасці Скарыны больш глыбока, не абмяжоўваючыся праваслаўна-рэлігійнымі фактарамі. Як і паўсюдна, дзе прыводзяцца звесткі, непасрэдна не звязаныя з тэматыкай, іх крыніцы мы не называем, а накіроўваем чытача да спіса дапаможнай літаратуры, які праведзены ў бібліяграфіі.

колькі распачынае сабой шэраг пісьменнікаў патрыятычнага напрамку аж да аўтара знакамітай «Прамовы Мялешкі».

У славян на Захадзе пісьменнікі патрыятычнага напрамку прадстаўлены даволі шырока.

У Польшчы гэта Рыгор з Санака, які, праўда, пісаў на лацінскай мове.

Добрым прыкладам для Скарыны мог быць харвацка-дуброўніцкі паэт Марка Маруліч, які ў 1501 годзе выдаў вершаваную «Юдзіф» з той жа ідэяй, якая выказана ў прадмове да аднайменнай кнігі Скарыны. Прамы ўплыў на Скарыну не выключаны, калі дапусціць, што найбольш прыцягальнай з усіх славянскіх краін была ў гэтым сэнсе зноў жа Чэхія, адносіны якой да Германскай імперыі былі аналагічныя тым, якія склаліся паміж Літвой-Беларуссю і Польшчай. Пісьменнікаў патрыятычнага напрамку ў Чэхіі не заставалася. Толькі Багуслаў з Лобкавіц некалі звярнуўся да «Германцаў». Але ад пачатку гусіцкага руху і яшчэ да яго тут тварыць пісьменнікі амаль выключна патрыятычнага напрамку.

Італьянскія гуманісты прыкрывалі свой патрыятызм касмапалітызмам. Нямала іх было і ў Германіі.

Такім чынам, на Захадзе Скарына меў для сябе прыкладаў дастаткова.

Аб патрыятызме Скарыны напісана шмат, але з таго часу, калі яго пачалі разглядаць як дзеяча культуры. Пра гэта ўпамінае, напрыклад, Віктараў. Аганоўскі піша, што Скарына друкаваў кнігі дзеля асветы свайго народа (37, 154). Уладзіміраў гаворыць пра гэта ў біяграфіі (43, 51) і пры апісанні прадмовы да кн. «Юдзіф» (43, 113). Шляпкін заўважае, што ў Падуі Скарына называе сябе «Ruthenus» (65, 382). Усе беларускія і ўкраінскія

гісторыкі літаратуры звычайна адзначаюць гэту рысу на падставе прадмовы да кн. «Юдзіф».

Такім чынам, мы прывялі дастаткова аргументаў на карысць названай асаблівасці і звязалі яе з абставінамі культурнага развіцця Айчыны і замежных краін.

## 4. ДЭМАКРАТЫЗМ

У Скарыны часта сустракаецца выраз «люд посполиты» ці «людем посполитым к доброму научению». На падставе таго факту, што ў 1553 годзе вядомыя нам з біяграфіі Еська Скарына і Гаўрыла Аляксеевіч прадстаўляюць у Рызе Полацкае гарадское зямляцтва, называючы яго «братия своя посполитая», Уладзіміраў бачыць у гэтым як быццам бы дакументальнае тлумачэнне паняцця «посполиты». На яго думку, яно атаясамлівалася са словам «гарадскі» (75, 32).

Пад словам «поспольство» разумее гарадское саслоўе і Даніловіч (129, 240).

Мы, аднак, можам растлумачыць выраз інакш.

Грамата на Магдэбургскае права гораду Вільні дадзена ў 1387 годзе на беларускай і лацінскіх мовах. Паралельныя назвы паасобных катэгорый гарадскіх жыхароў выглядаюць так: жыхары — cives; пасяленцы — incolae і ўсё поспальства — et tota communitas (129, 230). Грамата Полацку 1498 года дадзена «для размножения посполитого добра», як быццам бы сапраўды гарадскога, але ў § 8 той жа граматы сказана, што мяшчане вызваляюцца ад павознай павіннасці, якую раней «посполита» адбывалі, г. зн. «разам» (129, 231). Нішто не перашкаджае і нам разумець пад гэтым выразам паняцце «сумесны», «усеагульны», «агульны», а ў дачыненні да нашага Скарыны — паняцце «народ».

З гэтага можна было б зрабіць вывад, што Скарына ў «людех посполитых» бачыў не толькі «народ», але і «люд». Але і без таго можна выразна бачыць, што ён меў на ўвазе, па сутнасці, «люд». Скарына называе яго «люди простые».

Выданне «Прытчы Саламона» ён прысвячае «людем простым посполитым» і так робіць даволі часта.

У прадмове да царкоўнаславянскага «Псалтыра» гаворыць: «Так же положил есми на боцех некоторыи слова для людей простых, не рушаючи самое Псалътыри... и иные слова, которыи суть в Псалътыри неразумныи простым людем, найдуть [іх] на боцех руским языком, что которое слово знаменуеть».

У прадмове да ўсёй Біблії Скарына тлумачыць, чаму яе выдае: «...не толико докторове а люди вченые в них разумеють, но всякий человек простый и посполитый, чтучи их или слухаючи, можеть поразумети, что ест потребно к душному спасению его...»

У прадмове да «Прытчаў Саламона» гаворыць: «Пожиточьны же суть сие книгы чести всякому человѣку, мудрому и безумному, богатому и вбогому...»

У прадмове да кнігі «Левіт» параўноўвае сваю дзейнасць з ахвярай богу ад людзей бедных: «Кто убо не можаше принести для недостатку своего телца тучнаго на жертву богу, той приношаше мерцу муки пшеничное на требу господу. Тако ж и мы, братия, не можем ли...» і г. д.

Усе гэтыя выняткі з прадмоў выразна характарызуюць Скарыну як выдатнага дэмакрата, які, друкуючы свае кнігі, думаў аб народзе «простом», пра люд.

Для характарыстыкі дэмакратызму найбольш важным з'яўляецца апісанне «права посполитого»

(ў прадмове да кн. «Другі закон»): «...ровная свобода всем, общее имение всех. Тым законом живяху верующии во Христа по вшествии его на небеса, яко пишеть: «Народу же веровавшему бѣ серце едино, и душа едина, и имение едино; никто же что от имения своего, глаголаше свое быти, но бяху им вся объща». Паколькі ён уводзіць гэта як «право посполитое», прысвячае кнігу «люду посполитому» — значыць, у гэтым можна бачыць пэўную адзнаку грамадскіх поглядаў Скарыны.

Гэтаксама і ў прадмове да кн. «Суддзяў» ён гаворыць: «...дванадесеть судей сынов Ізраилевых не справовали суть их, яко цари или властели вышнии, силу имеюще над ними, но яко ровнии и товарищи, раду им даючи...»

Калі б гэта ўсё разумець літаральна, мы маглі б тут параўноўваць Скарыну з цяперашнім Талстым, а яшчэ больш — з яго папярэднікам Пятром Хельчыцкім, што было цалкам магчыма пры яго моцнай залежнасці ад чэшскай культуры. Уладзіміраў піша (43, 121), што гэта ідзе ад «Саксонскага зярцала» *. Нам гэта нагадвае і «Сетку веры» Хельчыцкага.

Так ці інакш, дэмакратызм Скарыны выяўлены даволі відавочна.

У гэтых адносінах ёсць яшчэ адна цікавая дэталь.

Шматлікія ілюстрацыі ў тэксце, згодна тлумачэнняў Скарыны, гэтаксама ўказваюць на яго імкненне рабіць кнігі яшчэ больш зразумелымі для простага люду.

У прадмове да кн. «Выхад» ён гаворыць: «Ктобы пакъ межи простыми людми братии моеи хотел

* Вядомы зборнік германскага сярэдневяковага права, складзены ў 1221—1225 гг.

яснее разумети яковым обычаем былъ храмъ оудѣлан Кивот Стол Светилник Требник ИРизы жреческие, Тое все вымалеваное нижеи знаидеть».

У прадмове да кн. «Царствы» сказана: «Положил есми в сих книгах образци храму господъня и сосудов его, и дому царева... А то для того, абы братия моя русь, люди посполитые, чтучи могли лепей розумети».

Уладзіміраў гаворыць, што «звычай адлюстроўваць біблейскія сюжэты ў дрэварытах» звязаны з вядомымі выданнямі «biblia pauperum» * (43, 77).

Дадаць да гэтага ў нас больш няма чаго.

Ці звязана было імкненне Скарыны з грамадскім становішчам на Беларусі? Наўрад ці. Эвалюцыя ішла ў напрамку ўзвышэння сярэдніх саслоўяў — шляхты і мяшчанства — і ўзмацнення прыгону (101, 103).

Ці заўважаецца падобнае імкненне ў прадстаўнікоў праваслаўнага духавенства? Назіранні Уладзімірава даюць падставы сцвярджаць адваротнае. У гэтым сэнсе мы не маем прыкладаў ні ў літаратуры, ні ў жыцці.

Наўрад ці таксама можна бачыць у данай з'яве імкненне каталіцкай царквы пранікнуць у народныя масы. Яна была ўсё ж пануючай і больш займалася пошукамі эпігонаў з вышэйшых саслоўяў.

Такім чынам, застаецца Захад.

Але і тут не шмат можна знайсці добрых прыкладаў. Што ж тычыцца гуманізму, то тут Скарына мог узяць для сябе найбольш — яго надкласавасць, узвышэнне над саслоўямі (173, 237; 175, 1063). Па сваёй жа сутнасці гуманістычны рух быў арыстакратычным (153, 131). Пра які-небудзь народны рух пэўных звестак мы не маем.

---

* «біблія беднякоў».

Каталіцкая царква тым больш не магла натхніць Скарыну, паколькі любы рэлігійны рух з адценнем народнага падвяргаўся ганенням як ерэтычны. Альбігойцы, вальдэнсы, Тэйлар і Дальчына, багамільства (у праваслаўных) маглі паслужыць тут прыкладам. Але даныя рухі былі далёкія і па часу, і па месцы.

Застаецца адна «ерась» — гусіцтва. Як гаварыў Эней Сільвій, у Чэхіі любая вясковая гусіцкая жанчына лепш ведала Біблію, чым італьянскі святар. Сведчанне вельмі паказальнае для характарыстыкі гусіцтва як народнага руху.

Але і гэта было даўно. У час Скарыны «прававерная» гусіцтва мела шмат агульнага, як і каталіцтва, з рэлігійным рухам багатых саслоўяў. (Звесткі ўзяты галоўным чынам з прац Каўцкага: гл. 176 і 177.) А значыць, і ўтраквісты мала што маглі даць Скарыне.

Але ў Чэхіі меўся новы рух, які цалкам адпавядаў выкладзеным тут ідэям Скарыны. Гэта была Абшчына братоў. Яе ўзмацненне ў час Скарыны сведчыла аб іх жыццёвай сіле.

На жаль, адсутнасць на руках выданняў Скарыны не дазваляе нам прасачыць, ці залежаў Скарына цалкам ад данага руху, ці гэта была з'ява паралельная. Уладзіміраў жа бачыць карані гэтай асаблівасці ў «бібліі бедных» — «Саксонскім зярцале». Мы на падставе двух ці трох выразаў рабіць тыя альбо іншыя вывады не адважымся. Адзначым толькі, што гуманізм Скарыны блізкі да ідэй Чэшскіх братоў. Канчатковыя ж вывады пакінем за будучым даследаваннем. (Цалкам не выключана і імкненне каталіцкай царквы весці прапаганду сярод народа. Цяжка ўявіць, каб брацтва мела вялікую працу на чужой мове, а не на чэшскай. А брацкай Бібліі тады яшчэ не было.)

Пра дэмакратызм Скарыны напісана мала. Калі Уладзіміраў і закранае пытанне ў сувязі з той ці іншай праблемай, асаблівай увагі імкненню Скарыны працаваць дзеля народа ён не надае. У сваёй працы ён піша, што віленскія выданні «як нельга лепш адпавядалі патрэбе праваслаўных купцоў і віленскіх мяшчан...» (43, 50). Мы паказалі, што і пад людам паспалітым Скарына разумеў мяшчанства.

Пічэта (101, 126) адзначае, што «сваім перакладам Біблії на нацыянальную мову Скарына імкнуўся зрабіць яе даступнай і зразумелай для шырокіх народных мас». Нешта падобнае ў сувязі з нацыянальнай мовай можна знайсці ў гісторыкаў украінскай і беларускай літаратуры.

Пытанне дэмакратызму творчасці і разгляд яго ў адзінстве з характарам і ўсёй дзейнасцю Скарыны патрабуе асобнага даследавання.

## 5. ЛЮБОЎ ДА РОДНАЙ МОВЫ

Як любоў да радзімы і роднага народу, гэтаксама выразна праяўляецца ў Скарыны і любоў да роднай мовы.

Пра гэта ўжо сведчыць уся агромністая праца, якая была з'явай надзвычайнай на беларускай глебе і падстаў для свайго ўзнікнення тут, як гаварылася ў раздзеле аб стымулах дзейнасці, не мела. Назва ўсёй працы — «Бивлия руска».

Мы ужо ўпаміналі аб прадмове з «Псалтыра», дзе Скарына гаварыў, што ён пачаў працу таму, што бог з той мовы яго на свет пусціў.

У прадмове да кн. «Прарок Даніiл» ён паведамляе, што гэтай кнігі няма на яўрэйскай мове, а толькі на лацінскай і грэчаскай. Далей гаварыц-

ца: «Аз теже... нароженый в руском языку с помощию божиею, яко повинен сый розмножати хвалу Христову и посполитое доброе, межи иными пророки светыми выложих и Данила, мужа жадостей и преславнаго пророка господьня на руский язык зуполне».

Тое ж сказана ў прадмове да кн. «Эсфір»: «Аз теже, наследуя мужа светого, напред богу в троици единому ко чти и своему прироженому рускому языку к науце всего доброго подиялся праци тое...» і вышэй тамсама: «Потреба теже ведати, иже сия книга кратцей ест положена еврейским языком, нежели греческим а латинским... То пак, еже за тым положено ест до конца, знашол есми во книгах греческага и латинскаго писма выкладу посполитого».

Як бачым, тут ёсць нейкая рэўнасць, каб на роднай мове было сказана не менш, чым на лацінскай і грэчаскай.

Тлумачыць Скарына і паасобныя словы, як, напрыклад, Саламон (мірны), Егіпет і інш. Выраз «руский язык» сустракаецца даволі часта.

Такім чынам, і гэты бок дзейнасці Скарыны даволі красамоўны. З аднаго боку — мова як сродак для лепшага разумення чытачамі, з другога — як аб'ект глыбокай пашаны і любові.

Пра сувязь выступлення Скарыны на народнай мове з заваёвамі айчыннай культуры гаворка ўжо вялася. Спынімся зараз на адносінах даследчыкаў да гэтага пытання.

Намаганні вучоных былі скіраваны на рашэнне дзвюх задач: а) ці была мова Скарынавых выданняў сапраўды народнай, беларускай; б) наколькі свядома ўжыў Скарына выраз «язык руский», г. зн. ці разумеў ён пад гэтым выразам сапраўды мову свайго народа?

Адносна мовы Скарынавых выданняў ішла стогадовая барацьба.

Так, Бакмейсцер называе яе славянскай (43, I).

Штрытэр адзначае, што яна набліжаецца да польскай (3, 193), Ліндэ падтрымлівае меркаванне (43, XI), гэтаксама, як і Вішнеўскі (43, XV).

Галавацкі (27, 27) піша: «...мова і не беларуская, і не велікаруская, і не маларуская, але мова кніжная, мастацкая, якой ніхто не гаварыў і не гаворыць, мова, выпрацаваная пад несумненным уплывам польскай, якая функцыяніравала ў правасуддзі, канцылярыях і сярод тагачасных вучоных. Нельга назваць яе беларускай... Мы лічым, што яе асновай з'яўляецца царкоўнаславянская з моцнай прымессю рускіх (беларускіх і маларускіх) слоў. Акрамя таго, ёсць у ёй мноства чэшскіх і польскіх слоў».

Гатцук лічыць яе маларускай.

Первольф (46, 2, 595) адзначае, што «гэта была мова руская з прымессю чэшскіх форм і слоў. Мова «Псалтыра» 1517 г., затым—пачатак кн. «Быцця» і кн. «Іоў» — славянаруская. У віленскіх выданнях выкарыстана не тая паспалітая руская мова, а звычайная на той час славянаруская з некаторымі рускімі і чэшскімі словамі». У другой сваёй працы (47, II, 225) ён гаворыць, што гэта царкоўнаславянская мова з прымессю чэшскай і з нязначным уплывам польскай: «Польскія словы ў мове Скарыны можна хутчэй лічыць асаблівасцю заходнерускай мовы».

Уладзіміраў адзначае ва ўступе, што беларускай мовай лічылі яе Буслаеў, Аганоўскі, Жыцецкі, Сабалеўскі. Нядзешаў і Карскі. Даследаванне мовы Скарынавых выданняў сам Уладзіміраў ставіць адной з задач сваёй працы і адводзіць ёй значную частку кнігі (стар. 247—317). Прывядзём у самай сціслай форме яго вывады:

«З моўнага боку працы Скарыны маюць значэнне помніка беларускай гаворкі пач. XVI стагоддзя» (43, 247).

Яны нясуць на сабе адбіткі двух моцных уплываў — царкоўнаславянскага і чэшскага (тамсама). Да іх далучаецца невялікі польскі ўплыў і яшчэ меншы — літоўскі (43, 248). На стар. 299—300 сваёй працы Уладзіміраў прыводзіць нямецкія словы.

«Літаратурны чэшскі ўплыў выяўляецца ў Скарынавых працах пераважна з лексічнага і сінтаксічнага боку» (43, 248).

Намнога глыбейшым з'яўляецца ўплыў царкоўнаславянскай мовы. З даным уплывам звязаны і такія помнікі беларускай мовы таго часу, як юрыдычныя акты і пераклады жыцій і аповесцей (тамсама).

Гэта ўсё напачатку канстатуецца. Потым ідуць доказы. Апісваюцца беларускія фанетычныя, марфалагічныя і сінтаксічныя асаблівасці, да іх прыкладаецца слоўнік. Апісваюцца таксама ўплывы.

Вынікі даследавання Уладзімірава сталі лічыцца канчатковымі. Існуюць толькі два важныя пярэчанні: у праф. Сабалеўскага і праф. Мурка. Сабалеўскі нязгодны з тым, што Скарына свядома ўжываў выраз «руский язык», пра што мы ніжэй пагаворым больш падрабязна.

Праф. Мурка лічыць (61), што мову Скарыны нельга назваць беларускай па той прычыне, што яна адрозніваецца як ад мовы выданняў Буднага і слоўніка Зізанія 1596 года, так і ад сучаснай нам беларускай мовы. Пры гэтым добрасумленнае ўжыванне Скарынам народнай мовы пад увагу не бярэцца.

Мы не ставілі перад сабой задачу зноў даследаваць мову Скарынавых выданняў. Аднак увогуле абмінуць увагай праблему мы не можам. Ва ўсякім ра-

зе павінны выказаць сваё меркаванне ўжо хаця б таму, што мова беларуская з'яўляецца нам роднай і ў нас ёсць магчымасць выказацца на гэты конт.

Разам з самым вядомым знаўцам старабеларускай мовы праф. Карскім і ўсёй школай украінскіх і беларускіх гісторыкаў літаратуры (папулярызатараў не лічым) мы б маглі далучыцца да характарыстыкі Уладзімірава, якую ён даў мове Скарыны. Але нельга не прызнаць, што мова адрозніваецца не толькі ад твораў Буднага (мы карысталіся яго прадмовамі, надрукаванымі ў Вішнеўскага) і слоўніка Зізанія (надрукаваны ў беларускім часопісе «Крывіч» за 1924 год у № 2 (8), стар. 52—65), але і ад сучасных юрыдычных актаў.

Калі параўнаць змешчаныя ў канцы працы юрыдычныя акты і прадмовы Скарыны, то сапраўды ўбачым адрозненні. Мова афіцыйных папер больш чыстая, чым беларуская, у ёй менш адчуваецца царкоўнаславянскі ўплыў і больш польскі. Чэшскі ўплыў амаль такі ж самы і даволі выразны.

Калі чытаць прадмовы і пасляслоўі — можна заўважыць цікавую з'яву: першыя прадмовы маюць больш падабенства з царкоўнаславянскай мовай, чым з беларускай. Але чым далей, тым больш мова змяняецца ў бок народна-беларускай. У прадмовах да кн. «Эсфір» і «Прарок Данііл» маем амаль чысты варыянт народнай мовы. Царкоўнаславянскіх слоў у іх некалькі: презвитеръ, воплощение, азъ (у кн. «Эсфір»); изъ, града, сын. Чэшскія словы: выложены (павінна быць — преложены, пераложены), писма (павінна быць хаця б пис'ма), выкладъ (пераклад), вытъснены (вытиштены). Гэта ў кнізе «Прарок Данііл». У кн. «Эсфір» іх менш.

Што тычыцца саміх перакладаў, то, акрамя кн. «Ісус Сірахаў», пры сабе мы іх не маем. Здаецца, Уладзіміраў прывёў даволі няўдалы прыклад для

абгрунтавання сваёй думкі (частка I з кн. «Іоў»; 43, 329—330). Первольф, як мы бачылі, адносіў і даную кнігу да царкоўнаславянскіх. (Цікава, што Первольф і Уладзіміраў не ўпамінаюць адзін пра аднаго *.) Больш удалымі можна лічыць наступныя прыклады: а) частка 1 і 2 з «Песні Песням» (43, 338—340); частка 12 з кн. «Эсфір». Гэтыя апошнія без аналізу паказваюць на беларускую аснову. У агульных рысах адзначым, што ў 1-й частцы «Песні Песням» прыведзена больш 40 чыста беларускіх выразаў, каля 12 царкоўнаславянскіх і каля 5 уласна чэшскіх. Астатнія словы агульныя: ці то беларускія з царкоўнаславянскімі элементамі, ці то беларускія з чэшскімі, ці нават з асаблівасцямі ўсіх трох моў. У дадатку мы прыводзім для прыкладу частку з кн. «Ісус Сірахаў» і кароткі аналіз лексікі. Перавага беларускага элемента там відавочная.

Цікавай з'яўляецца заўвага Первольфа, што кн. «Іоў» і «Быццё» падаліся яму царкоўнаславянскімі. Ці нельга звязаць гэта з нашым меркаваннем пра мову прадмоў і пасляслоўяў і ці не сведчыць гэта аб прагрэсе ў вывучэнні роднай мовы самім Скарынам? Напомнім, што кн. «Іоў» была выдадзена адразу пасля царкоўнаславянскага «Псалтыра», а «Быццё» з'яўляецца першай кнігай Бібліі ў традыцыйным парадку. Дададзім таксама, што ў асяроддзі роднай мовы Скарына быў толькі ў дзяцінстве.

Падстаў адыходзіць ад аргументаваных высноў Уладзімірава мы не маем. Падкрэслім толькі, што: а) не ўказана розніца паміж мовай Скарынавых выданняў і мовай сучасных яму актаў; б) усе прыведзеныя нямецкія словы функцыяніруюць за-

* Гэта заўвага ўведзена памылкова. Первольф згадвае Уладзімірава.

раз у жывой беларускай гаворцы і в) не адзначаны яшчэ адзін уплыў — украінскі, які таксама адчуваецца: Полоцька. Мяккі знак пасля «ц» з'яўляецца характэрнай асаблівасцю не беларускай, а ўкраінскай мовы.

Адрозненні ў мове Скарыны і Буднага можна вытлумачыць розніцай у часе пры эвалюцыі літаратурнай мовы ў бок да народнай. Што тычыцца разыходжанняў з цяперашняй народнай мовай, то іх можна вытлумачыць толькі моцным уплывам царкоўнаславянскай мовы, які прызнае і Уладзіміраў. Таму пры аналізе мы імкнуліся выявіць падабенства з сучаснай мовай.

Зараз пераходзім да другога пытання: наколькі свядома ўжыў Скарына выраз «язык руский», на што звярнуў увагу праф. Сабалеўскі. У часопісе Ж. М. Н. Пр.* за 1888 год (№ 10, стар. 321) ён піша: «Скарына... быў далёкі ад думкі пісаць і друкаваць на народнай мове. Ён пастаянна называе мову сваіх выданняў рускай, але ці не з той адзінай прычыны, што для яго слова «рускі» і «славянскі» былі ідэнтычнымі. Ва ўсякім разе ў лік кніг, «выложеных на руский язык», ён уключыў свае славянскія працы: «Псалтыр» і «Апостал», а ў прадмове да «Псалтыра» і «Малой падарожнай кніжкі» ўжыў выраз: «...повѣлел есми Псалтырю тиснути рускыми словами а словенскым языком...».

У заключэнні на гэтай старонцы Сабалеўскі тлумачыць: «Прадмова да «Псалтыра», насуперак п. Уладзіміраву, не засведчыла супрацьпастаўлення рускіх слоў славянскім. Ва ўсякім разе ён не асабліва імкнуўся зрабіць свой пераклад цалкам зразумелым для «простых» людзей, напісаўшы яго на жывой мове. Акрамя шматлікіх запазычанняў з

* «Журнал Министерства Народного Просвещения».

чэшскай мовы, якія, безумоўна, не маглі садзейнічаць лёгкаму засваенню яго тэксту рускім чытачом XVI ст., шмат форм аорыста... паказвае, што ён меў на ўвазе выдаць Біблію на славянскай мове... Пры надзвычай слабым веданні ц.-славянскай мовы ў Паўднёва-Заходняй Русі ў яго час, пры неабходнасці працаваць удалечыні ад людзей, хаця б крыху дасведчаных у гэтай мове, для чалавека накшталт Скарыны наўрад ці магчыма было авалодаць славянскай мовай лепш, чым авалодаў ён. Такім чынам, Скарына для Паўднёва-Заходняй Русі зрабіў часткова тое, што зрабілі для Масквы першыя маскоўскія друкары: надрукаваў дзве царкоўныя кнігі ў старым славянскім перакладзе з папраўкамі. Па-другое, тое, што было выканана па загаду Генадзія яго наўгародскімі перакладчыкамі, а менавіта: Скарына пераклаў тыя кнігі, якія цалкам яшчэ не былі вядомы ў Паўднёва-Заходняй Русі яго часу ў старым славянскім перакладзе. Прычым ён пераклаў іх на мову, якая здавалася яму падобнай на славянскую».

Мы выпісалі пярэчанне Сабалеўскага, якое абвяргае агульнапрынятую думку, цалкам, каб больш аргументавана яму адказаць. Калі б гэта не быў праф. Сабалеўскі, мы маглі б смела не звяртаць увагу на выказванне, як часткова зрабіў і Уладзіміраў, указаўшы, што даследаванне праф. Карскага ў галіне беларускай мовы не адпавядае сапраўднасці (75).

Нас гэта не можа суцешыць, паколькі пярэчанне такога вучонага, як праф. Сабалеўскі, не стасуецца з мэтай нашай працы, і таму мы мусім адказваць.

1. Няпраўда, што ў прадмове да «Псалтыра» 1517 года Скарына не супрацьпастаўляе рускія і царкоўнаславянскія словы. У нас ёсць прыклады: а)

«повѣлел есми Псалтырю тиснути рускыми словами, а словенскым языком»; б) «так же положил есми на боцех некоторыи слова для людей простых, не рушаючи самое Псалътыри ни в чем же... и иные слова, которыи суть в Псалътыри неразумныи простым людем, найдуть [іх] на боцех руским языком, что которое слово знаменуеть».

2. Няпраўда, што Скарына не імкнуўся зрабіць свой пераклад зразумелым «для людей простых». Гэта ўжо відаць з прыведзенага вышэй матэрыялу, а таксама з вытрымак, змешчаных у пачатку раздзела.

3. Запазычанні з чэшскай мовы маглі быць на Беларусі зразумелымі. Акрамя таго, мэтанакіравана іх Скарына ўсё ж не ўжываў. Даныя запазычанні, таксама як і архаізмы (аорысты), можна вытлумачыць не дваякім стаўленнем Скарыны да праблемы даступнасці сваіх твораў, а невысокім узроўнем развіцця беларускай літаратурнай мовы і, магчыма, слабым веданнем яе Скарынам, пра што ўжо гаварылася.

4. Мова Скарыны ні ў якім разе не была вынікам жадання надрукаваць творы на царкоўнаславянскай мове. Ён выразна адрознівае царкоўнаславянскую і «рускую» мовы. Калі кніга не была сапраўды царкоўнаславянскай — ён ніколі не гаворыць пра славянскую мову. І наадварот. Ён вядзе гаворку пра славянскую мову толькі там, дзе яна сапраўды была такой.

5. Няпраўда, што зніклі ўсе царкоўнаславянскія кнігі, якія маглі б служыць Скарыне ўзорам. Таксама недакладна, што не было людзей, якія б ведалі царкоўнаславянскую мову. Мы ўжо раз пісалі аб паралельным развіцці царкоўнаславянскай літаратуры. Гэты факт гаворыць і за адно, і за другое.

6. Ні ў якім разе нельга дапусціць, каб вучоны Скарына, чалавек, які аб'ехаў усю Еўропу, дзе тады дыскутавалася моўная праблема, не адрозніваў царкоўнаславянскую мову ад народнай. Як ужо адзначалася, ён меў да таго ж і царкоўнаславянскія дапаможнікі. Калі б ён не адрозніваў моў, наўрад ці ён займаўся б моўнай трансфармацыяй.

Гэта што тычыцца меркавання праф. Сабалеўскага. Як бачна, нішто ў ім не адпавядае сапраўднасці.

Цяпер пра само сцвярджэнне. Фактычна на яго адказана ў п. 6. Застаецца першы довад, прыведзены Сабалеўскім, што ў Скарынавым сказе «повѣлел есми Псалтырю тиснути рускыми словами а словенскым языком» як быццам бы выразна прасочваецца ідэнтычнасць паняццяў «рускі» і «царкоўнаславянскі». Нам здаецца, наадварот. Мы бачым тут інфармацыю, скіраваную супраць довада праф. Сабалеўскага. Скарына адрозніваў: а) тлумачэнне (выклад) мовай і б) тлумачэнне словам. Гэта ясна. Выкладанне мовай — гэта пераклад, выкладанне словам — тлумачэнне на палях, глосы. У прадмове да кн. «Прарок Даніїл» Скарына таксама гаворыць пра Св. пісанне ў яўрэяў: «...написана ест во Іудеи халдейским языком, а еврейскими словами, яко и иные многие книги тым обычаем в них пописаны суть, наболей Талмут... Іудеі не имають зуполна книг Даниила пророка...» У нас — ёсць. Яўрэі ж, не маючы некаторых кніг на сваёй мове, ужывалі свае глосы ў «халдэйскай» (стараяўрэйскай?). Значыць, адпадае і апошні довад п. Сабалеўскага, што свае два віленскія выданні Скарына аднёс да ліку кніг «выложеных». Так, яны былі «выложены», але не «языком», а словамі.

Такім чынам, застаецца меркаванне пра тое, што Скарына свядома ўжыў выраз «язык руский».

Скарына не толькі свядома яго ўжыў, але ён любіў сваю мову і ў гэтых адносінах яго нельга параўноўваць з перакладчыкамі пры Генадзію.

## 6. СКАРЫНА ЯК НАСТАЎНІК НАРОДА

У сваіх прадмовах і пасляслоўях Скарына выразна паўстае ў ролі настаўніка народа. Часцей за ўсё мы бачым у іх тлумачэнне Св. пісання, павучанняў з яго.

Прадмову да «Псалтыра» Скарына пачынае словамі, што ўсялякае пісанне, натхнёнае богам, з'яўляецца карысным для навучання.

У прадмове да кн. «Іоў» ён звяртаецца да слухачоў, як рэлігійны прамоўца, словамі апостала: «Образ примите, братия, злострастия, и долготерпения, и трудов...» і далей павучае з кнігі.

У прадмове да «Прытчаў Саламона» сказана: «Пишеть святый Иоан во своем Еувангелии...»

Каб не прыводзіць далей прыкладаў, адзначым, што ва ўсіх прадмовах і пасляслоўях павучанні адносна Св. пісання і з Пісання займаюць найбольш месца.

Былі гэтыя павучанні і ў царкоўных пісьменнікаў яшчэ і да Скарыны, былі і пасля яго. Царква ўсё ж бачыла ў павучаннях народа адну са сваіх галоўных задач і лічыла гэта боскім прызваннем. Яшчэ да Скарыны па данай тэматыцы была створана велізарная літаратура. Яна і назву мае адпаведную — «павучальная». У час, бліжэйшы да Скарыны, да гэтай літаратуры на Беларусі найчасцей адносілі т. зв. кнігі з пасляслоўямі ці з тлумачэннем, галоўным чынам Псалтыр, Евангелле і Дзеянні Апосталаў з іх Пасланнямі (43, 100).

У сваіх перакладах Скарына набліжаецца да аўтараў гэтых кніг. Але ёсць велізарная розніца ў вучэнні Скарыны і яго папярэднікаў як у сэнсе мэ-

ты, якую трэба было дасягнуць іх вучням, так і ў сэнсе сродкаў, якія выкарыстоўваюцца і адпаведна прапануюцца тым вучням. Мяжа абумоўлена розніцай светапоглядаў богабаязных пісьменнікаў, з аднаго боку, і цывільнага вучонага, з другога, а таксама сваімі спецыфічнымі сродкамі ўздзеяння, якія былі ў арсенале абодвух бакоў. Як нам ужо вядома, тыя пісьменнікі рабілі сваю працу з-за страху перад Богам, выконваючы сваю рэлігійную павіннасць. Іх вучэнне мела толькі адзіную мэту — падрыхтаваць сваіх вернікаў да замагільнага жыцця, а там за сваю працу яны і папросяць для сябе ўзнагароду.

У сваіх поглядах Скарына кіруецца свядомасцю інтэлігента свайго народа, чалавека свецкага, пазбаўленага рэлігійнага фанатызму, якога гарнула да працы перш за ўсё любоў да свайго народа. Ён хоча падрыхтаваць чытачоў не толькі да выратавання, але сваёй галоўнай задачай лічыць навучанне дзеля жыцця цяперашняга, зямнога, паўсядзённага, якое не павінна быць юдоллю плачу. Ён хоча навучыць бачыць жыццё ў яго рэальным праяўленні, з хібамі, якія аднак, могуць быць выпраўлены. Усё гэта можна было ўжо бачыць з папярэдняга аналізу, але там нас цікавілі адносіны самога Скарыны да тых альбо іншых пытанняў часу і месца. Тут мы будзем трымаць у полі зроку перш за ўсё тое, што і як хоча ён перадаць сваім чытачам.

Якую мэту ставіў Скарына як настаўнік народа пры выданні сваіх твораў?

Уладзіміраў на 173-й старонцы даследавання, а за ім і Вазняк (87, II, 8) пра гэта гавораць: «Сваёй працай Скарына хацеў дасягнуць трох мэт: маральнай (удасканальванне нораваў і пашырэнне добрых звычак), рэлігійнай (даць чытанне для выратавання душы) і асветнай (навучанне мудрасці,

навукам)». Сам Скарына ў прадмове да 1-й кнігі «Царствы» падзяляе ўсе кнігі Біблii на чатыры часткі: а) «некои, иже пишуть науку и суды божия», б) «иже пишуть дела бывшая и летописания», в) «о мудрости, о разуме и о науце» і г) «пророчества и Възъявления». Як бачым, яны амаль не адрозніваюцца ад сказанага вышэй. У змесце прадмоў таксама найбольш праяўляюцца гэтыя тры імкненні. Толькі больш акрэслена можна бачыць раздзяленне апошняй, асветнай мэты, на дзве: выхаваць павагу да «мудрасці» і даць пэўныя звесткі з розных навук ці хаця б успомніць пра іх.

Апускаючы рэлігійны бок творчасці, паколькі ён мала характарызуе Скарыну і цікавы толькі ў сэнсе выкарыстання адпаведных сродкаў (гаворка пра гэта будзе весціся ніжэй), мы будзем адрозніваць у Скарыны наступныя мэты:

а) удасканаліць маральнае жыццё свайго народа;

б) абудзіць павагу да «мудрасці»;

в) даць яму пэўны аб'ём практычных ведаў, якія ён сам набыў у розных галінах навукі.

Што тычыцца першай мэты, то яе можна выявіць ва ўсіх творах Скарыны.

У пачатку прадмовы да «Псалтыра» ён гаворыць, што «всяко писание» карысна не толькі для навучання, але і «ко обличению исправлѐнию и ко наказанию правды». Іншымі словамі, творы прызначаны для ўдасканальвання душэўнага і фізічнага з дапамогай розных прыкладаў («розными звыкн»). «Псалтыр» у гэтых адносінах найбольш каштоўны: «... сама едина вси тые речи в собѣ замыкаеть...», бо «псалмы, якобы сокровнще всих драгых скарбов, всякии немощи, духовныи и телесныи, уздравляють, душу и смыслы освѣщають, гнев и ярость усмиряють...», «людей в приязнь зводять,

ласку и милость укрепляють...» «Псалом жестокое сердце мягчить ислезы с него, якобы со источника, изводить...» «Нест ли там вѣличества божия и хвалы его? Там ест справедливость. Там ест чистота, душевная и телесная. Там ест наука всякое правды. Там ест мудрость и разум досконалый. Там ест милость и друголюбство без льсти...» «Псалом всякую противность, еже ест бога ради, усмиряеть...» «Псалом ест ангельская песнь, духовный темъян, вкупе тело пѣнием веселить и душу учить...» Мы бачым цэлую ўзнёслую оду псалму як фактару маральнага ўплыву на чалавека.

Кніга «Іоў» для Скарыны «ест зерцало жития нашего, лекарство душевное».

У «Прытчах Саламона» ён гаворыць: «Прото я... разумея сее, иже без страху божия, без мудрости и без добрых обычаев не ест мощно, почстиве жити людем посполите на земли, казал есми тиснути Притчи... людем простым посполитым к пожитку и ко розмножению добрых обычаев, абы, научившися мудрости, добре живучи на свете, милостивого бога хвалили...» Як бачым, усе тры мэты тут выкладзены разам, як шмат дзе ў іншых месцах. «Пожиточьны же суть сие книгы чести... наболей тым, они же хотять имети добрые обычае и познати мудрость и науку».

Кніга «Ісус Сірахаў» у разуменні Скарыны неабходна царкве, таму што «о нравех добрых пишеть» і «еже исказуется всех добрых нравов сокровище».

У прадмове да ўсёй Бібліі ён гаворыць, што «в сей книзе лекарства душевные и телесные зуполне знаете».

Гэтак жа акрэслена сказана пра выхаванне павагі да «мудрасці». (Як мы адзначылі, паняцці «норавы» і «мудрасць» ужываюцца паралельна.)

У псалмах ёсць таксама і «мудрость и разум досконалый», а «приповѣсти премудрых учителев добрых обычаев младых и старых наставляють». Такім чынам, для выхавання маралі мае значэнне не толькі таінства кніг, але і мудрасць настаўнікаў, якая ў іх закладзена.

Мудрасць самым непасрэдным чынам звязана з ведамі, навучаннем. Мы ўжо прывялі ўрывак з прадмовы да кнігі «Іоў», што «всякому человѣку потребна чести».

«Прытчы» для Скарыны «всегда иную мудрость и науку знаменують, а иначей ся разумеють, нежели молвены бывають». Ён даручае яе чытаць тым, хто хоча пазнаць таксама «мудрость и науку», паколькі «в сих притчах сокрита мудрость, якобы моць в драгом камени, и яко злато в земли и ядро ув ореху».

Як мы адзначылі, адну з чатырох частак Бібліі, заключную, ён называе «о мудрости, о розуме, и о науце».

Наогул Біблія для Скарыны не толькі святая кніга, але і самы лепшы даведнік, у якім сабраны разнастайныя звесткі, нешта накшталт школьнага падручніка.

Псалтыр для яго «детем малым початок всякое доброе наукы, дорослым помножение в науце, мужем моцное утверъжение». Тое ж самае аб «Псалтыры» гаворыць ён і ў прадмове да ўсёй Бібліі: «Хощеши ли умети граматику или, по-рускы говорячи, грамоту, еже добре чести и мовити учить, знайдеши в зуполной Бівлии, Псалтыру, чти ее». Далей у гэтай прадмове Скарына ўводзіць малавядомыя на Беларусі звесткі аб сямі вызваленых навуках і для кожнай прызначае пэўныя кнігі: па логіцы — «она же учить з доводом розознати правду от кривды,— чти книгу светого Іова или Посла-

ния светого апостола Павла. Аще ли же помыслиши умети риторику, еже ест красномовность, чти книги Саломоновы. А то суть три науки словесные» і г. д.

Часта піша ён пра «Арестотелеву божественую мудрость», пра дактароў і філосафаў, асвечаных мудрасцю, а ў прадмове да кн. «Ісус Сірахаў», гаворачы пра цара Пталамея, адзначае, што «таковый убо был милосник наукы и мудрости, иже болѣй избрал оставити в науце и в книгах вечную славу и паметь свою, нежели во тленных великих царскых сокровищах».

Усяго вышэйсказанага, лічым, дастаткова, каб засведчыць наяўнасць другой мэты Скарыны.

У карысць трэцяй мэты сведчаць звесткі з розных галін ведаў, якія Скарына прапануе сваім чытачам.

У прадмове да «Псалтыра» ён апісвае гуслі.

У прадмове да 1-й кн. «Царствы» Скарына апавядае пра свецкія законы і іх аўтараў у Егіпце, у грэкаў і рымлян.

У прадмове да кнігі «Ісус Навін» ён апісвае Палесціну.

Больш разгорнутае апісанне свецкіх законаў дае Скарына ў прадмове да кн. «Другі закон».

У прадмове да кн. «Суддзі» у сваёй інтэрпрэтацыі ён падае звесткі з яўрэйскай гісторыі.

Мы не гаворым ужо пра звесткі, якія тычацца самога Пісання. Скарына, напрыклад, паведамляе, якая з кніг ёсць толькі на такой-та мове, як хто перакладаў і інш. Аднойчы ён нават прывёў цэлую яўрэйскую азбуку (паводле Уладзімірава, у раздзеле, прысвечаным прадмовам).

Са сказанага вышэй можна зрабіць вывад: маральныя прынцыпы Скарыны фарміраваліся не толькі пад уздзеяннем страху перад Богам. Найбольшы штуршок для іх развіцця дало, бадай што,

толькі Свяшчэннае пісанне. Паралельна з Пісаннем да гэтай мэты прычынілася і свецкая навука. Каб быць маральным, чалавек не павінен жыць толькі самаадмаўленнем, ён павінен вучыцца, «иже ест наивышшая мудрость размышлѣние смерти и познание самого себе», як гаворыць Скарына словамі Сакрата ў прадмове да кн. «Іоў». Само выратаванне патрабуе ведаў.

Усё гэта ставіць Скарыну вышэй настаўнікаў з духавенства, якое, паводле апісання Уладзімірава, само мала што ведала.

Скарына і тут паўстае чалавекам заходняга складу, асветнікам, гуманістам. На карысць гэтага сведчыць тое, што змест яго кніг адпавядаў дасягненням заходняй навукі і навучання. У гэтым якраз і праяўляецца яго наватарства як педагога на роднай ніве, які, хаця і не прапагандуе новых ідэй аб асвеце ў Заходняй Еўропе, аднак ва ўсякім разе абуджае любоў да навукі і навучання, а таксама параўноўвае становішча айчыннага навучання паводле кніг Св. пісання ў ксяндзоў і папоў з навучаннем у заходніх школах. Тых шматгадовых школах «trivia a quadrivia» *, якія там яшчэ доўга дзейнічалі. Выказваючы любоў і пашану да навукі, Скарына ўносіў новы, выключна свежы дух абуджанай Заходняй Еўропы.

Уся прыведзеная вышэй інфармацыя па дадзенаму пытанню амаль выключна абмяжоўваецца рамкамі працы самога Уладзімірава. Іншыя даследчыкі часцей за ўсё яму наследуюць. Мы толькі

---

* «трывіум і квадрывіум» — у сярэднявеччы першы і другі, павышаны, цыкл т. зв. «сямі свабодных мастацтваў». Трывіум уключаў граматыку, рыторыку і дыялектыку; квадрывіум — арыфметыку, геаметрыю, астраномію і музыку.

сабралі разам неабходныя прыклады і далі сваё заключэнне ў адпаведнасці з папярэднім матэрыялам.

## 7. СЛЯДЫ СХАЛАСТЫЗМУ

Розніца паміж Скарынам і сучаснымі яму рэлігійнымі пісьменнікамі выяўляецца і ў тых падыходах, якімі яны карысталіся пры тлумачэнні Св. пісання. Калі ў апошніх мы бачым прыўнясенне ў свае творы веры, напоўненай пачуццём, сляпой веры без усялякага разважання, то ў Скарыны — тлумачэнне разважлівае, мы б нават сказалі, што яно ідзе не з сэрца, а з'яўляецца вынікам выключна інтэлектуальнага напружання, халоднага і цвярозага розуму.

Разумовы пачатак аддзяляе Скарыну не толькі ад яго айчынных калег, але як бы і ад прагрэсіўнага руху на Захадзе і зблізкае яго з т. зв. схаластыкай, якая «галоўнай задачай лічыла абгрунтаванне праўды рэлігійных дагматаў пры дапамозе розуму» (143, 19).

Першым і адзіным, хто ўказаў на асаблівасць Скарынавых твораў, быў Уладзіміраў. Што, аднак, цікава, найбольш важныя прыклады для пацвярджэння сваёй ідэі ён бярэ з віленскіх выданняў. Гэта было таксама адной з прычын, чаму мы раздзялілі творы Скарыны на два перыяды. Тут гаворка будзе весціся аб пражскіх выданнях. Гаворачы пра гэтыя творы, Уладзіміраў адзначыў: «У прадмове да кн. «Ісус Сірахаў» Скарына гаворыць аб боскай і жыццёвай мудрасці Арыстоцеля», што знаходзіцца ў сувязі са схаластычнай навукай (43, 53).

У прадмове да кн. «Суддзі» гаворыцца: «И внегда каемся грехов своих, то посылаеть нам господь

бог пастырей и доеторов, они же научають нас противитися бесовским покусам...»

Сюды трэба аднесці і ўпамінанне пра схаластычныя навукі (43, 115).

Дададзім да гэтага сказ з прадмовы да кн. «Іоў»: «И всякому человѣку потребна чести, ... наболей тым, они же суть в бедах и в немощах положены... Прото ж я, ...в лекарскых науках доктор, ...и въспоминание на приидущие речи, казал есми тиснути книгу...»

У прадмове да ўсёй Бібліі * таксама сказана: «...книги сие, понеже суть над розум людскый. Кто убо от филизофов поразумети, абы господь бог словом своим с ни з чего сотворил вся видимая и невидимая, старейшине их Аристотелю, глаголющу: «З ни с чего ничто же бысть». Тут ёсць нейкая сувязь са знакамітым «philosophia ancila theologiae est» **.

Маюцца і іншыя менш важныя прыклады.

Такім чынам, як бачым, у нас ёсць звесткі, якія пярэчаць нашым цяперашнім вывадам пра Скарыну як гуманіста. Адназначна ставіцца да праблемы Уладзіміраў. Падкрэсліваючы схаластычныя рысы твораў Скарыны, ён нідзе не гаворыць пра яго як пра гуманіста. І наадварот. Сучасныя гісторыкі літаратуры, характарызуючы Скарыну як гуманіста, замоўчваюць у ім прыкметы схаластыкі. Мы даныя характарыстыкі разгледзім у адзінстве.

Трэба адразу сказаць, што разумовы пачатак у Скарыны адчуваецца амаль ва ўсіх яго прадмовах, хоць, можа, і не заўсёды выразна. Але калі параўнаць яго з гуманістычнымі прыкметамі, то можна заўважыць, што праяўляецца ён усё ж даволі слаба. Ён мае, хутчэй, фармальны характар і цалкам

* І. Дварчанін, відаць, памыліўся. Вытрымка ўзята з кн. «Быццё».

** «філасофія — служанка тэалогіі».

стасуецца з асобай нефанатычнага культурнага дзеяча, погляды якога сфарміраваліся пад уплывам еўрапейскай навукі. Гуманізм не вызваліўся цалкам і ва ўсім ад існуючых на той час традыцый і не стаў яшчэ асветніцтвам пазнейшага часу. «Бруна аддае перавагу Арыстоцелю перад іншымі» (175, II, 1071). Якубец прама сцвярджае: «Навуковыя даследаванні гэтай пары яшчэ не вызваліліся ад сярэдневяковых поглядаў. Разнастайныя навуковыя дысцыпліны, як, напрыклад, медыцына і прыродазнаўства, астраномія і матэматыка, а часта і тэалогія, у літаратурнай дзейнасці і ва універсітэце канцэнтраваліся, як правіла, у адных руках... Веру аб уздзеянні зорак на здароўе і чалавечыя лёсы пазнейшыя вякі развілі ў астралогіі... У сілу чараў верылі людзі самыя дасведчаныя...» (175, I, 196).

Некаторыя з прыведзеных Скарынам звестак былі хутчэй толькі водгукам мінулай эпохі. Урэшце, можна было б і напісанне саміх твораў палічыць антыгуманнай ідэяй. На самой жа справе гэта не так. Гуманізм ніколі не адмаўляў рэлігійнасці. Наадварот. «Прадстаўнікі народнай плыні гуманізму друкуюць, галоўным чынам, свае пераклады з рэлігійна-асветных твораў» (149, I, 218). «Крытыцызм не быў яшчэ такі моцны, каб пахіснуць асновы каталіцызму» (175, II, 1068). У час Скарыны мы бачым імкненне гуманістаў да рэфармацыі царквы (Гуттэн, Меланхтон і інш.).

Скарына зрабіў звычайнае навуковае тлумачэнне Св. пісання, як было прынята ў яго час. У сваёй працы ён цалкам пазбаўлены неабходнасці не толькі шчыра абгрунтоўваць дагматы, але і канстатаваць іх увогуле, не зважаючы на прыналежнасць іх да той ці іншай рэлігіі. Упамінанне ж пра дысцыпліны, традыцыйныя для схаластыкі, адносіцца не толькі да яе. Новай школы гуманістычная педа-

гогіка яшчэ не стварыла. Былі толькі галасы аб змене: Вівес, Рабле, Эразм і інш. А школы яшчэ доўга заставаліся са старымі дысцыплінамі. І тое, што Скарына ўпамінае аб іх, маючы на ўвазе Беларусь, сведчыць таксама пра элемент наватарства, паколькі там пра іх мала што было вядома.

Такім чынам, звесткі як быццам бы схаластычнага характару былі звычайнымі для гуманістычнага руху і ніякім чынам не пярэчылі існуючаму да гэтага часу меркаванню пра Скарыну як пра гуманіста. Таму не змяняецца і наш агульны пункт гледжання на дзейнасць Скарыны. Не закрануць жа праблему мы не маглі. Тым больш што на роднай глебе і яны (звесткі) былі новымі (як моцны сродак эмансіпацыі ад фанатычнай, неабгрунтаванай веры і самаадрачэння). Даныя факты не былі перламі Захаду, але дома і гэта было навіной.

## 8. СКАРЫНА ЯК ПРАДСТАЎНІК НОВАГА ГРАМАДСКАГА САСЛОЎЯ Ў ЛІТАРАТУРЫ

Мы разгледзелі з розных бакоў прадмовы і пасляслоўі да пражскіх выданняў, імкнучыся вылучыць тыя элементы, якія там выяўляюцца найбольш яскрава, бачылі, што Скарына амаль усюды разыходзіўся з айчыннымі пісьменнікамі, таму адпаведнікі яму мусілі шукаць толькі на Захадзе. Пакідаючы канчатковы вывад на канец, мы павінны тут хаця б вызначыць і суаднесці з айчыннымі абставінамі тыя ўмовы, пры якіх развілася сама асоба Скарыны, што так рашуча выступіла на гістарычную арэну. Даныя ж умовы стварылі адпаведную глебу для таго, каб дзейнасць Скарыны была ўспрынята.

Цікавая ў гэтым сэнсе думка праф. Карэева (174, 295), што «разумовая культура і сацыяльная структура, маючы кожная сваю асаблівую сферу існавання, не могуць існаваць адна без другой... і ўжо само вылучэнне з масы людзей адукаваных індывідуумаў, якія перастаюць жыць традыцыямі натоўпу, і нараджэнне свецкага культурнага саслоўя з асаблівымі душэўнымі памкненнямі і інтарэсамі ёсць ужо з'ява сацыяльнага парадку».

Такім чынам, дзейнасць Скарыны, хаця і не з'яўлялася прадуктам абставін айчыннай гісторыі, была ўсё звязана з імі. Зямля айчыны спрыяла ўжо хаця б тым, што дала такую асобу.

І сапраўды, хаця дзейнасць Скарыны і не выклікана да жыцця абставінамі айчыннай гісторыі, яна ўсё ж была з ёй звязана. Мы ўжо называлі разважанні Уладзімірава, якія тлумачаць дзейнасць Скарыны якраз данымі абставінамі. Праф. Пічэта глядзіць на гэта шырэй. У сваёй «Гісторыі Беларусі» (101, 103) ён гаворыць: «Ні Літва, ні Беларусь не маглі спыніцца на тых формах сацыяльна-праўнага жыцця, якія былі выпрацаваны ў старажытны перыяд. На працягу XIV—XVI стст. у Літве-Беларусі ўтвараюцца саслоўі. Эканамічна найбольш дужыя і надзеленыя рознымі правамі сталі на чале грамадства. Эканамічна слабыя сяляне паступова трацілі грамадзянскую правуздольнасць і ўласную вольнасць, пераходзячы ў паншчыну. Прамежкавае месца паміж абодвума саслоўямі займалі мяшчане са сваім асаблівым становішчам у дзяржаве». І далей на стар. 107: «З канца XV ст. дзякуючы таму, што гарады атрымліваюць магдэбургскае права, пачынаецца працэс выдзялення горада ў асобную адміністрацыйна-судовую адзінку».

З дадатка 7 (у канцы дысертацыі) можна бачыць, як гарадская моладзь Літоўскай дзяржавы

імкнулася атрымаць адукацыю ў замежных навучальных установах.

Жыхары горада са сваім гандлем і сталымі раз'ездамі не маглі быць задаволены старой царкоўнай школай, даволі слабой і прызначанай для патрэб царквы. Сувязі з Заходняй Еўропай указвалі ім на нешта лепшае, вышэйшае і з цягам часу імі пачалі авалодваць тамашнія культурныя і грамадскія рухі. Паступова яны мусілі да іх прызвычаіцца.

Такім чынам, айчынная глеба была ўжо ўзрушана і падрыхтавана, каб даць такую асобу, як Скарына. На большае яна не пасягала. Але для нас тут дастаткова ўжо таго, што выступленне Скарыны самым непасрэдным чынам звязана з выхадам на гістарычную арэну гарадскога саслоўя. А паколькі ён рашуча разыходзіўся з прадстаўнікамі існуючай літаратуры (яна стваралася выхадцамі другіх саслоўяў), можам лічыць, што на ніве айчыннай літаратуры Скарына быў першым выдатным прадстаўніком новага грамадскага класу — мяшчанства.

Жыццё Скарыны, не гаворачы ўжо пра яго сапраўды мяшчанскае паходжанне, больш за ўсё было звязана з гэтым новым саслоўем. У Празе грошы на выданні Скарыны дае Багдан Онкаў — сын віленскага радцы, які, па некаторых звестках, належаў да гарадской арыстакратыі. У Вільні друкарню Скарына размясціў у доме Якуба Бабіча, таксама віленскага радцы; ажаніўся з удавой Адверніка, віленскага мешчаніна; яго сваяком быў нейкі купец Пётр Сакалоўскі ў Вільні. Пра Полацк мы ўжо не гаворым.

Падсумоўваючы вынікі даследаванняў пра Скарыну ў кантэксце вышэйсказанага, можна гаварыць пра погляды не толькі самога Скарыны, але ў пэў-

най ступені і пра погляды і інтарэсы ўсяго мяшчанскага саслоўя.

Свецкая скіраванасць працы Скарыны з'яўляецца водгукам барацьбы мяшчанства з духавенствам за пэўную рэлігійную аўтаномію, што апісвае Уладзіміраў (43, 11).

Асаблівым становішчам гарадскога саслоўя на Беларусі можна вытлумачыць і індэферэнтнасць Скарыны ў пытаннях догмы. Інтэлігент, чыя душа ўбірае ў сябе памкненні цэлага саслоўя, інтуітыўна разумее і выяўляе тыя ідэі, якія збліжаюць супольнасць. Працы Скарыны павінны былі служыць як праваслаўнай, так і каталіцкай частцы мяшчанства. А тыя і другія былі аднолькава зацікаўлены ў процівазе націску польскай культуры, пра што сведчаць граматы магдэбургскага права, якія аб'ядноўвалі саслоўе ў адзінае цэлае. Прадстаўнік гэтага саслоўя, не зважаючы на канфесійную розніцу, вылучае тое агульнае, што яднае абодва набажэнствы: народную мову (у адрозненне ад лацінскай у католікаў і царкоўнаславянскай у праваслаўных).

Мяшчанскае саслоўе цалкам набожнае, але сувязі з Заходняй Еўропай даюць яму магчымасць бачыць як рэлігійны разлад, так і адлюстраванне вышэйшага разумення набажэнства. Іх жа прадстаўнік прыходзіць адпаведна да ідэі аб адзіным хрысціянстве.

Скіраванае сваімі жыццёвымі інтарэсамі мяшчанскае саслоўе патрабуе больш грунтоўнага навучання ў параўнанні з існуючым. Іх лідэр указвае крыніцы ведаў і сам дае новыя і багатыя звесткі з розных галін навукі.

Па роду сваіх заняткаў мяшчанскае саслоўе з'яўляецца дынамічным, яно складаецца з людзей энергічных і смелых. Сваім жыццём лідэр дае ім

прыклад, а ў творах паказвае высокі ўзровень самасвядомасці.

Уладзіміраў, як мы адзначылі, бачыць у Скарыне непасрэднага прадстаўніка гарадскога саслоўя не толькі паводле выказаных ім ідэй, якія былі сугучнымі поглядам цэлага саслоўя (пра гэта выразна якраз не гаворыцца), але і ў сэнсе забеспячэння яго духоўным апірышчам, якое не магло яму, як раней, прадставіць духавенства. І па прычыне заняпаду апошняга, і з-за яго рознагалоссяў з мяшчанствам. Дарэчы, і ў «людех посполитых» Уладзіміраў амаль выключна бачыць гарадское саслоўе.

Наша думка на гэты конт іншая. Памятаючы аб незалежнасці Скарыны пры выбары ім стымулаў для працы і ясна выказаную незалежнасць у яго творах, якая пераклікаецца з характарам самога аўтара, а таксама неразвітасць гарадскога саслоўя ў цэлым, мы не можам зводзіць Скарыну да ролі тэхнічнага выканаўцы і бачыць у ім толькі кнігадрукара, як пра гэта больш акрэслена выказаўся Сабалеўскі.

Мы разумеем ідэю прадстаўніцтва Скарынам мяшчанскага саслоўя ў беларускай літаратуры ў тым сэнсе, што ён выразна акрэсліў ідэі, якія па сутнасці адпавядалі ў той час патаемным думкам усёй гэтай супольнасці на Беларусі. Іншымі словамі, прадстаўніцтва яго заключалася не ў практычнай рэалізацыі ўжо гатовай ідэі, а ў канстатацыі таго, што магло быць ажыццёўлена ў будучым.

Мы павінны даць некалькі тлумачэнняў адносна магчымых пярэчанняў наконт непасрэднага прадстаўніцтва.

Перш за ўсё бяром пад увагу надпіс на многіх экземплярах пражскіх выданняў, што яны ажыццёўлены коштам Багдана Онкава (43, 47—48). Мяр-

куем, што надпіс аб выдатках: «А то ся стало накладом Богдана Онкова сына радци места виленского» мог і не мець дачынення да практычнага прадстаўніцтва Скарынам мяшчанскага саслоўя. Барвінскі (86. I, 158) на падставе таго, што Онкаў называецца сынам саветніка, выказвае здагадку, што ён быў маладым чалавекам і, магчыма, універсітэцкім сябрам Скарыны. Улічваючы той факт, што Багдан Онкаў упершыню ўпамінаецца ў 1506 годзе ў ліку асэсараў на судзе маршалкаў («Книга судных дел», № 1, л. 10), а ў 1511 г. сярод бурмістраў («Виленский археологический сборник», т. VI, ст. 6), можна бачыць у даным чалавеку не толькі сына саветніка, але і самога саветніка (43, 47). Гэта, аднак, не пярэчыць здагадцы, што ён мог быць маладым чалавекам і універсітэцкім сябрам. Цікава, што ў маладым узросце Скарына называе сябе «Скорининым сыном», а ў дачыненні да віленскага мецэната Якуба Бабіча гэтага ўжо няма. У раздзеле аб самасвядомасці мы ўжо звярнулі ўвагу на недастаткова выказаную павагу да першага мецэната. Таму цалкам можам дапусціць, што Багдан Онкаў быў сябрам Скарыны, а да таго ж і прыхільнікам яго намераў. Адсюль і расходы на выданні, якія маглі быць малаадчувальнымі пры ўзрастанні багацця сям'і Онкаў (43, 47).

Адносіны Скарыны да Бабічаў тычацца віленскага перыяду яго дзейнасці. Іншых імёнаў, звязаных з дзейнасцю першадрукара, не сустракаецца.

Што ж да выразу «люди посполитыи», то сваё разуменне яго мы выказалі ў раздзеле аб дэмакратызме Скарыны. Тут павінны дадаць, што дэмакратызм не супярэчыў патэнцыяльным поглядам усяго мяшчанскага саслоўя. А за свае правы яно мусіла ваяваць з вышэйшымі саслоўямі і таму данае права магло прадставіць як права ўсеагульнае, права ўсіх

слабейшых і простых. У гэтай сувязі дастаткова нагадаць самы выразны па сваёй аналогіі прыклад з часоў пазнейшай французскай рэвалюцыі — «Дэкларацыю правоў чалавека і грамадзяніна».

І як прадстаўнік мяшчанскага саслоўя ў беларускай літаратуры Скарына з'яўляецца фігурай выдатнай. Калі мы мінаем невядомых аўтараў перакладных свецкіх аповесцей, якія нічога пра сябе не паведамілі і, акрамя таго, не пакінулі аніякіх ідэй, якія б характарызавалі іх як прадстаўнікоў мяшчанства, то ў дачыненні да Скарыны не можам не пагадзіцца з Віктаравым (28, 20), што ён быў бясспрэчным папярэднікам братоў Мамонічаў. Але не як прадстаўнік праваслаўя, а як прадстаўнік мяшчанства.

І ў гэтых адносінах для рэалізацыі сваіх ідэй Скарына мог мець прыклады толькі на Захадзе, дзе ўвесь новы рух быў звязаны з выхадам на гістарычную арэну мяшчанскага саслоўя (175, II, 1085; 136, 110; 140, I, 98 і інш.).

Пасля Уладзімірава на сувязь дзейнасці Скарыны з мяшчанскім саслоўем указваюць Вазняк, Сцяповіч, Барвінскі, Пыпін і інш. Але асаблівы акцэнт усе робяць на індывідуальнасць Скарыны, з чым нельга не пагадзіцца.

На гэтым мы заканчваем разгляд пражскіх выданняў і пераходзім да аналізу віленскіх.





## V. СКАРЫНА Ў ВІЛЕНСКІХ ТВОРАХ

Нам ужо не аднойчы прыходзілася гаварыць, што віленскія і пражскія творы мы адрозніваем не толькі па храналогіі, але і зыходзячы з самой іх сутнасці, з тых першаасноў, якія з'яўляюцца найбольш характэрнымі для працы Скарыны таго ці іншага перыяду. Тут мы павінны абгрунтаваць і паказаць узаемаадносіны тых і другіх. Безумоўна, вынікі, якія будуць зроблены, могуць пакуль што лічыцца здагадкамі, якія вынікаюць, па-першае, з нязгоды некаторых даследчыкаў лічыць усе творы з'явай аднароднай, а па-другое, з тых фактаў, якія мы мелі ў сваім распараджэнні. Канчатковыя ж вывады будуць зроблены пазней.

Як мы адзначылі ў біяграфіі, у Вільні Скарына выдаў «Апостал» («Дзеянні апосталаў», «Пасланні» і «Апакаліпсіс») у сакавіку 1525 года; «Малую падарожную кніжку» («Псалтыр», «Часасловец», «Каноны», «Шасцідневец», «Святцы» і «Пасхалія») — недзе пасля гэтага года і, урэшце, «Евангелле вучыцельнае», пра якое мы ведаем з газет. Такім чынам, Новы запавет і богаслужэбныя кнігі.

Пытанне аднароднасці ці раздзельнасці твораў першага і другога перыядаў даследчыкамі востра

не ставілася. Звычайна канстатаваліся адрозненні тэхнічнага характару, пра якія мы скажам ніжэй.

Першым вучоным, хто паставіў пытанне аб аднароднасці твораў, быў даследчык пад псеўданімам «Беларус». У сваім артыкуле «Судьбы русского языка в костелах Северо-Западного края» (29) ён адносіць і пражскія, і віленскія да ліку твораў, прызначаных для патрэб каталіцкай царквы. Ідэя аднароднасці ніяк не аргументуецца. Меркаванне даволі апрыёрнае і заснавана на працах даследчыкаў, якія лічылі Скарыну католікам. Прыклады з саміх твораў не прыводзяцца.

Уладзіміраў паслядоўна праводзіць ідэю аднароднасці твораў і даказвае прыкладамі з іх саміх. Выказваецца за праваслаўнасць Скарыны.

Галоўны аргумент Уладзімірава заключаецца ў тым, што ў пасляслоўі да «Дзеянняў апосталаў» і да «Пасланняў Паўла» Скарына і віленскія творы называе «выкладом», хаця яны ў сапраўднасці такім (перакладам) не былі. Уладзіміраў гаворыць: «Такім чынам, Скарына залічвае і «Апостал» 1525 г. да кніг Бібліі... «выложеных» (43, 184—185).

Далей ён звяртае ўвагу на агульныя метады і крыніцы (43, 51).

Для гэтага ён адзначае: аднолькавы памер кніг, тую ж самую паперу, аднолькавую кірылічную нумарацыю на лістах і падзел усяго зборніка на меншыя кнігі, з якіх кожная мае сваю нумарацыю, манаграму, герб (43, 175). Да таго ж у віленскіх творах сустракаюцца такія ж вялікія літары, як і ў пражскіх (43, 176).

Як і ў пражскіх творах, вылучае такую ж самую, на яго думку, схаластычную скіраванасць (43, 184).

Адзначае, што ў царкоўнаславянскіх тэкстах «Апосталаў» з часоў Скарыны сустракалася мност-

ва грэчаскіх слоў. У Скарыны яны ўжо пераkладзены (з дапамогай чэшскіх крыніц). Тым самым Уладзіміраў падкрэслівае, што гэта адпавядала імкненню задаволіць патрэбы простых людзей (43, 185).

Цікава, што адзначанае падабенства Скарынавых твораў Уладзіміраў не толькі тлумачыць іх аднароднасцю, але нават віленскімі творамі вытлумачвае як быццам бы праваслаўны характар пражскіх. Ён піша (43, 50—51): «Нішто не перашкаджае лічыць такімі і пражскія творы».

Да Уладзімірава звярнуў ўвагу на падабенства (не ідэнтычнасць!) літар віленскіх твораў з літарамі пражскіх і выказаў меркаванне аб выданні іх таксама ў Празе каля 1525 г. Сопікаў.

Сабалеўскі, як мы адзначалі, не бачыць розніцы і ў мове, а пэўную асаблівасць яе ў пражскіх выданнях тлумачыць слабым веданнем Скарынам царкоўнаславянскай мовы.

Заўвагі аб непадобнасці выданняў са знешняга боку выказваліся намнога раней.

Яшчэ Добраўскі ў лісце да Копітара ў 1816 г. (10, 650) выказвае здагадку, што «Апостал» перакладзены не з лацінскай мовы, а выдадзены на аснове нейкага царкоўнаславянскага арыгінала.

Мітрапаліт Яўген, відаць, без сувязі з Добраўскім таксама прыходзіць да падобнага вываду. Ён кажа, што свой «Апостал» Скарына не пераклаў нанова, а ўсяго толькі выправіў (28, 10).

Віктараў робіць параўнаўчы аналіз тэкстаў «Малой падарожнай кніжкі» з рознымі іншымі тэкстамі і прыходзіць да заключэння, што «Шасцідневец», «Каноны», «Малітвы» ўяўляюць сабой не новы пераклад, але цалкам стары царкоўнаславянскі тэкст без перапрацоўкі ці, магчыма, з невялікімі папраўкамі. Прычым папраўкі куды менш значныя,

чым у «Апостале». «Акафіст багародзіцы» (Канон), ранішнія малітвы у дадатках да паўночніцы і «Канон Іаану Прадцечы» чытаюцца амаль, як аналагічныя царкоўнаславянскія тэксты (28, 10). На падставе віленскіх выданняў Віктараў таксама адносіць Скарыну да праваслаўя. Уладзіміраў (43, XXI) адзначае, што «Віктараў выразна адрознівае віленскія і пражскія выданні», нічога да гэтага не дадаючы.

Сам Уладзіміраў называе шматлікія адрозненні. У прыватнасці, «Псалтыр» у «Малой падарожнай кніжцы» мае невялікія адхіленні ад пражскага «Псалтыра», але Скарына выкінуў тут дзяленні на часткі (выкінуў «главы на боцех») і ўсё, што Уладзіміраў называў раней метадамі выдання (напрыклад, увесь канец прадмовы са слоў: «Также будь ведомо положил есми...»). Ёсць розніца ў шрыфце і правапісе некаторых слоў (43, 191); апушчана тлумачэнне некаторых слоў «руским языком», некаторыя словы растлумачаны інакш (43, 192). А пры падвядзенні вынікаў (43, 191) Уладзіміраў піша: «Віктараў ... памылкова сцвярджае, што віленскі «Псалтыр» Скарыны з'яўляецца літаральным перадрукам пражскага».

У віленскіх выданнях выкарыстаны цалкам іншы шрыфт (ён меншы, прычым вялікім літарам у віленскіх выданнях адпавядаюць малыя ў пражскіх (43, 176).

Маецца розніца ў напісанні паасобных літар (тамсама).

Толькі ў віленскіх выданнях ёсць невялікія застаўкі і дрэварыты (гравюры). З-за падабенства да царкоўнаславяскага тэксту паказальным з'яўляецца чытанне з «Апостала» і «Шасціднеўца». Тое ж самае можна сказаць і пра чытанне з «Евангелля» (43, 197).

«Апостал» Скарыны — першае друкаванае выданне царкоўнаславянскага «Апостала» (43, 180).

Вызначальнай асаблівасцю прадмовы да «Апостала» з'яўляецца яе схаластычная накіраванасць. У астатнім жа прадмовы да віленскіх выданняў маюць самае непасрэднае дачыненне да прадмоў, змешчаных у царкоўнаславянскіх выданнях. Напрыклад, у «Астрожскай бібліі» 1880—1881 гг. Уладзіміраў выказвае здагадку: «Магчыма, што прадмовы Скарыны да «Апостала» напісаны на аснове нейкага царкоўнаславянскага тэксту, але дапоўнены матэрыяламі лацінскіх каментарыяў, чым можна і вытлумачыць іх выразную схаластычную накіраванасць. Дададзім, што «Сказанні» да «Апостала» Скарыны адрозніваюцца ад папярэдніх прадмоў адсутнасцю ў іх элементу асабовасці» (43, 184).

Вобраз Бога ў «Малой падарожнай кніжцы» візантыйскага паходжання (43, 178). Але гэты факт Уладзіміраў не разглядае як аргумент на карысць адрознення выданняў абодвух перыядаў. Для нас жа ён з'яўляецца важным, паколькі ў пражскіх выданнях нічога падобнага не сустракаецца.

У малітвах ёсць кананічныя рысы візантыйска-славянскага характару (43, 177).

Калі мы прааналізуем адрозненні, на якія звярнуў увагу толькі Уладзіміраў, і параўнаем іх з прыкладамі, якія прывёў ён для доказу падабенства выданняў, то ўбачым значную і істотную перавагу апошніх, гэтаксама, як і іх узаемавыключнасць. Тут мы не можам не выказаць свайго здзіўлення п. Уладзіміраву, такому абачліваму там, дзе справа тычыцца канчатковых вынікаў, і які тут, не звяртаючы ўвагі на адрозненні, а толькі на падставе некалькіх судакранальных момантаў. разглядае выданні абодвух перыядаў як з'яву аднародную.

Больш таго. Абапіраючыся на віленскія выданні, ён не толькі адносіць і пражскія да ліку праваслаўных твораў, але і самога Скарыну лічыць прадстаўніком данага веравызнання, пра што ўжо шмат гаварылася.

Не лічачы такім ані Скарыну, ані яго пражскія творы і маючы на мэце толькі выяўленне гістарычнай праўды, мы не можам пагадзіцца з Уладзіміравым, на якога абапіраецца практычна ўсё сучаснае скарыназнаўства. Мы прывялі дастаткова аргументаў як супраць праваслаўя самога Скарыны, так і супраць праваслаўнага характару пражскіх твораў, якія, калі браць пад увагу разнастайныя формы залежнасці ад чэшскай культуры з яе характэрнай дэмакратычнай накіраванасцю, можна было б хутчэй за ўсё лічыць з'явамі гусіцкімі.

Пасля разважанняў аб тым, што яднае пражскія і віленскія выданні (праваслаўнае паходжанне апошніх мы не адмаўляем і потым прывядзём неабходныя аргументы), мы прыйшлі да думкі, што віленскія выданні адрозніваюцца ад пражскіх не толькі сваімі тэхнічнымі характарыстыкамі, але і ў ідэйным плане. Усе разам яны з'яўляюцца не вынікам рэалізацыі адзінай і непарыўнай ідэі ад пачатку да канца, а хутчэй за ўсё працамі цалкам самастойнымі. Маючы адпаведныя доказы, можна сцвярджаць, што ёсць істотныя адрозненні ў напрамках: тэхнічным, фармальным (спосаб выкарыстання дапаможных матэрыялаў) і ідэйным (як рэалізаваная падстава дзейнасці). Паспрабуем абгрунтаваць свае меркаванні.

Найперш перагледзім названыя Уладзіміравым прыклады падабенства тых і другіх выданняў (у тым парадку, як яны прыведзены тут). Ці маюць яны дастаткова падстаў для вывада аб аднароднасці твораў?

Галоўным аргументам на карысць гэтага з'яўляецца, як памятаем, той факт, што Скарына адносіць і віленскія выданні да кніг, «выложеных на язык руский». Ці так гэта на самай справе? Калі так, то цалкам мае рацыю Сабалеўскі, які сцвярджаў, што Скарына не адрозніваў паняццяў «рускі» і «славянскі». Аргументы ж супраць мы ўжо прывялі, а думка Сабалеўскага, напамінаем, з'яўляецца адпаведнай рэакцыяй на пастаяннае сцвярджэнне Уладзімірава пра тое, што Скарына адрозніваў даныя паняцці. Такім чынам, Уладзіміраў не мае тут паслядоўнасці. Для нас ясна, што Скарына не толькі адрозніваў паняцці «рускі» і «славянскі», але да таго ж яшчэ дыферэнцыраваў «выклад» (пераклад) — а) «языком» — пражскія творы, акрамя «Псалтыра» і б) «выклад словами» — віленскія творы і «Псалтыр» з пражскіх. Адрозненні абодвух «Псалтыроў» выразна разгледжаны самім Уладзіміравым. Што тычыцца паралельных заўваг Уладзімірава пра тое, што ў віленскіх творах Скарына звярнуў увагу на адзінства месц Св. пісання і спосабу яго тлумачэння, абранага Скарынам яшчэ ў час папярэдняй працы. У пражскіх старазапаветных творах Скарына таксама ўказвае на адзінства з Новым запаветам, якое можна бачыць толькі ў віленскім «Апостале» і нававыяўленым «Евангеллі». Мы можам, натуральна, лічыць, што Скарына думаў спачатку выдаць усё Св. пісанне, Стары і Новы запаветы. Але вядомы нам «Апостал», як мы бачылі з разважанняў Дабраўскага (другая крыніца) і Уладзімірава (іншы шрыфт, царкоўнаславянская мова, больш схаластычны характар прадмоў) — выразна адрозніваецца ад пражскіх твораў і супадае з віленскімі. З меркаванняў Віктарава, якія Уладзіміраў не стаў аспрэчваць, вядома, што мова «Апостала» ў нечым адрозніваецца ад

урыўкаў з новазапаветных чытанняў у «Шасціднеўцы». Адсюль можна меркаваць, што ў гэтым выданні Скарына імкнуўся паяднаць ранейшыя пражскія і пазнейшыя віленскія выданні, паставіць «Апостал» як бы пасярэдзіне. Магчыма, што падобнае жаданне зыходзіла ў Скарыны з папярэдняй задумы даць Св. пісанне на роднай мове. Але потым яно было адхілена і прыстасавана да новых мэт. У гэтых адносінах цікавым здаецца поўнае адступленне ад прынятых метадаў працы (адсутнасць раздзелаў на старонцы, пропуск цэлага канца прадмовы, у якой гаворыцца аб метадах пражскіх выданняў і інш.) у «Псалтыры» з «Малой падарожнай кніжкі». Пра іншыя кнігі мы не гаворым.

Спынімся на агульных метадах і крыніцах. Ці можам мы агульны метад лічыць асноўнай прыкметай аднароднасці твораў у сэнсе іх ідэйнай скіраванасці? Безумоўна, можам і павінны, калі няма перашкод і няпэўнасцей іншага плана. Інакш гэта можна будзе лічыць шаблонам і звычкай пэўнага (у нас — аднаго і таго ж) дзеяча. Акрамя таго, пра якія метады ідзе гаворка? Разважанне аб метадах (прыёмах) і крыніцах у працы Уладзімірава (43, 51) вядзецца без папярэдняга тлумачэння. Усе агульныя для абодвух перыядаў метады, названыя Уладзіміравым, мы адзначылі. Найбольш важныя з іх разгледзелі і засведчылі іх недастатковасць (у дачыненні да «Апостала»). Слабая аргументацыя астатніх будзе засведчана ніжэй пры апісанні іншых прыкмет падабенства, сярод якіх будуць і метады (схаластызм, нізкапаклонства перад грэчаскай мовай).

Што тычыцца крыніц, мы бачылі, што для пражскіх твораў была Вульгата і Чэшская біблія 1506 г., а дапаможнымі матэрыяламі — некаторыя царкоўнаславянскія тэксты. Віленскія творы, згодна пры-

ведзеных даследаванняў Добраўскага, мітрапаліта Яўгена і Віктарава,— гэта толькі выпраўленыя даўнейшыя стараславянскія рукапісы. Згодна Уладзіміраву (43, 185—187 і інш.), гэтыя праўкі былі зроблены таксама на падставе Біблii 1506 г. Яе мы можам лічыць своеасаблівым дапаможнікам для слоўніка. Такім чынам, мы не бачым тут і агульных крыніц.

Што да памеру кніг, паперы, нумарацыі, падзелу ўсяго зборніка на паасобныя кнігі — гэта ні пра што не гаворыць. Характарыстыкі маглі быць выкарыстаны па шаблону і звычцы.

Пра большую схаластычную насычанасць у віленскіх творах красамоўна сведчыць сам Уладзіміраў (гл. у нас стар. 122—123). І наогул, свае разважанні аб схаластыцы ў Скарыны Уладзіміраў засноўвае на матэрыяле віленскіх твораў. Напрыклад, ён прыводзіць такі характэрны ўрывак з прадмовы да «Апостала»: «По чем быхом ведали, яко господь уступовал на небо,... которого часу, ... на котором месте, ... кто при том был... кто сведетельствовал» і г. д.

У прадмове да «Пасланняў апостала Паўла рымлянам» уводзяцца звесткі аб схаластычных раздзелах пра двуякага Адама, траякую смерць, траякае жыццё і г. д. У пражскіх творах схаластычныя прыкметы так выразна ўсё ж не праяўляюцца. І ў гэтым таксама мы бачым адзнаку дастаткова адметную.

Калі гаварыць пра асаблівасць, названую намі як выхвальства Скарыны з нагоды перакладу ім грэчаскіх слоў, падкрэсліванне, што пераклад зроблены з грэчаскай мовы, яе можна разглядаць як з'яву, паралельную схаластызму. Гаворачы аб пражскіх творах, сам Уладзіміраў настойліва адзначаў, што ў іх Скарына ўсяго толькі наследаваў

св. Ераніму (43, XXI). Да гэтага можна дадаць паважлівыя адносіны Скарыны як гуманіста да грэчаскай мовы. Тое ж самае магло адбыцца і ў Вільні, але магло быць і з'явай іншага характару. Сам Уладзіміраў гаворыць: «Даныя глосы з'яўляюцца толькі паўтарэннем метадаў папярэдніх выданняў царкоўнаславянскіх тэкстаў, таму што ў самім тэксце «Апостала» сустракаем мноства падобных замен старaславянскіх слоў і выразаў» (43, 185).

Як бачым, гэта магло быць без усялякай сувязі між сабой і наогул пункт мала сведчыць на карысць аднароднасці твораў.

Такім чынам, ні адзін з прыведзеных Уладзіміравым доказаў не пацвярджае ў поўнай меры яго меркаванне аб аднароднасці твораў абодвух перыядаў. Усе яны маглі б быць толькі другараднымі, калі б акрамя іх былі яшчэ дастаткова пераканаўчыя. Самі па сабе яны ні пра што не гавораць.

Больш значнымі і істотнымі з'яўляюцца прыкметы, якія адрозніваюць творы двух перыядаў. Па тэхнічных і фармальных прыкметах іх можна раздзяліць на асобныя групы.

Адрозненні тэхнічнага парадку: а) розны шрыфт; б) рознае напісанне; в) розны правапіс; г) розныя мовы.

Адрозненні фармальнага парадку: а) розныя крыніцы; б) розная ступень схаластычнага спосабу выказвання.

Паколькі многія з вышэйназваных адрозненняў (мова, правапіс, напісанне, крыніцы) яднаюць віленскія творы з праваслаўнымі, а пражскія, наадварот, з некаторымі творамі заходняй царквы, можна на падставе гэтага зрабіць вывад, што адрозненні насілі не толькі тэхнічны і фармальны характар, але мелі і ідэйныя размежаванні. Інакш кажучы, віленскія выданні належалі да твораў пра-

праваслаўнай рэлігіі, пражскія — да некаторых з заходніх цэркваў. Астатнія з размежавальных прыкмет не пярэчаць падзелу, у аснове якога ляжыць рэлігійная ідэя. Разнастайнае адлюстраванне схаластычнага мыслення і аслабленне элементу асабовасці ў віленскіх творах, бадай што, магло б размежаванне яшчэ і ўзмацніць. Асабісты пачатак найбольш выразна праяўляецца там, дзе пісьменнік укладвае сваю душу, выяўляе сваю індывідуальнасць. У тых рэчах, якія яго мала цікавяць, але пра якія ён з тых ці іншых меркаванняў павінен гаварыць, элемент асабовасці выяўляецца менш. Будучы прыналежным да нейкага з заходніх веравызнанняў, Скарына больш душы ўкладаў у свае пражскія творы, таму і індывідуальнасць яго выяўлена тут у большай ступені. У віленскіх выданнях — наадварот. Тут ён выступаў толькі ў ролі тэхнічнага выканаўцы, кнігадрукара, які, верагодна, працаваў па заказу. Таму і пераважаў шаблон, з якім ён ужо звыкся. Гэтым жа тлумачацца і тэхнічныя характарыстыкі, агульныя для выданняў абодвух перыядаў.

Іншыя прыкметы будуць названы пры апісанні суадносін тых і другіх твораў.

Такім чынам, усё адпавядае параметрам ідэйнага размежавання. Хаця, трэба сказаць, на карысць праваслаўя віленскіх твораў найбольш выразна сведчыць сам іх тэкст. Прывядзём доказы.

У прадмове да «Апостала» сказана: «Имашь пакъ всеи книзе мои любимыи приятелю, хтожь будеши ея чести. Зачала (царкоўныя чытанні, характэрныя для праваслаўнай царквы.— *І. Д.*) каждого послания... Початки иконци всякому апостолу (своеасаблівы абзац для сумеснага чытання.— *І. Д.*), яко воцеркви божіи чтется...» (Гэта цытуе Уладзіміраў і як прыклад, характэрны для праваслаўя, 43,

179.) Падобны сказ ёсць і ў самім «Апостале» (тамсама).

У прадмове названы святы праваслаўнай царквы: 14 студзеня — «святого отца Савы, перваго архиеппа серпскаго»; 13 лютага — «препоб Симеона серпскаго»; 15 ліпеня — «успение великаго Владимира, самодеръзъца киевъскаго, онъже крестилъ Рускую землю»; 24 ліпеня — «Святых муч князеи руских Бориса Иглеба».

У прадмове да «Часаслоўца» гаворыцца: «Часословец имея ношъную і дневную службу по уставу Ерусалимское церкви и прочихъ восточънихъ обителем». У самім богаслужэнні тут ёсць малітва «О всехъ православнихъ хрѣстианехъ», у якой гаворыцца аб праваслаўнай веры: «...веру хрестианскую оутверди, ... исвятую церковь свою добре сохрани, ... инасъ впокаянии ивоправославнои вере господи приими...».

У «Святцах» выкарыстаны такі загаловак: «Последование церковного собърания въселетъняго от месеца сепътеврия до месеца августа по въставу Ерусалимъское церкви». Мы бачым, што летазлічэнне вядзецца па спосабу праваслаўнай царквы (з верасня).

У «Святцах» прыведзены праваслаўныя імёны (43, 197).

У «Акафісце Ісусу» напісана: «...умоли спасти вся православныя иноки имирския...» (43, 196).

«Шасцідневец» — гэта «кратъкий на всу неделю печенши от суботы по обычаю всехъ восточнихъ церквий» (43, 196). У ім гаворыцца: «...православныя цари утверди», «помяни господи плѣненныхъ отиноплеменникъ братию нашу, еже сут управославнои верѣ».

Успомнім і дададзім яшчэ тыя аргументы Віктарава і Уладзімірава на карысць праваслаўя Скары-

ны, якія мы называлі раней (гл. у нас стар. 45—46).

Цяпер мы бачым, што праваслаўны характар віленскіх твораў даказаны цалкам. Пра супрацьлеглы характар пражскіх выданняў мы ўжо гаварылі. На гэтым аргументацыю папярэдне выказанага меркавання мы лічым закончанай. Нам застаецца толькі зрабіць кароткае заключэнне адносна віленскіх твораў і высветліць іх узаемаадносіны з пражскімі.

Якія вывады можна зрабіць пра віленскія творы на падставе вышэйсказанага?

Па загалоўках саміх твораў можна меркаваць, што яны цалкам прызначаны для патрэб богаслужэння: «Апостал» (падзелены на «зачала»), «Евангелле», «Псалтыр», «Часасловец», «Каноны», «Святцы» і г. д. Значыць, яны маюць практычны характар. Таму ў іх знікаюць прадмовы, такія паказальныя для Скарыны ў пражскіх выданнях. У віленскіх жа яны маюць зусім іншы характар.

Паколькі выданні прызначаліся для праваслаўнай царквы, натуральна ўзнікае пытанне: чаму Скарына, які належаў да іншага веравызнання, друкаваў даныя кнігі?

Адказ на пытанне будзе цалкам залежыць ад таго, як будуць разгледжаны іншыя важныя праблемы.

Калі Скарына быў р.-католікам і калі ўрывак з ліста Жыгімонта Аўгуста адносіцца менавіта да яго — можна не сумнявацца, што рабіў ён гэта па даручэнню рымска-каталіцкай царквы, якая мела на мэце прапаганду уніі (гл. біяграфію на стар. 39).

Калі ж ліст не мае да яго ніякага дачынення, але ён усё роўна быў католікам, можна меркаваць, што ён працаваў па заказу праваслаўнай Віленскай супольнасці. У гэтым сэнсе ўяўляе цікавасць тое дапаўненне да «Апостала», дзе Скарына гаво-

рыць, што «совершися в дому почтивого мужа Якуба Бабича найстаршего бурмистра славного и великого места Виленского». Урывак падобны на прысвячэнні бедных друкароў. А з судовых спраў і грамат прускага герцага вядома, што прыблізна ў гэты час Скарына меў жыццёвыя цяжкасці. Гэта ўяўляецца важным у сувязі з тым, што «Малая падарожная кніжка» прызначалася беларускім купцам, якія ў час сваіх паездак за мяжу хацелі мець богаслужэбныя кнігі.

Калі ж Скарына быў гусістам, можна было б выказаць здагадку аб існаванні нейкага пагаднення з праваслаўнай супольнасцю. Бо вядома, што незадоўга да гэтага ажыццяўляліся місіі з Чэхіі на Усход з мэтай пошукаў слядоў першапачатковай рэлігіі. Скарына мог быць тут пасрэднікам.

Факт друкавання праваслаўных кніг не можа сведчыць на карысць прыналежнасці Скарыны да таго ці іншага з заходніх веравызнанняў.

Пры істотным адрозненні віленскіх выданняў ад пражскіх сустракаюцца ўсё ж асаблівасці, якія паказваюць на іх пэўнае падабенства.

Калі, напрыклад, параўнаць прадмовы віленскіх і пражскіх выданняў, то нельга не ўбачыць у іх выразных адзнак самасвядомасці іх аўтара. Скарына ніколі не забываецца сказаць пра сябе і свае вучоныя званні. І там, і тут ён друкуе кнігі для сваіх суайчыннікаў, «людем посполитым рускаго языка», магчыма нават пашырыўшы паняцце роднага народа і на адгалінаванне велікарусаў (калі друкаваў па распараджэнню р.-каталіцкай царквы).

Не забываецца Скарына ў віленскіх выданнях і пра «людей простых», перакладаючы для іх на больш зразумелую мову грэчаскія словы і ўводзячы ў тэксты элементы графічнага афармлення і ілюстрацыі.

На падставе віленскіх твораў можна зрабіць вывад, што Скарына не толькі не быў фанатыкам нейкай рэлігіі і апалагетам дагматызму, але нават не абсалютызаваў рэлігійныя адрозненні сваіх суайчыннікаў і друкаваў кнігі і для адных, і для другіх.

У значна большай ступені, чым у пражскіх, выказвае Скарына інтарэсы свайго мяшчанскага саслоўя ў віленскіх творах. Напрыклад, спецыяльна для праваслаўных купцоў ён друкуе неабходныя кнігі.

Такім чынам, мы сведчым крок назад у сэнсе развіцця прагрэсіўнай ідэі і ў параўнанні з лепшымі прадстаўнікамі новага руху. Мала выказана ў віленскіх творах гуманістычных поглядаў, хаця і тут Скарына застаўся патрыётам і чалавекалюбам з вышэйшым уяўленнем пра рэлігію. Карацей кажучы — тым жа гуманістам.





# VI. СКАРЫНА ЯК КНІГАДРУКАР

Мы не можам абмінуць увагай і даны, чыста тэхнічны бок дзейнасці Скарыны. Пашыраючыся з вялікай хуткасцю па ўсім свеце, кнігадрукаванне набывала ўсюды значэнне важнай культурнай з'явы. Дзякуючы сваёй магчымасці шырока тыражыраваць кнігі асаблівае значэнне набыло яно ў распаўсюджванні асветы сярод самых шырокіх слаёў насельніцтва, сягаючы нават да народных нізоў. Кнігадрукаванне выклікала да жыцця і шчырых прапагандыстаў яго самога, як мы гэта бачылі ў трэцім раздзеле працы. Скарына, праўда, разглядаў сваю кнігадрукарскую дзейнасць толькі як сродак для больш паспяховага ажыццяўлення ідэй, якія характарызуюць яго як пісьменніка ці, дакладней сказаць, публіцыста. Прызнаючы даны факт, мы павінны ўсё ж мець на ўвазе, што яго імкненне быць карысным для самых шырокіх колаў свайго народа магло быць ажыццёўлена толькі пры дапамозе друку. Значыць, можна лічыць, што і арганізацыя кнігадрукавання на роднай глебе была ў нейкай ступені самамэтай. Пацвярджэннем гэтага з'яўляецца віленская дзейнасць Скарыны, дзе ўжо сам

друк іграў вядучую ролю. Вось чаму мы павінны разгледзець і даны аспект.

Паколькі галоўнай задачай нашага даследавання з'яўляецца ўсё ж ідэйная скіраванасць дзейнасці Скарыны, а тэхнічны бок яго выданняў прааналізаваны найбольш грунтоўна, мы выкарыстаем ужо гатовыя вынікі працы даследчыкаў і спецыялістаў па данай праблеме і на іх падставе выкажам некаторыя агульныя меркаванні.

Як мы адзначылі ў пачатку працы, апісанне Скарынавых выданняў з боку асаблівасцей друку было першым і амаль галоўным у храналогіі даследаванняў пра Скарыну. Там мы коратка спыніліся на аўтарах, якія звярталіся да гэтай праблематыкі. Тут жа мы будзем толькі канстатаваць вынікі іх даследаванняў.

Такім чынам — Бакмейсцер (1). «Пяцікніжжа» Майсея ён называе «драгоценным памятником» (43, II).

Штрытэр (43, III—IV) піша: «Папера такая добрая, як лепш быць не можа, усё размяшчэнне ёсць выключна майстэрскае ў мастацтве кнігадрукавання...» Шрыфт мае «кірылічны характар», але «ъ» (ер) прапускаецца, як «в приказном письме» (правапіс канцыляры́й князя). Ён звярнуў увагу на вобразатвор Бога «з узнятай для благаславення правай рукой, як гэта прынята ў рускай царкве». (Уладзіміраў да гэтага дадае, што падобныя выявы можна бачыць у Чэшскіх бібліях 1506 і 1529 гг.)

Добраўскі (5, 186) адзначае: «Яго літары не паўтаралі дакладна абрысу руска-славянскага шрыфта, але яны былі падобныя на тыя, якімі сербы ў XVI стагоддзі друкавалі свае кнігі ў Венецыі...». «Папера для друку, а таксама, трэба думаць, і дрэварыты браліся недзе ў Празе ці паблізу, напрыклад у Нюрнбергу» (43, VI).

Сопікаў (11, 8), называючы і апісваючы кнігі Скарыны, выказваецца так: «Выданні надзвычай рэдкія!» «Уверсе паказана Тройца ў вобразе мужчыны з... тварам і барадой, у доўгай вопратцы, седзячы на троне, які бласлаўляе правай рукой, як прынята ў рускай царкве...» Відаць, гэта апісанне той жа выявы, што і ў Штрытэра. Больш падрабязнае апісанне яе можна потым знайсці ў артыкуле Зібрта, які прысвечаны праблемам чэшскага жывапісу (78).

Строеў апублікаваў рэпрадукцыю партрэта Скарыны (43, 78).

Самім загалоўкам артыкула («Замечательное открытие...» — 28) Віктараў прызнае каштоўнасць твораў Скарыны, а ў даследаванні характарызуе іх друкарскія асаблівасці.

Равінскі (26) выказаў думку, што манаграма на партрэце Скарыны належыць нямецкаму майстру Марціну Цагелю ці Цазінгеру (43, 78). Уладзіміраў дадае, што падобныя манаграмы прыводзяцца ў даследаванні Пасавана («Le peinture graveur», Leipzig, 1860).

Стасаў адзначае, што гравюры Скарыны адыгралі «важную ролю для шэрагу славянскіх твораў ксілаграфічнага мастацтва». У многіх гравюрах ён знаходзіць славянскія тыпы і выказвае здагадку аб чэшскім уплыве. Па выразнасці малюнка, сіле і каларытнасці ён параўноўвае партрэт Скарыны з лепшымі нямецкімі гравюрамі таго часу (43, 78—79).

Каратаеў (42), параўноўваючы друк Скарынавых выданняў з іншымі творамі кірылічнай пісьменнасці, таксама аддае перавагу першым.

«Беларус» (29, 143) лічыць, што выданні Мамонічаў з'яўляюцца нічым іншым, як перадрукам кніг Скарыны.

Самае лепшае і самае падрабязнае апісанне

Скарынавых выданняў з боку друку зрабіў Уладзіміраў, прысвяціўшы праблеме значную частку сваёй працы (стар. 68—200). Зразумела, што паралельна ён закранаў і іншыя пытанні. Прывядзём некаторыя яго выказванні.

«З боку друкарскага мастацтва кнігі Скарыны далёка пераўзыходзяць не толькі папярэднія царкоўнаславянскія выданні, але і сучасныя яму венецыянскія» (43, 70).

«Скарына выдае ў памеры 4°. Відаць таму, каб кнігі былі даступнымі па цане» (43, 71).

«Усе вадзяныя знакі мы знайшлі ў выданнях знакамітага друкара і ўладальніка папяровай фабрыкі Яна Шёнспергера (1481—1523): галава быка на аркушы 95, 101, 103 і 140 і чатырохканцовы крыж на аркушы 137 у «Псалтыры» 1517 г. з бібліятэкі Хлудава; вадзяныя знакі на лісце 35 і 38 у кн. «Ісус Сірахаў» з кніжнага збору Петраградскай духоўнай акадэміі» (43, 71—72).

«У Скарыны ўпершыню ўведзена нумарацыя аркушаў, але кірылічная» (43, 72).

«Такое ж афармленне тытульных аркушаў можна знайсці ў лацінскіх, нямецкіх, чэшскіх, польскіх і іншых выданнях канца XV-га і першай палове XVI-га стагоддзяў ў 4°» (43, 72).

«Па характару шрыфтоў старадрукі можна падзяліць на аўтэнтычныя і запазычаныя... Для шрыфта Скарыны ў папярэдніх царкоўнаславянскіх выданнях прамога арыгінала мы не знаходзім. Шрыфт Скарыны — з'ява даволі складаная» (43, 73).

«Каб растлумачыць паходжанне шрыфта Скарыны, трэба высветліць, акрамя майстроў, якія на яго працавалі, яшчэ і ступень валодання каліграфічным майстэрствам самім Скарынам, якое ўдасканальвалася пад уплывам царкоўнаславянскага і «рускага» ў актах і граматах, а таксама шрыфта

Паўднёва-Заходняй Русі канца XV — пач. XVI стагоддзя» (43, 74).

«Да гэтага дададзім, што па размяшчэнню літар і па іх памерах шрыфт Скарыны адрозніваецца ад шрыфтоў, прынятых у актах і граматах пач. XVI стагоддзя. Найбольшае падабенства мае скарынаўскі шрыфт да паўустаўнага пісьма рускіх царк.-славянскіх помнікаў і некаторых грамат на пергаменце, якія былі напісаны ў Паўднёва-Заходняй Русі ў XV стагоддзі (напрыклад, Літоўская метрыка, № 54 з 1485 г.)...» (43, 75).

«Акрамя некалькіх вялікіх літар, якія пісаліся гэтаксама, як у чэшскіх і нямецкіх выданнях, напісанне іншых адпавядала аналагам з царкоўнаславянскіх рукапісаў і такіх жа выданняў, што папярэднічалі Скарыне» (43, 74).

«Застаўкі Скарыны звязаны з царкоўнаславянскімі рукапісамі і выданнямі (у лацінскіх, нямецкіх, чэшскіх і інш. выданнях заставак няма...)» (43, 75).

«Літары Скарыны адрозніваюцца выключнай дасканаласцю і пераўзыходзяць шрыфт Чэшскай біблії 1529 года і шматлікія нямецкія выданні» (43, 76).

«Дрэварыты Скарыны самым непасрэдным чынам звязаны з «Сусветнай хронікай» Шэдэля» (43, 76).

Пры апісанні літары «ч», якая змяшчала ў сабе вадзяны знак і герб Скарыны, Уладзіміраў выказвае здагадку: «Ці не сведчыць гэта пра самастойнае паходжанне некаторых вялікіх літар, звязанае з вынаходніцтвам Скарыны?» (43, 77).

«Толькі адзін дрэварыт (у кнізе «Быццё» на адвароце тытульнай старонкі) з'яўляецца даволі слабым» (43, 79).

«Усе сем карцін з трэцяй кнігі «Царствы» Ска-

рыны ў лепшых малюнках увайшлі ў цудоўныя гравюры бібліі Лютэра і яе пераймальніц: Чэшскай біблії 1549 г. і Польскай 1561 г.» (43, 79).

Канчатковы вывад Уладзімірава такі: «З боку друкарскага майстэрства выданні Скарыны пераўзыходзяць усе папярэднія царкоўнаславянскія выданні. Іх можна параўнаць з самымі лепшымі нямецкімі выданнямі пачатку XVI стагоддзя» (43, 82).

Прывядзём яшчэ некаторыя важныя выказванні.

«Падзяляючы ўсе псалмы на вершы пры дапамозе кропак і некаторых іншых знакаў, Скарына, хутчэй за ўсё, наследаваў цэтынскаму выданню «Псалтыра» 1495 г. і венецыянскаму Бажыдара Вукавіча, дзе яны сустракаюцца» (43, 85).

«Па сваёй прыгажосці выданні Скарыны пераўзышлі не толькі царкоўнаславянскія выданні першай паловы XVI стагоддзя, але і сталі ўзорам для пераймання, прычым не толькі ў Паўднёва-Заходняй Русі, але і ў Германіі, у Цюбінгене і інш.» (43, 201).

Сур'ёзнасць зробленага Уладзіміравым апісання аспрэчвае толькі п. Станкевіч і то даволі палемічным спосабам: «Выклікае здзіўленне, як аўтар, даследуючы мініяцюры і іх арнаментыку, не звярнуў увагу на адсутнасць у спісе некаторых кніг, якія выдаў Скарына, і абазначэнне іх пагінацыі... не парупіўся перапісаць іх у адпаведнасці з бібліяграфічнымі патрабаваннямі, сабраць у адно месца і размясціць у адпаведным парадку» (52, 49). Таму «...у будучым мы неаднаразова мусім звяртацца да старадаўніх крыніц, ... бо манаграфія п. Уладзімірава для нас не вычэрпвае прадмет, пакідае прабелы для запаўнення і нават не засцерагае ад памылак».

Мы не ставім перад сабой задачу зноў прааналізаваць творы Скарыны з боку друку, бо не маем

магчымасці, на жаль, высветліць, дзе памыліўся Уладзіміраў. Шкада, што п. Станкевіч не прывёў прыкладаў, а яшчэ горш, што Уладзіміраў у адказе рэцэнзентам (75) не палічыў патрэбным адказаць яму ці хаця б дапоўніць бібліяграфічны спіс кніг.

Усе астатнія рэцэнзенты і пазнейшыя даследчыкі абапіраюцца на выніکі працы Уладзімірава.

Карскі (81, 178), прыраўняўшы друк Скарыны да беларускага і паўднёваславянскага паўуставу, лічыць магчымым самастойнае напісанне некаторых літар, часам вельмі складаных.

Толькі ў 1924 годзе Папоў (98, 14) указвае на адрозненне шрыфта Скарыны ад пісьма іншых друкароў Усходняй Еўропы і адзначае, што ў канцы XVI стагоддзя скарынаўскі шрыфт быў пераняты Ватыканскай друкарняй.

У артыкуле Шафарыка «Аб вядомых стараславянскіх кірылічных друкарнях у паўднёваславянскіх землях» (138) мы звярнулі ўвагу на такі момант пры апісанні паўднёваславянскай буквіцы: «Буквіца — гэта толькі разнавіднасць кірыліцы для католікаў, якой друкавалі ў Босніі. Іх узоры ужо можна заўважыць у Пастэла і Тэзея Амброзія ў 1539 г., а ў цэлай кнізе — з 1574 г. Больш старыя, прынамсі для мяне, невядомыя». У «Энцыклапедычным слоўніку» ў артыкуле «Азбука» (105, I, 416) гэтым жа аўтарам сказана: «У р.-каталіцкіх баснякоў з XVI стагоддзя ўжываецца асаблівая разнавіднасць кірыліцы, якая называецца буквіцай. На яе падобна больш за ўсё азбука, якая ўжываецца ў «Славенскай граматыцы» Бахорыча, выдадзеная ў 1584 годзе і надрукаваная потым у Добраўскага (9, 4.— *І. Д.*). Таксама падобна на яе і тая, якою між іншым быў надрукаваны ў 1557 і 1560 гг. «Славенскі пераклад» № 2 Трубера ў Цюбінгене».

Параўнаем гэта з выказваннем Уладзімірава аб

наследаванні Труберам шрыфта Скарыны (43, 201). У зносцы на гэтай старонцы Уладзіміраў на падставе ўпамінання Добраўскага (7, I, 149—152) піша, што «ў 1539 г. Тэзей Амброзій... у сваёй кнізе «Уводзіны ў мовы халдзейскую, сірыйскую, армянскую і іншыя...» на стар. 53 змяшчае ўрывак з XXIII часткі ... на рускай мове * лацінскімі літарамі, каб паказаць, як вымаўляюцца рускія літары».

Узнікае пытанне: ці не пра тыя ж самыя літары гаворыцца ў Шафарыка і Уладзімірава? Звесткі Уладзімірава пра Амброзія Тэзея сведчаць, што той меў у сябе выданні Скарыны. Такім чынам, ці не сведчыць гэта супадзенне пра сувязь шрыфта Скарыны з буквіцамі?

Возьмем азбуку, прыведзеную Добраўскім на стар. 4, і параўнаем яе са шрыфтам Скарыны, якім надрукавана кніга «Ісус Сірахаў». Першы погляд на іх ужо дае падставу гаварыць аб ідэнтычнасці літар. Яны маюць адзін і той жа стыль. Праглядаючы іх адна за другой, мы бачым абсалютнае падабенства наступных літар: а (вялікае і малое), б, в, г, е, ж, з, и, м, н, п, р, с, т, у, ф, х, w, ц, ч, ш, щ, ъ, Ѳ, ѳ. Астатнія маюць вельмі невялікія адрозненні. Аднак паралельна з гэтымі літарамі сустракаецца і варыянт аднолькавых. У дадатку VIII да нашай працы мы прыводзім для параўнання ў першым радку азбуку Добраўскага, якая ўзята з граматыкі Бахорыча, у другім радку — азбуку з беларуска-ўкраінскага паўуставу, надрукаваную Карскім [1] (81, 432—438), у трэцім — азбуку са Скарынавай кнігі «Ісус Сірахаў» і ў чацвёртым, ужо як дапаў-

---

* Маецца на ўвазе ўрывак з другой кн. «Царствы» Скарыны.

[1] Пры падабенстве асобных літар з літарамі беларускага паўуставу, якія мы тут назвалі, ёсць розніца ў іх агульным абрысе, асабліва пры параўнанні шрыфта Скарыны з узорамі, якія прыведзены ў Карскага.

ненне,— грэчаскую азбуку з «Граматыкі» Канстанціна Ласкарыса, выдадзеную ў 1476 годзе ў Мілане. Яна таксама ўяўляе цікавасць у сэнсе падабенства са Скарынавай, а надрукавана была Фольманам (134, 215). Пазнейшыя грэчаскія азбукі ўжо цалкам адрозніваюцца ад папярэдняй і нагадваюць цяперашні грэчаскі алфавіт.

Параўноўваючы ўсе тыя чатыры азбукі, мы бачым найбольшае падабенства між сабой азбукі з «Граматыкі» Бахорыча і шрыфта Скарыны. Такім чынам, будзем лічыць, што ўзорам для Скарыны паслужыла нейкая буквіцкая азбука [1].

Гэта меркаванне шмат аб чым гаворыць. Напрыклад, яно сведчыць аб сувязі шрыфта Скарыны з узорам пісьма каталіцкай царквы. Нагадаем тут выказванне Папова аб атрыманні Скарынавых твораў у спадчыну Ватыканскай бібліятэкай і дзіўным супадзенні: а) смерці Альда Мануцыя ў 1516 годзе; б) адкрыцці ў гэтым годзе папам Піем IV друкарні для армян, кіраўніком якой быў запрошаны былы памочнік Мануцыя Дамініка Базу (134, 260), і в) пачатку скарынаўскага кнігадрукавання ў красавіку 1517 г. у Празе. Ці не звязана гэта адно з адным? А ўспомнім нашу здагадку аб знаходжанні Скарыны ў Венецыі?

Калі б сапраўды было нешта падобнае, для нас не было б ніякага сумнення, што і ўрывак з ліста Жыгімонта Аўгуста адносіўся да Скарыны. Усё разам гэта дапамагло б канчаткова вызначыць і веравызнанне Скарыны.

Адзначым, што на Беларусі існаваў адпаведны

---

[1] Прыведзены Карскім (81, 180) узор буквіцкага пісьма 1682 г. адрозніваецца ад шрыфта Скарыны напісаннем паасобных літар, але ў цэлым яго стыль больш падобны на Скарынаў, чым стыль паўуставу.

шрыфт для свецкіх паведамленняў і для рэлігійнай праваслаўнай літаратуры. Пры выданні Літоўскага статута 1566 года браты Мамонічы выкарысталі своеасаблівы шрыфт, падобны да рукапіснага. (Кніга маецца тут, у Нацыянальным музеі.) Праваслаўная царква на тэрыторыі ўсёй Расіі аж да сённяшняга дня карыстаецца сваім спецыфічным ц.-славянскім кірылічным шрыфтам, які адрозніваецца і ад скарынаўскага, і ад існуючага свецкага, уведзенага Пятром Вялікім (т. зв. «гражданка»). Успомнім, што і ў самога Скарыны шрыфты пражскіх і віленскіх твораў розніліся між сабой. І хоць гэтыя адрозненні былі не такія ўжо і выразныя (тычыліся не стылю, а перш за ўсё памераў), яны ўсё ж даволі паказальныя.

На жаль, мы і тут не можам выказаць цвёрдай упэўненасці аб веравызнанні Скарыны. Хоць супадзенні, як бачым, поўныя, мы ўсё ж не маем права ігнараваць іншыя фактары.

Трубер, наследуючы шрыфт Скарыны, друкаваў творы як прапагандыст не каталіцтва, а пратэстанцтва. У гэтых адносінах цікавым бачыцца адзінства поглядаў пры наследаванні шрыфта Скарыны пісьменнікамі на Беларусі. Найбольшае падабенства з ім, калі не ідэнтычнасць, мае шрыфт беларускіх пратэстантаў другой паловы XVI стагоддзя Сымона Буднага і Васіля Цяпінскага (43, 202). Потым мы ўбачым, што яны ішлі за Скарынам, не толькі паўтараючы яго пісьмо.

Такім чынам, калі з р.-каталіцкім шрыфтам у Скарыны маецца пэўная сувязь, то для пратэстанцкіх пісьменнікаў ён быў першапрычынай, своеасаблівай крыніцай. Вось чаму і на падставе асаблівасцей пісьма мы не можам аднесці Скарыну да нейкага канкрэтнага і адзінага веравызнання.

Адно мы можам сказаць: і па характары свайго

шрыфту Скарына не мог належаць праваслаўнай царкве. Ён быў альбо р.-католікам, альбо пратэстантам (гусіцтва і лютэранства цяпер ужо не адрозніваліся).

Наш разгляд шрыфта Скарыны ў сувязі з буквіцамі, а ў больш шырокім аспекце — з р.-каталіцкім і пазнейшым пратэстанцкім пісьмом — пазбаўляе падстаў многія меркаванні аб паходжанні гэтага шрыфта, якія былі выказаны рознымі даследчыкамі. Наступныя даследаванні па гэтаму пытанню і спадарожнаму яму — аб веравызнанні Скарыны — паставяць усе кропкі над «і» і выкажуцца, урэшце, ці за р.-каталіцтва, ці за пратэстанцтва. А пакуль абмяжуемся гэтым.

Што можна яшчэ сказаць пра Скарыну на падставе вывадаў і меркаванняў іншых даследчыкаў?

Па-першае, трэба адзначыць, што друкарскае мастацтва выданняў Скарыны мае заходні характар. Гэта прызнаюць усе даследчыкі і пярэчанняў гэтаму няма. Такі вывад дае нам падставу разгледзець у перспектыве ўсю дзейнасць Скарыны як з'яву заходнееўрапейскую.

Па-другое, і сярод друкаваных выданняў Заходняй Еўропы яны вылучаюцца надзвычай высокім узроўнем выканання, што сведчыць пра вытанчаны эстэтычны густ Скарыны і сувязь яго з друкарамі гуманістычнага накірунку (Мануцый, Кобергер, Дзюрэр, Конач, Геленій, Галер і інш.— усе яны прыведзены для аналогіі).

Па-трэцяе, адсутнасць друкаванага ўзору для Скарыны выяўляе ў ім самастойнага аўтара свайго шрыфту і характарызуе яго ў гэтых адносінах як асобу з надзвычай высокім узроўнем самасвядомасці.

Большае падабенства шрыфту Скарыны да свецкага на Беларусі, чым да царкоўнага на Захадзе —

таксама пацвярджае думку аб свецкай скіраванасці ўсёй яго працы.

Адным словам, і ў абраным спосабе друкавання Скарына застаўся верным сабе: самастойным, крыху набожным, заходнім па складу думкі, свецкім. Карацей кажучы — гуманістам. Сам факт заснавання друку на роднай глебе спрыяў сцвярджэнню яго патрыятычных і чалавекалюбівых памкненняў.



10. Зак. 149



# VII. СКАРЫНА ЯК ГУМАНІСТ

Мы ўжо не адзін раз выказваліся аб адносінах Скарыны да гэтага новага руху на Захадзе. Але на падставе некалькіх агульных момантаў нельга цвёрда гаварыць пра тое, што Скарына належаў да яго цалкам. У сваёй працы мы якраз і ставім мэту сцвердзіць погляд на Скарыну як на гуманіста.

Да некаторых уласцівасцей гуманізму мы не звярталіся наогул, паколькі не мелі для гэтага падстаў: праблема нас цікавіла толькі да той ступені, наколькі гэтага вымагала даследаванне важнейшых бакоў Скарынавай дзейнасці. Аналізуючы даную дзейнасць у кантэксце з усім рухам, мы адначасова разгледзім і іншыя пытанні, якія засталіся па-за нашай увагай. Многія прыкметы гуманізму Скарыны могуць быць адхілены ўжо з яго біяграфіі. Вось чаму гэты раздзел актуальны з многіх пунктаў гледжання.

Што, уласна кажучы, трэба разумець пад гуманізмам, які з такой магутнай сілай выявіўся ў Еўропе на пач. XVI стагоддзя (175, I, 263 і 285)?

Цяжка адшукаць такую дэфініцыю гуманізму, якая б у найбольш сціслай форме змяшчала ўсё, з

чым бы пагадзіліся розныя даследчыкі, паколькі і сам гуманізм, калі меркаваць па яго асобных прадстаўніках, не быў з'явай аднароднай. Як піша Карэеў (175, I, 283), «з гуманізмам адбылося тое ж самае, што пазней і з іншымі культурнымі з'явамі... Ён набыў розныя варыяцыі, адпаведныя таму, што можна назваць духам таго ці іншага народа з улікам культурнага і сацыяльнага становішча кожнага асобнага краю ў пэўны час».

Таму возьмем самае звычайнае вызначэнне і на падставе вынікаў розных даследаванняў назавём паасобныя рысы гуманізму, каб потым вызначыць, наколькі тая ці іншая была ўласціва Скарыне.

Кароткая і дакладная дэфініцыя, дадзеная гуманізму Хжаноўскім (143, 29), мяркуем, гэтаму цалкам адпавядае: «Гуманізмам называецца вобраз жыцця і разумовай культуры, сутнасць якой у імкненні чалавека да свабоды дзеяння і духа, да паўнаты і радасці жыцця. Народжаны ён быў літаратурай Адраджэння і антычным мастацтвам.

Пры вызначэнні рыс, уласцівых гуманізму, мы будзем пераважна спасылацца на меркаванні вядомага даследчыка ў данай галіне Карэліна, выказаныя ў яго вялікай працы «Ранні італьянскі гуманізм...» і коратка пададзеныя ў «Слоўніку» Бракгаўза і Эфрона (артыкул «Гуманізм», рускае выданне). Зразумела, пры гэтым не будзем абмінаць выказванні іншых даследчыкаў.

Напачатку Карэлін вылучае ў гуманізме два галоўныя напрамкі: італьянскі і нямецкі. Паколькі рысы, якія вызначаюць непаўторнасць другога напрамку, як будзе адзначана ніжэй, сустракаліся на французскіх, англійскіх і найперш чэшскіх землях, мы будзем лічыць яго рухам паўночна-еўрапейскім.

Разгледзім спачатку агульныя рысы гуманізму.

I. Глыбокі індывідуалізм (175, II, 1061).

1. «Гэты індывідуалізм характарызуецца ў першую чаргу цікавасцю да самога сябе, да свайго ўнутранага свету» (175, II, 1061). Сюды адносіцца:

а) вылучэнне на першы план свайго «я». «Пятрарку цікавіць сваё ўласнае «я» (173, 258). «Кожны гуманіст ствараў сваё рэнаме... А цэлае саслоўе вырвалася з натоўпу, ганарылася сваёй культурай, бачыла ў ёй падставу для сваёй перавагі» (173, 302);

б) высокі ўзровень самасвядомасці. «Сярэдневяковая хрысціянская сціпласць саступіла месца ў гуманістаў вялікай самасвядомасці; яны імкнуліся да славы і пашаны і інтарэсы сваёй асобы ставілі вышэй за астатнія; гуманізм выклікаў да жыцця моцных асоб, якія ў сваю чаргу праклалі яму новую дарогу. Вакол іх гуртавалася грамадства, узнік культ асобы» (170, 20).

Гэту рысу ў поўнай меры мы бачылі ў Скарыны.

2. Сюды адносіцца другая рыса, характэрная для ўсіх гуманістаў: цікавасць да навакольнага свету і найперш — да чалавека, сцвярджэнне самакаштоўнасці і значнасці чалавечай прыроды ўвогуле, а таксама права чалавека развіваць свае здольнасці і задавальняць унутраныя патрэбы (175, II, 1061). «Гуманізм быў інтарэсам да ўсяго чалавечага» (173, 234).

Сюды адносяцца:

а) антыаскетычныя погляды (175, II, 1063; 173, 237—238). «Распраўляючыся з сярэдневяковым аскетызмам, гуманісты спрабавалі выпрацаваць новыя рэлігійныя погляды... Было створана вучэнне пра тое, што праўда ў тэалогіі можа лічыцца няпраўдай у філасофіі» (173, 238);

б) надкласавасць, узвышэнне чалавека над саслоўем і саслоўнымі прывілеямі (175, II, 1063);

в) стварэнне новай этыкі, яе секулярызацыя.

«Сярэдневяковая этыка, зыходзячы з ідэі грахоўнасці зямнога жыцця і свецкіх інтарэсаў, была этыкай аскетычнай. Аскетычная мараль патрабавала пагардлівых адносін да свету» (173, 216). «Раннія гуманісты выпрацавалі вучэнне, што чалавек па сваёй прыродзе з'яўляецца істотай маральнай і што ў аснову новай этыкі павінны быць пакладзены лепшыя рысы нашай прыроды. Новая этыка не павінна пазбаўляць чалавека індывідуальных асаблівасцей, а толькі садзейнічаць іх правільнаму развіццю» (175, II, 1077);

г) стварэнне новай педагогікі. «Ідэі Вергерыя і Бруні, што выхаванне павінна быць заснавана на псіхалогіі, што яно павінна ўсебакова развіваць душу і цела, рыхтаваць чалавека да жыцця і паралізаваць шкодны ўплыў прыродных недахопаў — з'явіліся асновай новай школы» (175, II, 1078—1079). «Яны выдавалі лепшыя навучальныя кнігі, чым былі дагэтуль...» (170, 20);

д) стварэнне новай навукі. «Пазней гуманісты атаясамліваюць навуку з дабрачыннасцю... Навука, як адна з важнейшых патрэб чалавецтва, прызнаецца сама па сабе вялікай каштоўнасцю» (175). «Разам з філасофіяй і навукай, а часам і над імі, гуманісты ставілі паэзію, у якой можна бачыць маральныя павучанні, выказаныя ў алегарычнай форме. Вось чаму ўсе гуманісты называлі сябе паэтамі, а вельмі многія з іх пісалі і вершы» (175). «Гуманіст быў паэтам і рытарам, рытарам нават больш... Іх паэзія была рытарычнай» (170, 20);

е) стварэнне новай палітыкі. «У аснове іх палітычных поглядаў ляжала вера ў магчымасць асобнага чалавека ўсталяваць грамадскі парадак і кантраляваць сучасную яму рэчаіснасць» (106). «Разнастайныя палітычныя плыні прасякнуты агульным для ўсіх гуманістаў дэмакратызмам. Заслуга гума-

ністаў у тым, што іх палітычныя трактаты залажылі аснову палітыкі як навукі і як мастацтва ў новы час, а іх барацьба супраць арыстакратыі і саслоўных адрозненняў наогул у імя індывідуальных асаблівасцей уяўляе сабой першую спробу заснавання палітычнай роўнасці» (106). Мы павінны ўсё ж адзначыць, што дэмакратызм гуманістаў быў далёкі ад таго дэмакратызму, які выявіўся ў часы Рэфармацыі і асабліва ў Абшчыне чэшскіх братоў. Уласна кажучы, гуманісты вялі вайну з арыстакратыяй у імя індывідуальнасці. Гэта была, хутчэй, барацьба за раўнапраўнае становішча моцных, адукаваных і багатых асоб. Іншы характар меў дэмакратызм народны. У параўнанні з ім сама гуманістычная плынь з'яўлялася гэтаксама арыстакратычнай. «Гуманістычны рух быў па сваёй сутнасці арыстакратычным і абмяжоўваўся коламі вышэйшымі і найбольш адукаванымі» (153, 131). Прыкладаў гэтаму можна прывесці дастаткова;

ж) стварэнне новай публіцыстыкі і грамадскай думкі. «Перапіска гуманістаў, якая прызначалася для ўсяго грамадства, іх прамовы палітычнага зместу, іх інвектывы грамадскага і прыватнага характару, іх палітычная палеміка ў вершах і прозе — усё гэта ўяўляе сабой сапраўдную і ўжо ўплывовую публіцыстыку» (175, II, 1083);

з) крытычныя адносіны да сярэдневяковых форм культуры наогул у імя новых індывідуальных патрэб (175, II, 1076). «Гуманісты першыя ўвялі строгія навуковыя патрабаванні да перакладаў... Найбольш характэрнай адзнакай гуманістаў з'яўляецца рацыяналізм» (173, 290);

і) выкарыстанне момантаў свецкага жыцця. «Прадметы, якія складаюць змест свецкай навукі, былі прадметамі чалавечымі» (173, 239). «Гуманісты сталі, па сутнасці, першым свецкім саслоўем лі-

таратараў, вучоных, публіцыстаў» (173, 270). «Свецкі вучоны, акрамя дактароў і юрыстаў,— з'ява выключная ў сярэднявеччы. І гуманісты, якія парвалі сувязі з манастыром, павінны былі ствараць новую грамадскую супольнасць. З'яўляючыся ў большасці выхадцамі з сярэдніх і ніжэйшых слаёў гарадскога насельніцтва, яны прынімалі духоўны сан... Застаючыся чыста свецкімі людзьмі па сваіх перакананнях, яны збягалі ці на універсітэцкія кафедры, ці адкрывалі свае школы... Гуманісты стваралі новы грамадскі клас — свецкую інтэлігенцыю...» (106).

Як бачна, многія з прыведзеных рыс выяўляюцца ў Скарыны даволі выразна. А менавіта: антыаскетычныя погляды, надкласавасць, стварэнне новай этыкі і педагогікі, выкарыстанне момантаў свецкага жыцця.

Разгледзім астатнія рысы.

Уся дзейнасць Скарыны была скіравана на чалавека, што цалкам адпавядае другому пункту. Да стварэння новай навукі Скарына таксама мае дачыненне, паколькі для яго характэрна атаясамліванне навукі з дабрачыннасцю, прызнанне яе вялікай каштоўнасцю (гл. падраздзел «Скарына як настаўнік народа»). Калі звярнуцца да ўпамінання пра паэзію, то павінны зноў адзначыць, што Скарына, па сутнасці, быў першым, хто пачаў пісаць вершы на беларускай мове. (Яны прыведзены ў дадатку сярод прадмоў і пасляслоўяў.) Уласцівы яму ў пэўнай ступені і рацыяналізм (гл. падраздзел «Сляды схаластызму»). У дачыненні да стварэння новай палітыкі асабліва стасуецца дэмакратызм Скарыны, якім ён вылучаўся са свайго саслоўя. Калі гаварыць пра публіцыстыку, то, як мы адзначылі ва ўступе, прадмовы і пасляслоўі Скарыны з'яўляюцца, уласна кажучы, публіцыстычнымі творамі, у якіх аўтар выказаў свае погляды. Крытыч-

ныя адносіны да сярэдневяковых форм культуры таксама ўласцівы Скарыне. Гэта мы бачылі на працягу ўсяго даследавання. Некрытычнае ж наследаванне чэшскаму перакладу, што адзначае Уладзіміраў, можна растлумачыць адсутнасцю ў беларускай мове таго часу для ўсяго гатовых выразаў і тым, што праца гэта рабілася ў межах існуючай традыцыі. Адсюль і залежнасць ад чэшскай культуры. Але, як даказвае Уладзіміраў, акрамя Чэшскай біблії, Скарына карыстаўся Вульгатай і царкоўнаславянскімі тэкстамі. Такім чынам, залежнасць не была сляпой і некрытычнай. Вазняк (87, II, 9) так і сцвярджае: «Маючы на мэце даць свайму чытачу поўную і зразумелую Біблію, Скарына свабодна ўпісваў чэшскія і царкоўнаславянскія тэксты...». Такім чынам, крытыцызм выяўлены ў дастатковай ступені.

Як бачым па названых рысах, Скарына ні ў чым не адрозніваўся ад сваіх супольнікаў, а дзе-нідзе і пераўзыходзіў іх.

Далей адзначаецца:

3. Цікавасць да акаляючай рэчаіснасці, паколькі яна мае ўплыў на чалавека (175, II, 1061); а гэта:

а) любоў да прыроды. «Гуманісты першымі выказваюць любоў да прыроды і амаль рэлігійную пашану да яе прыгажосці. Гэта рыса праходзіць чырвонай ніткай праз увесь рух, але адлюстравана яна была перш за ўсё ў мастацтве» (106);

б) цяга да падарожжаў. «...Выявілася моцная цяга да падарожжаў» (106).

в) шырокія, энцыклапедычнага ўзроўню веды ў гуманістаў. «Гуманісты былі людзьмі шырока і ўсебакова адукаванымі; у гэтым выяўлялася іх адрозненне ад сярэдневяковых вучоных з іх вузкай спецыялізацыяй» (173, 318). «Пятрарка хоча, каб у

адной асобе былі спалучаны гісторык, філосаф, паэт і тэолаг» (173, 260).

Даныя рысы ў дачыненні да Скарыны ў нас наогул не даследаваны. Прычынай было хутчэй за ўсё тое, што пра любоў да прыроды, напрыклад, у творах Скарыны сказана мала. У прадмове да «Прытчаў Саламона» ёсць «розмолвение о прироженнии древ и былин,... зверей, птиць, гадов и риб...» (43, 104). У прадмове да кн. «Юдзіф» ён параўноўвае любоў чалавека да радзімы з любоўю розных звяроў да сваіх мясцін.

Арнаментыка Скарыны адпавядае ўзорам заходняга мастацтва. Усе даныя прыклады толькі паказваюць на прыналежнасць Скарыны ўвогуле да названага руху. Пра асаблівую замілаванасць да прыроды яны гавораць мала. Ведаючы пра яго другое захапленне — цягу да падарожжаў — можна толькі здагадвацца, што ў іх Скарыну вабіла і прырода, тым больш калі ён быў прыналежным да данага руху. У першым лісце прускага герцага ёсць звесткі, што Скарына набыў свае веды ў час падарожжаў («peregrinationibus collegisse videtur»). Біяграфічныя факты сведчаць пра гэта дастаткова выразна: Полацк, Вільня, Кракаў, нейкі вялікі горад Еўропы, Падуя, магчыма Венецыя, Прага, Вітэнберг (?), Вільня, Кралевец, Вільня і, магчыма, Масква. Гэтага ўжо дастаткова.

Пра featurezнабаковасць адукацыі Скарыны сведчаць два доктарскія дыпломы і змешчаныя ў яго прадмовах звесткі з розных галін ведаў. У Падуі віцэ-прыёр Мусаці называе яго «doctissimus juvenis» («вельмі вучоны малады чалавек»), які бліскуча праходзіць усе выпрабаванні. Пра гэта асабліва выразна сведчаць лісты прускага герцага: «Non ita pridem Egregius ac multifariae experiendiae vir... aelixgue professor»... «Cuius animi adverso

cumingenio prompto mirabilique tum artis praeclarissimae, quam profitetur mira faelicitate atgue experientia, quam annis demum ac vigilis suis multarumque rerum cognoscendarum peregranationibus collegisse videtur: subditorum ac virorum nostrorum fidelium albo numeroque benigne scriptimus..»* і г. д. (1 ліст). Тое ж самае ў другім і трэцім лістах. Так што сведчанняў, як бачым, дастаткова.

Пяройдзем да наступных уласцівасцей гуманізму.

II. Другой вызначальнай рысай, характэрнай для ўсіх гуманістаў, з'яўляецца іх шчырая і глыбокая цікавасць да антычнасці (106; 173, 239). «Гуманісты не толькі вучаць грэчаскую і лацінскую мовы, антычную літаратуру і гісторыю,... але і шукаюць у антычнасці зброю для барацьбы з сярэдневяковымі поглядамі, аўтарытэты для пацвярджэння сваіх вучэнняў» (106).

Сюды адносіцца:

1. Добрае веданне антычных моў. Самі гуманісты лічылі гэту рысу адзнакай прыналежнасці да новаўтворанага руху (106).

2. Квяцістасць стылю. «Гуманісты распрацавалі і ўвасобілі ў сваёй творчасці квяцісты стыль, поўны класічных зваротаў, выразаў, рэмінісцэнцый; знешняя форма, дакладнасць выразаў, разнастайнасць тэм класічных аўтараў натхнялі іх і самую звычайную рэч кожны гуманіст імкнуўся выказаць незвычайна, па ўзоры антычнасці. Эла-

---

* «Не так даўно выдатны, шматвопытны муж і цудоўны выкладчык... Звярнуўшы ўвагу як на яго сапраўдны і дзівосны талент, так і на незвычайнае майстэрства ў выкладанні і вопытнасць, якую ён набыў у старанных занятках за час падарожжаў, спасцігнуўшы мноства рэчаў, мы міласціва прыпісалі яго да ліку падданых і верных нам мужоў...»

квенцыя стала адзнакай сапраўднага гуманіста» (170, 20).

3. Вышэйшыя эстэтычныя патрабаванні наогул. «Гуманісты з самазабыццём гаварылі пра класікаў і іх форму, імі быў адроджаны эстэтычны ідэал. Рэнесанснай антычнасцю яны пашырылі галерэю духоўных вобразаў, адкрылі новыя дарогі, новыя крыніцы» (170, 20).

4. Змяненне сваіх імёнаў па ўзору антычнасці. (Яны іх перакладалі.) «Рэйхлін быў вядомы ў гуманістаў пад імем Капніон, якім яго празвалі ў Венецыі...» (173, 288). «Пакаленне, якое належыць пач. XVI стагоддзя, выказала... сваю прыхільнасць лацінізаваць ці перарабляць на грэчаскі манер свае варварскія імёны» (173, 288).

5. Эротыка. «Першымі, хто ўвёў новы элемент эротыкі ў лацінскую паэзію, былі гуманісты ў Польшчы... Калімах і Цэльтыс услаўлялі кракавянку Газіліну» (140, 40).

Аб тым, што Скарына добра валодаў антычнай мовай, прамых сведчанняў мы не маем. Меркаваць пра гэта можна, ведаючы пра яго побыт у гуманістычнай Мецы — Італіі. Цяжка нават уявіць, каб «doctissimus juvenis» здаваў выдатна экзамены ў цэнтры гуманістычнай культуры без валодання найважнейшай зброяй гуманізму — лацінскай мовай. Што тычыцца грэчаскай мовы, то, хоць і разглядаюцца шматлікія выказванні Скарыны адносна яе (і стараяўрэйскай мовы таксама) як свайго роду выхвалянне, аднак ніхто не папракнуў Скарыну, што тыя грэчаскія словы ён пераклаў недакладна. Таму можна меркаваць, што, з'яўляючыся гуманістам па іншых прыкметах, ён і да гэтага меў дачыненне.

Стыль Скарыны не толькі не вывучаны, але ніхто ім увогуле не займаўся. А квяцістасць яго бачна даволі выразна (гаворка ідзе, зразумела, пра

мову прадмоў і пасляслоўяў). Характэрны ў гэтых адносінах канец прадмовы да «Прытчаў Саламона». Тая ж самая думка, якая ў іншых месцах выказана некалькімі словамі, тут пададзена разгорнута і квяціста (гл. у дадатках, стар. XXIII) *.

Пра эстэтычныя погляды Скарыны гаворыць афармленне яго выданняў, пра што мы пісалі.

Мы нічога не ведам аб перакладзе Скарынавага імя на антычны ўзор. Наўрад ці было правільным бачыць у прозвішчы магістра Франца Георгія Хрудзінеуса, які ў 1522 годзе здаваў экзамены ў Пражскім універсітэце, перараблене на грэчаскі манер імя Скарыны (хрома — шкура — скарына). У наступных даследаваннях і гэта праблема не павінна выйсці з-пад увагі. Скарына заўсёды называе сябе ў творах так: Скарына, Скарына з Полацка; у Кракаве — Літванус (Litphanus), у Падуі — Рутэнус (Ruthenus). А ў рэшце рэшт — не так гэта ўжо і важна.

Пра эротыку таксама нічога невядома. Відаць, у такім важным творы, як Біблія, не было патрэбы гэта адзначаць.

---

* Паколькі дадаткі ў кнігу не ўвайшлі, прыводзім названы ўрывак тут:
«Прото я, Францишек, Скоринин сын с Полоцька, в лекарскых науках доктор, разумея сее, иже без страху божия, без мудрости и без добрых обычаев не ест мощно, почтиве жити людем посполите на земли, казал есми тиснути Притчи или Присловия премудраго Соломона, сына Давыдова, царя Израилева, руским языком напред ко чти и к похвале створителю, спасителю, утешителю богу в троици единому и пресвятой, преблагословенной, пречистой матери его Марии, и всем небесным чином, и святым, и святицам божиим, потом людем простым посполитым к пожитку и ко розмножению добрых обычаев, абы, научившися мудрости, добре живучи на свете, милостивого бога хвалили по тому, яко же прилежить на великую высокость и велеможность имени его святого».

Такім чынам, бачым, што па другому комплексу прыкмет гуманістычныя рысы ў Скарыны выяўлены слабей. Значыць, па тых матэрыялах, якія маюцца ў нашым распараджэнні, канчатковыя вывады рабіць яшчэ нельга. Але і забывацца на іх мы таксама не маем права. А паколькі асаблівасці паўночнага напрамку гуманізму некалькі адрозніваюцца ад вышэйназваных, мы і звернемся да іх разгляду.

Гэты напрамак, які ў Карэліна (а тут мы выкарысталі галоўным чынам матэрыялы «Слоўніка» Бракгаўза і Эфрона) называецца нямецкім, адрозніваецца ад італьянскага і як бы ўсеагульнага ярка выяўленым патрыятызмам. Нямецкія гуманісты лічаць адной са сваіх галоўных задач «выгнаць варварства з Германіі» і «вырваць навуку ў рымлян». «З гэтай мэтай яны старанна перакладаюць на родную мову класікаў, шукаюць помнікі нацыянальнай старасвеччыны, адкрываюць школы, пішуць гістарычныя творы, дапаможнікі і памфлеты, насычаныя патрыятычным духам. Іх палітычны ідэал — адзінства Германіі... знаходзіць разуменне ў нямецкага народа».

«Другая асаблівасць нямецкага гуманізму — набожнасць яго прадстаўнікоў, якая абудзіла ў іх цікавасць да Св. пісання, дапамагла адрозніць каталіцтва і хрысціянства і прымірыць з апошнім новыя патрабаванні. Добрае веданне старых класічных моў яны выкарысталі, каб крытычна ацаніць прыняты тэкст і тлумачэнне Св. пісання; гуманістычны крытыцызм яны з поўнай паслядоўнасцю ўжылі да царкоўнага вучэння; засвоіўшы новы погляд на чалавечую прыроду, яны прымірылі яго з Пісаннем і зрабілі Біблію зброяй у барацьбе супраць сярэдневяковага аскетызму, а розум — аўтарытэтным суддзёй у справах веры... Набожнасць яднала нямецкіх гуманістаў з масамі і, акрамя та-

го, рабіла іх прыхільнікамі рэфармацыі...» Пра чыста нямецкі гуманізм гэтаксама выказваецца і Карэеў (173, 285): «Наогул можна сказаць, што Адраджэнне ў Германіі ў такой ступені характарызуецца набожнасцю і нацыяналізмам, як італьянскае — індыферэнтызмам і касмапалітызмам».

Здаецца дзіўным выдзяленне па гэтых прыкметах толькі нямецкага гуманізму. Ніхто не можа адмовіць італьянскім гуманістам у наяўнасці ў іх патрыятызму ці набожнасці. Нават і сам Карэлін ў манаграфіі (175, II, 1086) піша: «Раннія італьянскія гуманісты — гарачыя патрыёты». «...На досвітку гуманістычнага руху канчаткова сфарміравалася італьянская мова, што завяршыла стварэнне італьянскай нацыянальнасці. Гэты факт некаторыя даследчыкі лічаць адной з прычын гуманізму». «У Марсэля Падуйскага знаходзім, што асновай усяго з'яўляецца Св. пісанне» (173, I, 234). «Ларэнца Валла займаецца царкоўнымі пытаннямі» (173, I, 276). І такіх прыкладаў шмат. «Крытыцызм не быў такі моцны, каб зрушыць асновы каталіцызму» (175, II, 1068).

Мы б маглі прывесці прыклады з іншых даследчыкаў, але цікавай з'яўляецца сама супярэчнасць у названых вучоных. Мы лічым, што розніца была толькі ў часе. На той гістарычны перыяд, пра які ідзе гаворка ў нашым даследаванні, дыстанцыя паміж Італіяй і Германіяй, несумненна, існавала. Вось чаму выклікае здзіўленне думка, выказаная ў «Слоўніку» Карэліным: «У Францыі ... пазнейшыя гуманісты знаходзіліся ў цесным адзінстве з нацыянальным царкоўным рухам».

Калі ж вылучаць тую самабытную краіну, у якой дзве гэтыя адметныя рысы выявіліся ў найбольшай ступені, мы немінуча спынімся на Чэхіі, дзе за новае веравызнанне і нацыянальнае самавызначэнне

вялася больш чым стогадовая барацьба. «Адзнакі гуманізму ў Чэхіі можна знайсці яшчэ ў канцылярыі Карла IV. Гусіцкія войны, безумоўна, адхілілі чэхаў ад гуманізму...» (170, 22), але сам гусіцкі рух і ўвабраў у сябе гэтыя дзве асаблівасці. Пасля войн мы бачым у 1453 г. постаці Пракопа Пфлуга з Рабштэйна і яго брата Яна, пазней — Вацлава з Крумлёва.

У час Скарыны, як мы адзначылі, існавалі два рухі. Прадстаўнікі аднаго з іх не толькі не лічылі сваю мову варварскай, але нават ставілі яе ўпоравень з класічнымі. Па іх меркаванню, яна была вартай таго, каб выказваць на ёй самыя найтанчэйшыя адценні думак. Віктарын Карнэлій з Вшэгрд, стараннем якога «ў паўночную нашу радзіму прыйшло красамоўства, высакародная асвета, гордасць і пашана», як выказаўся пра яго Багуслаў з Лобкавіц, гаворыць: «Ведаючы, што я чэх, хачу вучыцца лацінскай мове, але пісаць і гаварыць хачу па-чэшску, бо не адчуваю пагарды да сваёй роднай мовы (хоць ёсць людзі, якія саромеюцца яе), а, наадварот, так яе люблю, што калі штосьці захацеў бы пісаць, то ўсё пісаў бы з большай ахвотай па-чэшску, чым на латыні» (прадмовы да перакладу «Аб выпраўленні распусніка» Іаана Залатавуснага; гл. 105, артыкул «Карнэлій з Вшэгрд»). Вацлаў Пісецкі ў лісце Ж. Грубаму з Елені піша: «Мне пакуль досыць за працу будзе, калі хто з тых чэхаў, якія ёсць ці калі-небудзь будуць, некалі хаця б прачытае» (180, 92).

Нешта падобнае можна сказаць і аб набожнасці чэшскіх гуманістаў. Але для нас дастаткова ўжо таго, што патрыятычная накіраванасць гуманізму праявілася не толькі ў Германіі і што адной з самых паслядоўных у гэтых адносінах краін у часы Скарыны была Чэхія. Гэты момант надзвычай важ-

ны для Скарыны, які ўжо сваім выданнем Св. пісання на роднай мове засведчыў сваю прыналежнасць да другога напрамку. А пры яго залежнасці ад чэшскай культуры гэта было з'явай цалкам натуральнай.

Што можна сказаць у заключэнне?

У першую чаргу трэба адзначыць, што амаль па ўсіх прыкметах, а галоўнае, па ўсіх найважнейшых, Скарыну можна лічыць тыповым гуманістам.

Па-другое, усёй сваёй працай ён належаў да патрыятычнага напрамку.

Па-трэцяе, і ў гуманістычнай дзейнасці Скарына знаходзіў для сябе прыклад у Чэхіі.

Па-чацвёртае, прыналежнасцю Скарыны да другога напрамку гуманізму можна вытлумачыць невялікія адхіленні яго ад руху ў цэлым. Зрэшты — малазначныя.

Па-пятае, гуманістычным характарам дзейнасці можна растлумачыць і тыя ўяўныя прыкметы схаластызму, апісаныя намі раней. Маецца на ўвазе Скарынаў рацыяналізм, набожнасць і дэмакратызм.

Сувязь Скарыны з гуманістычным рухам да гэтага часу даследавана не была.





## VIII. УПЛЫЎ ДЗЕЙНАСЦІ СКАРЫНЫ

Як з'ява ўнікальная на роднай глебе амаль ва ўсіх адносінах дзейнасць Скарыны тым самым прадугледжвае надзвычай моцны ўплыў.

Мы будзем адрозніваць прамы ўплыў Скарыны на сучаснае яму асвечанае грамадства, уплыў на больш шырокія слаі насельніцтва і ўплыў у сэнсе прагрэсу культуры.

Што тычыцца непасрэднага ўплыву на сучаснае асвечанае грамадства, пэўных сведчанняў ў нас мала. Судовыя дэкрэты нічога канкрэтнага па данаму пытанню не даюць. Імя Скарыны ўпамінаецца з неразлучным тытулам «доктар», але без усялякага ўказання на нейкае асаблівае значэнне; мы бачым таксама самае рознае стаўленне яго да вышэйшых слаёў мяшчанства Вільні і Полацка, якое, аднак, не засведчыла яго выразнай перавагі над усім грамадствам ці яго асаблівай пашаны; мы ведаем нават пра ўцёкі яго пад пратэктарства багатых, высокапастаўленых і пануючых асоб, што магло б, бадай, сведчыць пра яго знаходжанне ў вышэйшых колах грамадства. Толькі зыходзячы з логікі непазбежнасці, можна выказаць здагадку, што

Скарына, маючы бліскучую еўрапейскую адукацыю, якая значна вылучала яго на фоне айчыннага грамадства, як асоба моцная, дзейсная павінен быў уплываць на сваіх равеснікаў. Але, з другога боку, адрозненне магло выклікаць і супраціўленне менш адукаванай грамадскасці. Значыць, меркаванне аб уплыве на асяроддзе, якое супрацьстаяла гэтаму, з'яўляецца дачасным. А на карысць гэтага сведчаць: а) шматлікія складанасці ў жыцці Скарыны пасля вяртання дадому, якія прымусілі яго заняцца судовымі справамі, што, у рэшце рэшт, і прывяло да канфіскацыі маёмасці; б) тыя ж самыя ўцёкі пад пратэктарства высокапастаўленых пануючых асоб; в) перасяленне ў двор замежнага князя і прыняцце там падданства ў мэтах сваіх жыццёвых інтарэсаў; г) уцёкі пад пратэктарства замежнага манарха з надзеяй яго заступніцтва перад усёй вышэйшай айчыннай грамадскасцю; д) магчымы пераезд Скарыны ў Маскву і спальванне там яго твораў.

Такім чынам, з вялікай доляй верагоднасці можна сцвярджаць, што паміж Скарынам, дзейнасць якога апярэджвала свой час, і сучаснай яму менш адукаванай грамадскасцю, якая не магла яго зразумець, узнік канфлікт. У тым няма нічога дзіўнага, калі прыпомніць яшчэ горшы лёс папярэдніка Фіёля, сучасніка Максіма Грэка ў Маскве і пазнейшых Фёдарава і Мсціслаўца.

Як бачна з лістоў прускага герцага, куды лепш разумелі Скарыну на Захадзе. Там ён быў прыпісаны да ліку падданых і ў шэрагу самых блізкіх людзей высокаадукаванага герцага прыняты ў прыдворнае акружэнне. У першых трох лістах Скарыне ўзносіцца хвала як прафесару, вучонаму ці, карацей кажучы, проста выдатнаму гуманісту. Гэта ўсё нагадвае гісторыі з іншымі выдатнымі гуманіста-

мі: Багуславам з Лобкавіц, Цэльтысам, Пятраркам і інш. Тут Скарына ў ліку першых і такія людзі, як Лютэр, называюць яго чарадзеем (калі прызнаць Скарыну дзеючай асобай легенды Копітара). У другіх абставінах ступень разумення ўжо іншая. Напрыклад, калі ўрывак з ліста Жыгімонта Аўгуста сапраўды тычыцца Скарыны, можна засведчыць, што ў Маскве яго спаткаў яшчэ горшы лёс, чым дома.

Пра ўплыў дзейнасці Скарыны на больш шырокія слаі насельніцтва, для якіх, уласна кажучы, яна найперш і ажыццяўлялася, можна меркаваць па факту распаўсюджанасці кніг і наследаванню ім у будучым. Для гэтага ў нас ёсць пераканаўчыя сведчанні.

Уладзіміраў, прыводзячы на пачатку сваёй кнігі звесткі папярэдніх даследчыкаў, сам прысвячае гэтаму пытанню вялікі раздзел (43, 201—244). Праблему ён разглядае ў двух аспектах: «Уплыў выданняў Скарыны на пазнейшыя славянскія і рускія выданні з боку друкарскага майстэрства і прынцыпаў рэдагавання тэксту» (стар. 201—218) і «Пераклады Скарыны ў рукапісных спісах XVI стагоддзя» (стар. 218—244). Прывядзём яго выказванні, якія напачатку тычыліся толькі Беларусі і гістарычна звязанай з ёй Украіны (Літоўскай Русі).

«Сопікаў звязаў «Псалтыр» Мамонічаў 1575 года са Скарынавым і даў падставу думаць, што «Псалтыр» Скарыны перавыдаваўся некалькі разоў» (43, VIII).

«Вішнеўскі прыводзіць памылковыя звесткі аб перадруку Скарынавых выданняў «Апостала» (Іван Фёдараў у Львове ў 1574 г.) і «Псалтыра», паўтараючы памылку Сопікава» (43, XV).

На нашу думку, гэтыя памылкі сведчаць аб факце наследавання кнігам Скарыны.

Прыводзячы словы Галавацкага аб тым, што нельга вызначыць ступень пашыранасці Бібліі, перакладзенай свецкім чалавекам, Уладзіміраў піша: «Асабліва падрабязна спынясцца ён на рукапісе Стараануфрыеўскага манастыра, які ўключаў акрамя спісу друкаваных выданняў Скарыны яшчэ дзве кнігі «Параліпаменон». Даныя кнігі Галавацкі лічыць копіяй страчаных друкаваных перакладаў Скарыны, якія засталіся толькі ў рукапісах» (43, XVII—XVIII).

«Беларус»... лічыць «Апосталы» і «Псалтыры», надрукаваныя ў XVI стагоддзі на тэрыторыі Паўднёва-Заходняй Русі, «перадрукам Скарынавага перакладу» і дадае, што «кнігі Бібліі ў перакладзе Скарыны перавыдаваліся, асабліва некаторыя, па некалькі разоў» (43, XXII). Пры скептычным стаўленні Уладзімірава да гэтага вучонага мы можам прыняць адзначанае вышэй як факты наследавання творам Скарыны.

«Мітрапаліт Макарый..., згодна сведчанняў XVI стагоддзя, гаворыць, што Скарынавых кніг «не цураліся і праваслаўныя і дапускалі іх калі не ў царкоўны, дык у хатні ўжытак» (43, XXIV). (Макарый лічыць Скарыну р.-католікам.)

«Чыстовіч лічыць апісаны Галавацкім рукапіс «перапрацоўкай у Галіцкай Русі Бібліі Скарыны на зразумелую паўднёварускую гаворку» (43, XXIV).

«Максімовіч... адзначае, што Перасопніцкае евангелле пераклікаецца з «Апосталам» Скарыны 1525 года... Тое ж самае засведчылі Галавацкі і Жыпецкі» (43, 237).

Прыведзеныя звесткі, узятыя сярод іншых з манаграфіі Уладзімірава, дапоўнім новымі, яшчэ не сістэматызаванымі.

Вішнеўскі (171, VI, 582) піша, што «Будны ў

«Абароне веры» адзначае сярод іншых пісьменнікаў, творамі якіх карыстаўся, і Скарыну».

Максімовіч (45, 3) адзначае: «Верагодна, што тая ж самая віленская друкарня Скарыны апынулася потым у Нясвіжы. Там адступнік ад праваслаўя Сымон Будны... выдаў у 1562 годзе свой «Катэхізіс».

Буслаеў (24, 203) піша, што «правапіс у Скарыны пазнейшы рускі ці беларускі».

Гатцук (30, 323) указвае на адметнасць выданняў Скарыны з боку друкарскага майстэрства, адзначаючы, што «яны, верагодна, служылі ўзорам для рускіх друкароў аж да канца XVII стагоддзя».

Віктараў, параўнаўшы «Псалтыр» Скарыны 1517 года з ц.-славянскімі «Псалтырамі» розных часоў, прыходзіць да вываду, што «ён больш за ўсё набліжаецца да тэкстаў рукапісаў і друкаваных выданняў XVI стагоддзя». Гэта адзначаў у сваёй манаграфіі і Уладзіміраў (43, XX).

Больш за ўсё звестак прыводзіць Первольф. (Цікава, што Уладзіміраў і Первольф, прыводзячы часта адны і тыя ж факты, не ведаюць адзін пра аднаго.) У кнізе «Славяне...» (46, II, 595) Первольф падае сведчанне Анастасія Сялявы пач. XVII стагоддзя, надзвычай каштоўнае для асвятлення пытання. З яго відаць, што кнігі Скарыны былі шырока распаўсюджаны ў беларускай вёсцы і карысталіся там вялікай папулярнасцю. Для гэтага важна, што кнігі былі зразумелымі і што «брат іх русін выдаў. Дастойны быў гэта чалавек, яны гаварылі». Езуітам прыйшлося добра папрацаваць, каб даныя кнігі, як быццам бы гусіцкія, ад іх забраць. Мусілі для гэтага ўжываць і сілу. Затым Первольф прыводзіць шмат прыкладаў аб уплыве Скарынавых выданняў і аб іх распаўсюджанасці (у другой і ў трэцяй частках сваёй працы): «Прыклад Ска-

рыны аказаў уплыў на Рыгора, архімандрыта Перасопніцкага, і Міхайлу з Санока» (46, III, 2, 226). «Праз некалькі гадоў Лука з Цярнопаля паспрабаваў зрабіць Стары запавет больш зразумелым «людем посполитым рускаго языка» і пераклаў яго ў 1569 годзе «на руский язык». Ён спісаў кнігі Скарыны, нідзе не адзначаючы гэта» (46, III, 2, 227). «Біблія Скарыны перапісвалася і ў паўднёвай, Карпацкай, Русі, для праваслаўных рускіх і балгараў... Спробы перакласці Біблію ці паасобныя яе часткі на народную мову Паўднёва-Заходняй Русі былі яшчэ ў XVI і XVII стагоддзях. Але сустрэты яны былі не без адпору з боку прыхільнікаў і абаронцаў ц.-славянскіх кніг...» (46, III, 2, 228).

Аганоўскі (37, 170) адзначае, што Скарына меў уплыў і на Дзмітрыя з Зенькава.

Прывядзём яшчэ другія звесткі, названыя Уладзіміравым у іншых месцах сваёй працы.

«І пазнейшая царкоўная літаратура — павучальная, тэалагічная і перакладная — пачала развівацца на «руском языке» (43, 32). Пра гэта гаворка будзе весціся ніжэй.

«Пераклады царкоўных кніг XVI—XVII стагоддзяў на рускую мову сталі распаўсюджвацца для хатняга чытання не толькі сярод свецкіх грамадзян, але і сярод духавенства Паўднёва-Заходняй Русі» (43, 32).

«Негалеўскі ў с. Хорашаў Віленскай губерні перакладае Евангелле з польскай мовы» (43, 40).

Даныя пераклады на народную мову важныя для нас у тым сэнсе, што Скарына на гэтым шляху быў пачынальнікам.

«У манастырскія бібліятэкі набываліся «бітыя кнігі» Скарыны. У спісе кніг Супрасльскага манастыра 1557 года ёсць і выданні Скарыны» (43, 49).

«Апостал» Скарыны... адрозніваецца ад тэксту

1499 года... і мае падабенства з выданнямі XVI стагоддзя» (43, 180).

Раней у сваёй працы мы гаварылі аб перайманні скарынаўскага шрыфта Будным і Цяпінскім (43, 202).

«Разам з асноўным маскоўскім уплывам на віленскія і астрожскія выданні нельга не бачыць у іх і... уплыву Скарынавых выданняў. Застаўкі і вялікія літары ў віленскіх выданнях — Скарынавы... Ёсць таксама ўплыў на віленскую школу гравіроўкі па дрэве (згодна Стасаву): шматлікія застаўкі і вялікія літары надрукаваны з таго ж самага друкарскага матэрыялу, які служыў для Скарыны ў яго «Апостале» і «Канонах». Усе астатнія трэба лічыць надзвычай блізкімі копіямі» (43, 206).

«Маскоўскія друкары прынеслі з сабой асаблівы напрамак, які выявіўся ў выданнях ц.-славянскіх кніг «древних, с исправленных изводов», рускай рэдакцыі; але і ў гэтых адносінах, хаця і ў меншай ступені, паўтарылася тое ж самае, што мы бачылі ўжо ў выданнях XVI стагоддзя ў дачыненні да друкарскага майстэрства: спалучэнне асноўнага маскоўскага, велікарускага ўплыву з уласным напрамкам заходнерускай літаратуры, якое пэўным чынам выявілася ў дзейнасці Скарыны» (43, 207).

«Яшчэ пад уплывам Скарыны быў зроблены стары паўднёваславянскі пераклад «Песні песням» з пасляслоўем пра каханне» (43, 238).

Уладзіміраў нават робіць класіфікацыю рукапісаў, якія былі напісаны пад уплывам Скарыны, падзяляючы іх на тры тыпы:

1) перапісаныя з друкаваных кніг Скарыны. Гэта два рукапісы Пагодзіна (№ 86), кніга «Ісус Сірахаў» і калекцыя гр. Талстога (II, № 267 і I, № 62). У апошнім імя Скарыны перароблена на імя Васіля Жугаёва з Ярослава;

2) рукапісы, якія разам з кнігамі Скарыны, вядомымі ў друку, змяшчаюць таксама і іншыя кнігі, у друку невядомыя: а) рукапіс, пра які гаварыў Галавацкі; б) працяг рукапісу Пагодзіна (№ 85);

3) рукапісы са значнымі разыходжаннямі, а на той час самастойныя пераклады, своеасаблівы працяг Скарынавай працы. Уладзіміраў прыводзіць прыклады, знаёмыя нам па працах іншых даследчыкаў: рукапіс № 13 са збору Ундольскага 1870 года, спіс Скарынавых прадмоў у рукапісе поўнай Генадзісўскай біблii XVI стагоддзя, зроблены адразу ж пасля выдання яго кніг. Прыклады сведчаць, што ў сярэдзіне XVI стагоддзя ў Паўночна-Усходняй Русі былі вядомы ўсе кнігі Скарыны (43, 244). Гаворка пра гэта ў нас яшчэ будзе весціся.

Пасля Уладзімірава Карскі (79, 119) пісаў: «Самым блізкім да Мсціслаўскага рукапісу 1576 года з'яўляецца «Псалтыр» з «Малой падарожнай кніжкі», што цалкам зразумела, паколькі апошняя ў XVI стагоддзі была сапраўды шырока распаўсюджана».

Вазняк (87, II, 10) звяртае ўвагу на спісы ў манастыры Бабрэцкага раёна і тры спісы «Апостала» ў бібліятэцы Перамышльскага уніяцкага калегіума (зараз у Румянцаўскім музеі ў Маскве).

Папоў адзначае, што знайшоў некалькі кніг Скарыны ў Курску (гл. Уступ). «Вялікая колькасць старанна падклееных старонак і паношаны выгляд гэтых кніг сведчаць пра іх вялікую папулярнасць сярод украінскіх чытачоў ... якія пакідалі тут свае надпісы» (98, 13).

Што тычыцца ўплыву на прагрэс культуры, то акрамя вышэйназваных прыкладаў апісанне многіх з'яў, якія маюць свой выток у дзейнасці Скарыны, можна знайсці ў працы Франко (72, VI),

прысвечанай характарыстыцы ўкраінска-беларускай літаратуры XVI—XVIII стагоддзяў.

Увогуле ж пасля Скарыны ў беларускай літаратуры можна распазнаць тры напрамкі: 1) праваслаўны з яго акрэсленым імкненнем задаволіць патрэбы данай царквы; 2) каталіцка-пратэстанцкі (сюды далучаецца магаметанскі) і 3) цалкам свецкі.

Першы напрамак, як мы бачылі, развіваўся самастойна, без удзелу ў ім Скарыны. Ён характарызуецца традыцыйнай ц.-славянскай мовай, сваім паўднёваславянскім правапісам і спецыфічным ц.-славянскім шрыфтам, а таксама тым старым трансцэндэнтальна-сярэдневяковым духам, які доўга яшчэ вітаў над творамі данай літаратуры. Рух, заснаваны Скарынам, трапіў у яго недзе ў канцы XVI—пач. XVII стагоддзяў і то не ў выніку непасрэднага ўплыву Скарынавых твораў, а пад націскам пратэстанцтва і унітарства. Гэта, часткова, дзейнасць Мамонічаў у канцы XVI ст., першае «Евангелле» на народнай мове ў м. Еўе ў пач. XVII ст. і інш. Выдатную падтрымку знайшоў сабе гэты напрамак у маскоўскіх перасяленцаў: Фёдарава, кн. Курбскага і асабліва ў манаха Афонскага манастыра Івана з Вішні (Вішанскага). Яны былі прапаведнікамі і прапагандыстамі гэтага слабеючага напрамку і шукалі матэрыяльнай падтрымкі і новых выдатных пачынальнікаў у асобах гетмана Хадкевіча, кн. Астрожскіх, братоў Мамонічаў і ў царкоўных брацтвах. Рух ўвесь час хістаўся паміж старой традыцыяй і новым зместам духоўных пошукаў.

Другі напрамак развіваўся ўслед за самавыяўленнем Скарыны і паўтараў яго шлях не толькі ў мове і пісьме, але, часткова, і ў духоўнай скіраванасці працы. Розніца была толькі ў наяўнасці рэ-

лігійнага дагматызму. Пратэстанцкі рух пасля моцнага выбуху ў 60—80-х гадах XVI стагоддзя хутка згас. Да яго належаць згаданы Будны і Цяпінскі, а таксама Каладынскі з Віцебска. Сярод здабыткаў магаметанскага напрамку літаратуры — напісаны арабскім пісьмом, але беларускай мовай Каран і каментарыі да яго «Ай-Кітаб». Першы знаходзіцца ў Петраградскай публічнай бібліятэцы (109), другі ёсць у Празе ў прыватных руках. Каталіцкі літаратурны напрамак развіваўся адначасова з адраджэннем каталіцтва ва ўсёй Рэчы Паспалітай. На Беларусі прапагандай гэтага руху на беларускай мове займаўся Скарга, Пацей і езуіты.

Свецкі напрамак літаратуры ў адносінах да мовы таксама развіваўся па шляху, які праклаў Скарына. Розніца была толькі ў матывах яе выкарыстання. Сюды адносяцца: лісты Філона Кміты 1573—1574 гг., «Дзённік» Фёдара Еўлашоўскага (жыў у 1546—1604 гг.), «Тэстамент» Васіля Загароўскага 1577 года, знакамітая прамова Івана Мялешкі, сказаная як быццам бы на сейме 1589 года, вершы Андрэя Рымшы і такія «летапісы» абноўленага зместу, якім з'яўляецца Баркулабаўская хроніка і інш. Уплыў Скарыны быў адчувальным на ўсім пазнейшым развіцці культуры Беларусі і Украіны, пакуль ён не дасягнуў меж Маскоўскага княства (88; 101).

Такім чынам, можна лічыць, што Скарына як першы культурны дзеяч на беларускай ніве з выразна акрэсленай заходняй арыентацыяй меў уплыў на цэлую культурную эпоху, пачатак якой быў пакладзены ў XVI стагоддзі. Гэты перыяд у гісторыі культуры быў асвечаны імем Скарыны, што цалкам адпавядала агульнай арыентацыі Беларусі на культурныя і грамадскія адносіны ў Заходняй Еўропе. І мы бачым, што ўжо ў XVII стагоддзі яна

ва ўсім дасягнула ўзроўню Польшчы (125, 100). Ад сябе можам дадаць, што потым Беларусь перастала быць Беларуссю і стала другой Польшчай, яе правінцыяй. Намаганням Скарыны не было суджана цалкам ажыццявіцца і скончылася ўсё для Беларусі сумна, як сумным быў канец жыцця яго самога. Іншыя абставіны прывялі гэтыя намаганні на ростані, дзе яны страцілі арыентацыю і ў рэшце рэшт зніклі назусім. Народжаныя з неабходнасці супрацьстаяць Польшчы, яны, зліваючыся з ёй, перасталі існаваць.

Дзейнасць Скарыны не абмежавалася ўплывам на Беларусь і Украіну. Яе сляды былі заўважанымі і па-за іх межамі: і ў Маскоўскай Русі, і ў славян заходніх — палякаў, славенцаў, балгараў. Але паколькі даследаванне гэтых уплываў выходзіць за межы нашай працы, абмяжуемся вышэйсказаным.





## IX. ЗНАЧЭННЕ ДЗЕЙНАСЦІ СКАРЫНЫ

Па таму, якое месца займаў Скарына ў гісторыі айчыннай літаратуры, можна вытлумачыць і яго значэнне. Але паколькі ён як дзеяч заходнееўрапейскага напрамку паяднаў нацыянальную культуру перш за ўсё з культурай заходняга славянства і меў уплыў на славянства ўсходняе, мы не можам абмінуць увагай і даны бок пастаўленай праблемы. Таму па магчымасці мы будзем пашыраць рамкі даследавання, каб высветліць, якое месца займаў Скарына ў развіцці ўсеагульнага культурнага руху.

Пра значэнне Скарыны ў гісторыі айчыннай культуры напісана таксама шмат. Зразумела, што асвятленне гэтага пытання некаторымі даследчыкамі залежала часта ад таго, наколькі дзейнасць Скарыны адпавядала светапогляду самога вучонага.

Ужо Вішнеўскі (171, VIII, 466) называе выданні Скарыны «самымі вядомымі творамі ў беларускай літаратуры».

Іншую ацэнку дае ім Галавацкі. Лічачы Скарыну самазваным асветнікам, ён строга асуджае яго дзейнасць: «Злая іскра і поле спаліць, і сама згіне!» (27, 256).

Віктараў лічыць Скарыну выдатным культурным дзеячам і хоча бачыць у ім папярэдніка не Буднага і пратэстантаў, а Мамонічаў, кн. Астрожскіх і інш. (28, 20).

Аганоўскі (37, 159) піша: «Гэты муж пераламаў векавыя ўяўленні пра тое, што як быццам бы дзеля захавання святасці нельга перакладаць царкоўную Біблію на жывую мову. Ён бачыў у Германіі пераклад Бібліі Лютэра, бачыў сярод славян Біблію на чэшскай мове, дык не дзіва, што на карысць простага люду ён захацеў даць і Біблію рускую».

На працягу ўсёй сваёй кнігі Уладзіміраў разглядае Скарыну як культурнага дзеяча і робіць на гэты конт кароткае заключэнне: «У гісторыі асветы Паўднёва-Заходняй Русі працы Скарыны адыгралі выдатную ролю, не гаворачы ўжо пра тое, што самі кнігі яго як бліскучыя ўзоры друкарскага майстэрства былі важнай асветніцкай з'явай» (43, 172).

Пыпін (53, 380) адзначае: «Скарыне першаму належыць ідэя выдання Бібліі на рускай мове ці, дакладней кажучы, на такой, якая б зрабіла кнігу даступнай для простага народа... У час крайняй рэлігійнай заблытанасці пераклад Бібліі меў не толькі царкоўнае, але і агульнанацыянальнае значэнне. Такім ён і быў для Заходняй Русі». Ніжэй (53, 381) аўтар прызнае яго значэнне як чалавека свецкага.

Сабалеўскі, як мы бачылі, зводзіць дзейнасць Скарыны да ролі простага кнігадрукара, які даў Св. пісанне на дрэннай царкоўнаславянскай мове.

Сцяповіч (60, 516) адзначае, што «Скарына ўяўляе сабой выдатную з'яву ў гісторыі развіцця літаратуры і думкі ў Заходняй Русі, а праз яе... і ў астатняй Русі».

Франко (72, 711) ацэньвае Скарыну па факту стварэння ім літаратурна-народнай мовы.

Але асаблівую ацэнку дзейнасці Скарыны ў гі-

сторыі айчыннай літаратуры даюць украінскія і беларускія даследчыкі, якія называюць яго гуманістам і ад яго пачынаюць разгляд сярэдняга перыяду беларуска-ўкраінскага пісьменства. Перыяд, які беларускія гісторыкі (праф. Янчук, Пічэта, Гарэцкі) называюць «Залатым векам».

Новага да гэтага мала што можна дадаць. Таму мы толькі падсумуем тыя выказванні, якія былі зроблены ў адносінах да дзейнасці Скарыны на працягу ўсёй нашай працы.

Скарына, маючы бліскучую еўрапейскую адукацыю, быў адзін з самых прагрэсіўных мужоў тагачаснай Беларусі. Пасля сябе ён пакінуў сапраўдную энцыклапедыю свайго часу, напісаную народнай мовай (раздзел II). У сваім імкненні да працы ён не цураўся ні матэрыяльных інтарэсаў, ні рэлігійна-дагматычных мэт прапаганды таго ці іншага веравызнання, паколькі, стоячы вышэй айчыннага грамадства, натхнёны новымі ідэямі, якія ён чэрпаў з больш адукаванага Захаду (галоўным чынам, у блізкага яму аднакарэннага чэшскага народа), гарэў жаданнем шчыра паслужыць свайму народу (раздзел III). Гэта быў першы свецкі асветнік з развітым пачуццём самасвядомасці, які, падобна інтэлігенту свайго часу, вызваліўся ад сярэдневяковага трансцэндэнтальнага светасузірання і, бясконца любячы ўвесь свой народ і асабліва просты, першы пачаў вучыць на роднай мове, прапаведаваць новыя маральныя прынцыпы, абуджаць любоў і пашану да навукі як да вышэйшай дабрачыннасці (раздзел IV). Распачаўшы кнігадрукаванне на роднай глебе, ён далучыў яе да шэрагу культурнейшых зямель, а высокім майстэрствам друку прыўнёс новыя эстэтычныя паняцці (раздзел V і VI). Карацей кажучы, гэта быў першы і надзвычай тыповы гуманіст на роднай глебе, прычым з ліку вы-

датнейшых (раздзел VIII). Ён увайшоў у гісторыю як пачынальнік і натхніцель амаль усіх напрамкаў у галіне мысліцельнай культуры на Беларусі і Украіне. Яго творы хутка разышліся па ўсёй Усходняй Еўропе і знайшлі сабе месца і пад страхою бедных. Можна сказаць, што праз дзейнасць Скарыны Беларусь паступова пачала набываць характар заходнееўрапейскай краіны.

У гэтым кароткім аглядзе мы разгледзелі значэнне Скарыны на роднай ніве.

Дазволім сабе таксама коратка апісаць тут значэнне Скарыны і на ніве агульнаславянскай.

Жыццё і дзейнасць Скарыны самым непасрэдным чынам звязаны з усімі славянамі. Спачатку ён вучыцца ў польскім універсітэце ў Кракаве, потым блізка сутыкаецца са славянскімі студэнтамі ў іншых універсітэтах. Не выключаны кантакт з паўднёвымі славянамі ў Венецыі, магчыма нават быў уплыў на яго М. Маруліча. Потым жыццё звязвае Скарыну з Чэхіяй, дзе ён стварае свае працы, прызначаныя беларусам і ўкраінцам. Але карысць з іх маюць і балгары (47, III, 2, 228). Урывак з ліста Жыгімонта Аўгуста дае падставу думаць, што Скарына быў таксама ў Маскоўскай Русі.

Творы Скарыны, з'яўляючыся своеасаблівым адлюстраваннем чэшскай культуры, разыходзіліся сярод усіх славян, не зважаючы на розніцу ў веравызнанні. У нас ёсць, напрыклад, звесткі пра іх распаўсюджанне ў Маскоўскай Русі. Так, Сільвестр Мядзведзеў у першай рускай бібліяграфіі называе і кнігі Скарыны (43, 244). У сваіх «Поморских ответах» велікарускія раскольнікі на пачатку XVIII стагоддзя ў ліку аўтарытэтаў згадваюць і Скарыну (тамсама). Некаторыя вучоныя лічаць, што Пётр Мсціславец быў вучнем Скарыны (30, 331), а значыць, Скарына меў дачыненне да заснавання друку

і ў Маскве. (Ці не звязана гэта з тым урыўкам з ліста Жыгімонта Аўгуста?)

Пры перакладзе Біблії на польскую мову Будны карыстаўся і творамі Скарыны (43, II).

Добраўскі ў «Славянцы» (6, 153—156; 7, 149—152) прыводзіць звесткі пра тое, што кнігі Скарыны былі вядомы югаславу Тэзею Амбрэзію яшчэ ў 1539 годзе (43, 201).

Мы ўжо пісалі пра ўплыў шрыфта Скарыны на шрыфт славенскага асветніка Прымажа Трубера і Бахорыча.

Такім чынам, у дзейнасці Скарыны мы бачым нейкае сувязное звяно славянскіх культур. Зыходзячы ў сваёй працы з чэшскай культуры, Скарына распаўсюджваў яе дасягненні сярод іншых славян, галоўным чынам праз зразумелае для большасці з іх кірыліцкае пісьмо. Скарына выканаў тут місію ўсёй беларускай культуры, якая ў пасляскарынаўскі час, увабраўшы ў сябе элементы заходнееўрапейскай і перш за ўсё заходнеславянскай культуры, распаўсюджвала яе дасягненні на поўдзень і ўсход. Прыкладам гэтага можа служыць пазнейшая выдатная дзейнасць братоў Мамонічаў, а яшчэ праз некаторы час — дзейнасць украінскай Магілянскай акадэміі ў Кіеве.

Скарына пакінуў след і ў гісторыі ўсеагульнай культуры, далучаючы сваю радзіму да шэрагу культурнейшых зямель Захаду.

Сярод беларускіх адраджэнцаў пашырана думка, што пасля выдання на народнай мове Біблії Скарыны беларуская культура ў шэрагу другіх нацыянальных культур Заходняй Еўропы заняла трэцяе месца пасля нямецкай і чэшскай. Дзеячы Адраджэння маюць заўсёды ўзвышанае ўяўленне пра сваю мінуўшчыну. Аднак было б смешна гаварыць пра гэта ў даследаванні. Уся Еўропа ўжо мела

на той час даволі багатую рэлігійную і свецкую літаратуру на народных мовах. Што тычыцца аналогій Скарынавай Бібліі, то, маючы на ўвазе толькі факт выдання поўнай Бібліі на той ці іншай мове, беларускую можна аднесці аж на сёмае месца. Да Бібліі Скарыны былі выдадзены: іспанская ў Ферары і Валенсіі ў 1477 годзе (знішчана); італьянская ў Венецыі ў 1471 г.; галандская ў Коліне ў 1480 г.; французская ў Парыжы — 1487 г.; у Германіі 17 выданняў да 1518 г.; у Чэхіі першы поўны збор выдадзены ў 1410—1416 гг., першае друкаванае выданне — у Кутне-Горы ў 1487 г., у Празе — у 1488 г.; у Венецыі — 1506 г. Рукапісная Біблія была ў Польшчы ўжо на пач. XV стагоддзя, але друкаванай не было аж да 1561 г. (матэрыялы выкарыстаны з уводзінаў Сопікава і «Энцыклапедычнага слоўніка», арт. «Біблія і яе пераклады»). Але сама Біблія была ўсё ж па сваёй сутнасці творам сярэдневяковым, а тым часам ужо квітнела літаратура цалкам свецкая.

Калі ж ацэньваць дзейнасць Скарыны з пункту гледжання яго моўнай практыкі (увядзенне ў шырокі ўжытак народнай мовы), трэба сказаць, што тым самым ён далучыў сваю радзіму да ліку культурнейшых народаў. Калі ж гаварыць пра ўкараненне друку, то дзякуючы Скарыне Беларусь стала недзе на 14—16 месца, пакідаючы за сабой Балгарыю, Украіну і Маскоўскую Русь. (Звесткі з выданняў па гісторыі кнігадрукавання, якія прыведзены ў бібліяграфіі.) Гэта значыць, пашырэнне друку ішло сваім эвалюцыйным шляхам, на якім Беларусь заняла належнае ёй месца.

Так ці інакш, але і да ўсеагульна-культурнага прагрэсу Скарына таксама далучыўся на карысць сваёй радзіме. І ў гэтым яму слава.



# БІБЛІЯГРАФІЯ*


1. Бакмейстер. Опыт о библиотеке Императорской Академии Наук. СПб., 1779.

2. Bakmejster. Essai sur la bibliotheque de l'Academie des Scientes à St.-Pétersbourg.

3. Штриттер. Артыкул у час. «Опыт трудов вольного Российского собрания», Москва, 1783, № VI.

4. Алексеев. Артыкул «Рассмотрение славенской старопечатной книги «Апостола», которая справлена доктором Ф. Скориною из Полоцка, напечатана в Вильне ■ 1525 году» у час. «Опыт трудов вольного...», 1783, № VII.

5. *Dobrovský. «Literarische Nachrichten von einer auf Veranlassung der k. böhm. Geschelschaft der Wissenschaften im F. 1792 unternommen Reise nach Schweden» v «Neuere Abhandlungen der k. böhm. Geselschaft von Wissenschaften», 1795, st. 183—187.

6. *Добраўскі. Нататка ў час. «Slovanka», 1814, № I.

7. *Добраўскі. Нататка ў час. «Slovanka», 1815, № II.

8. *Dobrovský. Geschichte der Böhmischen Sprache und ältern Literatur. Prag, 1818.

9. *Dobrovský. Institutiones linquae slavicae dialectis veteris. Vindobonae, 1822.

10. *Dobrovský. Briefwechsel zwischen Dobrovský und Kopitar. Спб. Berlin, 1885.

11. *Сопиков. Опыт русской библиографии. Спб., 1813, т. 1.

12. Linde. «O literaturze rossyjskiej» v «Pamiętnik'u Warszawském», 1815, XI.

13. *Lelewel. Bibliograficznych ksiąg dwoje» Wilno, 1823, I.

14. Митроп. Евгений. Артыкул «Биографии российских писателей. Ф. Скорина» у час. «Сын Отечества», 1821.


---

* Апісанне бібліяграфічных крыніц даецца паводле дысертацыі І. С. Дварчаніна.

[1] Кнігі, адзначаныя зорачкай, мы мелі ў сваім карыстанні.

15. Митроп. Евгений. Словарь русских светских писателей. Москва, 1845, II.

16. Кеппен. Материалы для истории просвещения, № 11. Библиографические листы. Спб., 1826.

17. *Новицкий. О первоначальном переводе Св. писания на славянский язык. Киев, 1837.

18. *Kopitar. «De Facultatis Praqenae Medicinae Doctore Francisco Skorina Lithuano, Doctris Martini Lutheri insidiatore quaesho historica», артыкул у «Hesychii Gloscographi discipulus et epigl. russus», Vindobonae, 1840.

19. Kraszewski. Wilno od początków jego. Wilno, 1842, IV.

20. Wiszniewski. Historya literatury polskiej. Kraków, 1851, 8.

21. Архиепископ Филарет. Артыкул «Обзор русской духовной литературы» у час. «Ученые записки II Отд. Импер. Академии Наук», Спб., 1856.

22. Архиепископ Филарет. Обзор русской духовной литературы. Спб., 1884.

23. Архиепископ Филарет. Обзор русской духовной литературы. Харьков, 1859.

24. *Буслаев. Историческая хрестоматия. Москва, 1861.

25. Максимович. Артыкул «О Скорининых книгах печатных полоцких» у час. «Православный собеседник», 1863, № 2.

26. Ровинский. Русские граверы и их произведения с 1564 г. до основания Академии Художеств. Москва, 1870.

27. *Головацкий. Артыкул «Несколько слов о Библии Скорины и о рукописной русской Библии из XVI столетия, обретающейся в библиотеке монастыря св. Ануфрия во Львове» у час. «Науковый сборник», Львов, 1865.

28. *Викторов. Артыкул «Замечательное открытие в древнерусском книжном мире» у час. «Беседы в Обществе Любителей Российской Словесности», Москва, 1867.

29. *Белорус. Артыкул «Судьбы русского языка в костелах Северо-Западного края» у час. «Русский вестник», 1868, т. LXXVII.

30. *Гатцук. Артыкул «Очерк истории книгопечатного дела в России» у час. «Русский вестник», 1872, т. XCIX.

31. Петрушевич. Артыкул «Ф. Скорина, издатель в Празе Чешской в 1517, 1518 и 1519 г.» у час. «Слово», Львов, 1875.

32. Вахнянин. Артыкул «О докторе Ф. Скорине и его литературной деятельности» у час. «Справоздане дирекций ц. к. гимназий акад. во Львове на рок школьный 1878—79», Львов, 1879.

33. Митрополит Макарий. История Русской церкви. IX, Спб., 1879.
34. Чистович. Очерк истории Зап.-Русской церкви. Спб., 1882, I.
35. Строев. Артыкул у час. «Записки Имп. Академии Наук», 1882, I, т. 41.
36. Огоновский. Хрестоматия старорусская. Львов, 1881.
37. *Огоновский. История литературы русской. Львов, 1887, I.
38. Житецкий. Очерк звуковой истории малорусского наречия. Киев, 1876.
39. *Соболевский. Очерк из истории русского языка. Киев, 1884.
40. *Соболевский. Артыкул «Критика и библиография» у час. «Журнал Министерства Народного Просвещения», 1887, V.
41. Карский. Обзор звуков и форм белорусской речи. Москва, 1886.
42. *Каратаев. Описание славянорусских книг. Спб., 1878.
43. *Владимиров. Доктор Франциск Скорина, его переводы, печатные издания и язык. Спб., 1888.
44. Dorighelo. Laureati nella universita di Padova. II.
45. *Максимович. Артыкул «Книжная старина южнорусская» у час. «Временник имп. Общества истории и древностей», 1849, № 1.
46. *Первольф. Славяне, их взаимные отношения и связи. Спб., 1874, II, кн. 2.
47. *Первольф. Славяне, их взаимные отношения и связи. Спб., 1874, III, кн. 1, 2.
48. *Петрушевич. Артыкул «Отношение перевода Скорины к Вульгате и древне-славянскому тексту» у час. «Чтения в Обществе любителей духовного просвещения», 1877, кн. XI.
49. *Петрушевич. Артыкул «О начале книгопечатания на Руси вообще, а в гор. Львове в особенности» у час. «Временник Ставропигийского института с месяцесловом на год високосный», 1884, Львов.
50. К[аченовский]. Артыкул «По поводу юбилея первого русского печатника Ивана Федорова» у час. «Вестник Европы», 1884, кн. 3.
51. NN. «Вестник Славянства», 1888, I.
52. *Stankiewicz Maurycy. Kwartalnik Historyczny, 1889, maj.
53. *А. П[ыпин]. «Вестник Европы», 1888, кн. V.
54. *Соболевский. «Журнал Министерства Народного Просвещения». 1888, № 10.
55. *P[olívka?]. С. С. М., 1888.

56. *N... «Ataeneum», 1888.
57. N... «Филологические Записки», 1888, № V.
58. N... «Русский филологический Вестник», 1888, 1.
59. N... «Минские губернские ведомости», 1888.
60. *Степович. «Киевская Старина», 1888—9».
61. *Murko. Артыкул «Zur russischen Literaturgeschichte» у час. «Archiv für slavische Philologie», 1889.
62. Будилович. «Отчет о 32 присуждении наград гр. Уварова».
63. Булгаков. Иллюстрированная история книгопечатания и типографического искусства. Спб., 1889, 1.
64. *Пыпин. История русской этнографии. 1892, IV.
65. *Шляпкин. Артыкул «К биографии Франциска Скорины» у час. «Журнал Министерства Народного Просвещения», 1892, CCLXXX.
66. Соболевский. Артыкул «О языке печатных изданий Феола и Скорины» у час. «Чтения в Историческом обществе Нестора Летописца», III.
67. *Астафьев. Артыкул «Опыт истории Библии в России в связи с просвещением» у час. «Журнал Министерства Народного Просвещения», 1889, X.
68. Остроглазов. Артыкул «Книжные редкости» у час. «Русский Архив», 1891, № 8—9.
69. Кревецький. Артыкул «Нові видання по библіографіи українсько-білоруських стародруків» у час. «Записки Нав. Тов. им. Шевченка», LXXXVIII.
70. Житецькій. Артыкул у «Трудах III Археологического Съезда».
71. Владимиров. Образцы славяно-русского книгопечатания с 1491 г.», ч. 2.
72. *I. Franko. Charakterystyka literatury ruskiej v XVI—XVIII stól. «Kwartalnik historyczny», 1892, cz. VI.
73. Стасов. Собрание сочинений. Спб., 1894, т. II.
74. Соболевский. Южно-славянское влияние на русскую письменность. Спб., 1894.
75. *Владимиров. Артыкул «Начало славянского и русского книгопечатания в XV и XVI вв.» у час. «Чтения в Обществе Нестора Летописца», 1894, VIII.
76. Pulkowski. Dwieście najstarszych inkunabulów...
77. Сахаров. Образцы славяно-русского книгопечатания с 1491 года». Спб., 1891.
78. *Zíbrt. «Zobrazowání Trojice skupinou tři hlav za středoveku i v lidovém umení nynejsím». «Véstnik Královo. České společnosti Nauk», tř. fil.-histor.-jazykozpytná. Praha, 1895, č. VII.

79. *Карский. Западно-русские переводы псалтирей в XV—XVII веках. Варшава, 1896.
80. Карский. Образцы славяно-кирилловского письма с X по XVIII век. Варшава, 1902.
81. *Карский. Очерки славяно-кирилловской палеографии.
82. Соболевский. Артыкул «Книгопечатание» у «Богословской энциклопедии». Т. XII, Спб., 1911.
83. Ровинский. Подробный словарь русских граверов XVI—XIX вв. Спб., 1895.
84. А. Гр. Артыкул «Калі друкавалася першая беларуская «Біблія?» ў «Беларускім календары», 1912.
85. Титов. Типография Киево-Печерской Лавры. Киев, 1918. т. 1.
86. Барвиньский. Історія української літератури. Львів, 1920.
87. *Возняк. Історія української літератури. Т. II, ч. I. Львів. 1920.
88. *Гарэцкі. Гісторыя беларускай літаратуры. Вільня, 1921.
89. *Гарэцкі. Гісторыя беларускай літаратуры. Менск, 1924.
90. *Гарэцкі. Хрэстаматыя беларускай літаратуры. Вільня, 1923.
91. *Янчук. Гісторыя беларускай літаратуры (стары перыяд). Менск, 1922.
92. *Ігнатоўскі. Нарыс па гісторыі Беларусі. Менск, 1918.
93. *Ігнатоўскі. Нарыс па гісторыі Беларусі. Вільня, 1922.
94. Дорошкевич. Українська література. Київ, 1922.
95. Щелкунов. Искусство книгопечатания в его историческом развитии. Москва, 1923.
96. *Яремченко. Артыкул «Др. Франциск—Георгий Скорина, його життя та літературна і видавнича діяльність» у час. «Літературно-Науковий Вістник. Львів, 1923, кн. XI.
97. *Яремченко. Артыкул «Франциск—Георгий Скорина» у час. «Вірата знання», Монреаль, 1924, № 9—10.
98. *Попов. Початки друкарства и слов'ян. Київ, 1924.
99. *Огієнко. Артыкул «Друкарська трійця — Фіоль, Скорина і Хведорович. Історичний нарис із світанку українського друкарства» у час. «Літопис», Берлин, 1924, № 11—15.
100. *Дорошенко. Слов'янський світ. Прага, 1924.
101. *Пічэта. Гісторыя Беларусі. Масква, Ленінград, 1924.
102. *Ластоўскі. Артыкул «Доктар Францішак Скарына (1525—1925)» у час. «Крывіч», Коўна, 1924, № 2 (8).
103. *Станкевіч. Францішак Скарына — першы друкар Беларусі. Вільна, 1925.

104. *Огіенко. Історія українського друкарства. Т. 1. Історично-бібліографичний огляд українського друкарства XV—XVIII. Львів, 1925.
105. *Ottův Slovník naučny. 1899.
106. *Словарь Брокгауза и Ефрона.
107. *Finkel. Bibliografia historyi polskiej. Lwow, 1891.
108. *Zíbrt. Bibliografie české historie. Praha, 1900.
109. *Карский. Белорусы. Старая западно-русская письменность. Т. III, кн. II. Петроград, 1921.
110. *Миловидов. Артыкул «Новые документы, относящиеся к биографии доктора Франциска Скорины» у час. «Известия Академии Наук», 1917, № 2.
111. Батюшков. Белоруссия и Литва. Исторические судьбы Северо-Западного края. Спб., 1890.
112. Барвинський. Історичні причинки, розвідки, замітки, материали до історіи України-Руси, т. 1. Жовква, 1908.
113. Brückner. Geschichte der russischen Literatur, zweite Ausgabe Lejpzig, 1909.
114. Brückner. Historya literatury rosyjskiej. Lwow—Warszawa—Kraków, 1902, 1.
115. Беляев. Артыкул «Латинская церковь в Северо-Западном крае» у час. «Русский Вестник», 1870.
116. Владимиров. Артыкул «Житие Алексея, человека Божего, в западно-русском переводе» у час. «Журнал Министерства Народного Просвещения», 1887, X.
117. Владимиров. Артыкул «Обзор южно-русских и западно-русских памятников письменности от XI до XVII в.» у час. «Чтения в Обществе Нестора Летописца», 1890, кн. 4.
118. Грушевський. Історія України-Руси. Т. 4.
119. Geitler. «Litwa a Litwané». «Osvéta», 1874.
120. Holowackyj. «Sweipolt Fiol».— «Sitzungsberichte der philhist. Classe der keiser. Akademie», BdIXXXII, 1876.
121. Иловайский. Артыкул «Литовская Русь при Ягеллонах» у час. «Журнал Министерства Народного Просвещения»...
122. Лаппо. Западная Русь. Прага, 1923.
123. Любович. История Реформации в Польше.
124. Карский. Белорусы, т. 1, 2.
125. Konieczny. Dzieje Rosiji od najdawniejszych do najnowszych czasów. Wydanie skrocone. Warszawa, 1921.
126. Ключевский. Курс русской истории. Москва, 1916.
127. Пыпин. История русской литературы, т. 1, 1902.
128. Reinholdt. Geschichte der russischen Literatur von ihren Aufängen bis auf die Neues Zeit. Leipzig, 1886.
129. Турцевич. Хрестоматия по истории Зап. России. Вильна, 1892.

130. Турчинович. Обозрение истории Белоруссии с древнейших времен. Спб., 1857.
131. Fiedler. «Ein Versuch der Vereinigung der russischen mider römischen Kirche im sechszehnten Jahrhundert» «Sitzenberichte der Philos.-historischen Classe, der keiser. Akademie de Wissenschaften, BdXL, Wien, 1862.
132. Антонович. Монографии по истории Зап. и Южной России. Киев, 1885.
133. Антонович. Очерк истории Великого княжества Литовского до пол. 15. стол. Киев, 1878.
134. Faulmann. Illustrirte Geschichte der Buchdruckerkunst, ihrer Erfindung durch Iohann Guttenberg und ihrer technischen Entwickelung bis zur Gegenwart, Wien, Pest, Leipzig, 1882.
135. Loziński. «Spor drukarza z księgarzem w r. 1616».— «Kwartalnik Histor.», 1889.
136. Kadlec. «Počatky prava autorského». Č. Č. M., 1893.
137. Hanka. «Prvotisky české». Č. Č. M., 1852.
138. Šafařík. «O staroslovanských knihtiskářnách jmenovitě cyrillských v jihoslov. zemích.» Č. Č. M., 1842.
139. Bidlo. «Česká emigrace v Polsku v dobách husitských a mních Jeronim Pražský». Č. Č. M., 1895.
140. Brückner. Dzieje literatury polskiej w zarysie. T. 1, Warszawa, 1921.
141. Brückner. Geschichte der polnischen Literatur. Leipzig, 1901.
142. Chmielowskí. Historya literatury polskiej od czasów najdawneijszych do konca w. XIX. T. 1. Lwów, 1914.
143. Chrzanowski. Historya literatury niepodlegíej Polski. Warszawa, Lublin, Lódź, Poznań, Kraków, 1920.
144. Dresler. Polsko a Poláci. Praha, 1922.
145. Dvorský. «Dodatky a opravy k biografiím starších spisovatelů českých a k starší české bibliografii». Č. Č. M., 1884.
146. Любавский. Древняя русская история до конца XVI в. Москва, 1918.
147. Любавский. История западных славян. Москва, 1918.
148. Karłowicz. «Polácy na wszechnicy Heidelberskiej XV—XVII w.» «Rocznik tow. przyjaciół nauk poznańsk.», 1887, XV.
149. Jakubec. Dějiny literatury české. Praha, 1910, sv. 1.
150. Jireček. «Bibli staropolska», Č. Č. M., 1864.
151. Jireček. «Rozbor českého překladu starého zákona», Č. Č. M., 1864.
152. Гильфердинг. Гус и его отношение к православной церкви. Спб., 1893.
153. Máchal. Slovanské literatury, 1. Praha, 1922.

154. Murko. Geschichte der altern südslavischen Literaturen. Leipzig, 1908.
155. Novotný z Luže. Biblioteka českých biblí od 13 v. až do léta 1810. Praha, Ml. Boleslava, 1810.
156. Palacký. Dějiny národa českého. Sv. III, V.
157. Palacký. «O českém jazyku. Usudek Lukáše Hórnického Poláka, starosty Wasilkowského a Tykotinského w druhé pol. 16 st.», Č. Č. M., 1830.
158. Palacký. «Jazyk český na dvoře litevském», Č. Č. M., 1831.
159. Первольф. Славяне, их взаимные отношения и связи, т. 1, 2, 3. Варшава, 1886—1888.
160. Pervolf. «Čechové a Poláci v XV a XVI st.», «Osvěta», 1873.
161. Первольф. Язык словенский и его судьбы у народов славянских. Варшава, 1895.
162. Пыпин и Спасович. История славянских литератур. Спб., 1879.
163. Patera. «Musejní zbytky staročeského Žaltaře asi z poč. XVI stol.» Č. Č. M., 1886.
164. Rezek. «Zvolení Ferdinanda I za krále českého», Č. Č. M., 1876.
165. Rezek. «Příspěvky k dějinam českým za králů Vladislava a Ludvika», Č. Č. M., 1882.
166. Rezek. «Umluvy sjezdu vídenského r. 1515 a jejich význam pro volbu českou r. 1526», Č. Č. M., 1881.
167. Šmaha. Králická bible a vliv její na pozdější překlady biblí českých.
168. Tadra. Kulturní styky Čech s cizínou až do valek husitských. Praha, 1897.
169. Tomek. Dějepis mesta Prahy. Sv. 8—9. Praha, 1891.
170. Winter. Děje vysokých škol pražských od secesí cizích národů po dobu bitvy bělohorské (1409—1622). Praha, 1897.
171. Wiszniewski. Historya literatury polskiej, t. IV—VII—VIII.
172. Winter. O životě na vysokých školách pražských. Praha, ...
173. Кареев. История Европы в новое время.
174. Кареев. Литературная эволюция на Западе.
175. Карелин. Ранний итальянский гуманизм и его историография, т. 1, 2, Москва, 1892.
176. Каутский. Из истории общественных движений (История социализма), т. 1. Спб., 1908.
177. Каутский. Предшественники социализма. Москва, 1922.

178. Truhlář. «Život a působení Jana Šlechty ze Všehrd», Č. Č. M., 1879.

179. Truhlář. «Sigismund Gelenius, jeho život a působení vědecké», Č. Č. M., 1886.

180. Truhlář. «Václav Písecký. Obráz dějin osvěty v Čechách na poč. XVI st.» Č. Č. M., 1876.

181. Truhlář. «Paberky z rukopisů Klementinských», Věstník České Akademii», 1876, VI.

182. Truhlář. «Příruční kniha humanisty českého starší doby», «Věstník České Akademii», 1897, VI.

183. Truhlář. «Humanismus v Čechách», Č. Č. M., 1870.

184. Truhlář. «Šlechta a Erazmus», Č. Č. M., 1879.

185. Труглярж. Невялікія артыкулы ў Č. Č. M., 1876.

186. Drtina. Myšlenkový vývoj evropského lidstva. Praha, ...

187. Bernheim. «Einleitung in Geschichtslehre». Рускі пераклад пад рэд. Сабліна.

188. Перетц. Краткий очерк методологии истории русской литературы.

189. Порфирьев. История русской словесности, ч. I, 1886.

190. Галахов. История русской литературы древней и новой, ч. I, 1894.

## ЗМЕСТ

Научное издание

**Дварчанин Игнат Семенович**

**ФРАНТИШЕК СКОРИНА
КАК ДЕЯТЕЛЬ КУЛЬТУРЫ
И ГУМАНИСТ НА БЕЛОРУССКОЙ НИВЕ**

Минск, издательство «Навука і тэхніка»

*На белорусском языке*

Навуковае выданне

**Дварчанін Ігнаг Сымонавіч**

**ФРАНЦІШАК СКАРЫНА
ЯК КУЛЬТУРНЫ ДЗЕЯЧ
І ГУМАНІСТ НА БЕЛАРУСКАЙ НІВЕ**

Рэдактар
*У. М. Ківатыцкі*

Мастак
*Т. П. Кулажэнка*

Мастацкі рэдактар
*В. А. Жахавец*

Тэхнічны рэдактар
*Т. В. Лецьен*

Карэктар
*Л. С. Ягоранкава*

ІБ № 3810

Здадзена ў набор 12.02.91.
Падпісана ў друк 27.06.91.
Фармат 70×100¹/₃₂.
Папера друк. № 1.
Гарнітура літаратурная.
Высокі друк. Ум. друк. арк. 7,74.
Ум. фарб.-адб. 8,12.
Ул.-выд. арк. 7,63.
Тыраж 2600 экз. Зак. № 149
Цана 2 р.
Выдавецтва «Навука і тэхніка»
Акадэміі навук БССР
і Дзяржаўнага камітэта БССР па друку.
220600. Мінск. Жодзінская, 18.
Друкарня імя Францыска Скарыны
выдавецтва «Навука і тэхніка».
220600. Мінск. Жодзінская, 18.

**Дварчанін І. С.**

Д22 Францішак Скарына як культурны дзеяч і гуманіст на беларускай ніве / Перакл. Т. М. Кароткай.— Мн.: Навука і тэхніка, 1991.—187 с.

ISBN 5-343-00645-0.

Дварчанин И. С. Франтишек Скорина как культурный деятель и гуманист на белорусской ниве.

**Дысертацыя Ігната Дварчаніна (1895—1937), абароненая ў 1926 г. у сценах Карлава універсітэта ў Празе, з'яўляецца першым у беларускім літаратуразнаўстве даследаваннем аб Ф. Скарыне. Дзейнасць Ф. Скарыны разглядаецца з гуманістычных пазіцый у агульнаеўрапейскім кантэксце.**

**Разлічана на філолагаў, гісторыкаў, грамадазнаўцаў, усіх, хто цікавіцца гісторыяй беларускай культуры.**

**4603020102—058**

**Д ―――――――――― 134—90 ББК 83.3 Бел1+87.3(2)+63.3(2)4**

**М 316 (03) — 91**

**У выдавецтве**

**«НАВУКА І ТЭХНІКА»**

*рыхтуецца да друку:*

ЯНКОЎСКІ Ф. М.

**БЕЛАРУСКІЯ ПРЫМАЎКІ,**
**ПРЫКАЗКІ І ФРАЗЕАЛАГІЗМЫ**

*Аб'ём — 18 арк. Арыенціровачная цана 2 р. 50 к.*

Старанна адабраныя, прафесійна апрацаваныя аўтарам беларускія прымаўкі і прыказкі даюць цэласнае ўяўленне аб глыбіні мовы беларускага народа.

Для шырокага кола чытачоў.

*Папярэднія заказы накіроўваць на адрас:*
*220015. Мінск,*
*Ленінскі праспект, 72.*
*Магазін «Акадэмкніга».*

**У выдавецтве**

**«НАВУКА І ТЭХНІКА»**

*рыхтуецца да друку:*

САНЬКО З. Хв.

**МАЛЫ РУСКА-БЕЛАРУСКІ СЛОЎНІК ПРЫКАЗАК, ПРЫМАВАК І ФРАЗЕМ**

*Аб'ём — 10 арк. Арыенціровачная цана 2 р. 50 к.*

Як сказаць па-беларуску *бабушкины сказки, задним умом крепок, делу—время, потехе—час, на чужой каравай рот не разевай?* На гэтыя і іншыя пытанні чытач знойдзе адказ у прапануемай кнізе.

Адрасуецца ўсім, хто хоча добра валодаць беларускай мовай.

*Папярэднія заказы накіроўваць на адрас:*
*220015. Мінск,*
*Ленінскі праспект, 72.*
*Магазін «Акадэмкніга».*